# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

## 1968 г.

**XII год выдання**

БЕЛАСТОК

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы

Рэдактар календара
САКРАТ ЯНОВІЧ

Аўтар вокладкі
СТЭФАН РЫБІ

Мастацкія здымкі
УЛАДЗІМІРА ПАЎЛЮЧУКА

Карэктар
ВАЛЯНЦІНА ЖЭШКА

WYDAWCA: ZARZĄD GŁÓWNY BIAŁORUSKIEGO TOWARZYSTWA SPOŁECZNO-KULTURALNEGO W BIAŁYMSTOKU

Drukowano na papierze druk. sat. V kl. 70 g. Maszynopis oddano do składania 6 czerwca 1967 r. Podpisano do druku w sierpniu 1967 r. Druk ukończono w październiku 1967 r. Objętość 14 ark. drukarskich. Nakład 6.000 egz. Drukowano w Białostockich Zakładach Graficznych. Zam. 2569. M-1. Cena 7 zł.

## КАЛЯНДАР НА 1968 ГОД

| Тыдзень | Месяц | Панядзелак | Аўторак | Серада | Чацвер | Пятніца | Субота | Нядзеля | Тыдзень | Месяц | Панядзелак | Аўторак | Серада | Чацвер | Пятніца | Субота | Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 27 | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 2 | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 28 | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 3 | I | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 29 | VII | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 4 | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 30 | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 5 | | 29 | 30 | 31 | 1 | 2 | 3 | 4 | 31 | | 29 | 30 | 31 | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 6 | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 32 | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 7 | II | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 33 | VIII | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 8 | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 34 | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 9 | | 26 | 27 | 28 | 29 | 1 | 2 | 3 | 35 | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 1 |
| 10 | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 36 | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 11 | III | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 37 | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 12 | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 38 | IX | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 13 | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 39 | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 14 | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 40 | | 30 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 15 | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 41 | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 16 | IV | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 42 | X | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 17 | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 43 | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 18 | | 29 | 30 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 44 | | 28 | 29 | 30 | 31 | 1 | 2 | 3 |
| 19 | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 45 | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 20 | V | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 46 | XI | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 21 | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 47 | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 22 | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 1 | 2 | 48 | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 1 |
| 23 | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 49 | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 24 | VI | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 50 | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 25 | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 51 | XII | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 26 | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 52 | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | | | | | | | | — | | 30 | 31 | | | | | |

# «ЗА НАШУ І ВАШУ СВАБОДУ»!

16 снежня 1918 года адбыўся аб'яднаўчы з'езд Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы, і Польскай Партыі Сацыялістычнай - Левай, якія кіравалі праўдзіва рэвалюцыйным рабочым рухам на польскіх землях. На гэтым з'ездзе пастаноўлена ўтварыць адзіную Камуністычную рабочую партыю Польшчы (КПРП). Аб'яднанне рэвалюцыйных сіл Польшчы ў адзіную партыю з'явілася пераломнай падзеяй у гісторыі нашага рабочага руху.

Прынятая гэтым з'ездам палітычная платформа і маніфест **«Да пралетарыята Польшчы»** сталі праграмай дзейнасці КПРП у першыя гады яе існавання. У гэтых дакументах КПРП засведчыла аб сваёй салідарнасці з ідэямі Кастрычніцкай рэвалюцыі, з Расійскай Камуністычнай партыяй (бальшавікоў) і Савецкім урадам. Мэтай КПРП з'яўлялася знішчэнне капіталістычнага ладу і ўстанаўленне ў Польшчы дыктатуры пралетарыята ў форме Рад рабочых дэпутатаў. КПРП рашуча падтрымала Леніна ў яго барацьбе з апартуністамі.

**КПРП паставіла сваёй задачай выхаванне працоўных розных нацыянальнасцей і веравызнанняў у духу класавай салідарнасці і еднасці ў іх сумеснай барацьбе супроць эксплуататараў.**

КПРП, як рэвалюцыйная партыя пралетарыята, карысталася значнымі ўплывамі сярод рабочых буйных прамысловых цэнтраў, асабліва, у Дамброўскім каменнавугальным басейне, у Лодзі і ў Варшаве. У 1919—1920 гадах яна ўзначаліла класавыя бai рабочага класа, у тым ліку і сельскагаспадарчых рабочых, актыўна выступала супроць антысавецкай авантуры Пілсудскага ў 1920 годзе, які імкнуўся захапіць Беларусь і Украіну — рашуча выступіла супроць імперыялістычнай палітыкі стварэння «вялікай Польшчы ад мора да мора».

Ад 1919 года КПРП знаходзілася на нелегальным становішчы, дзейнічала ў глыбокім падполлі. Яе дзеячаў і актывістаў арыштоўвана, па-зверску катавана, суджана на шматгадовае турэмнае зняволенне. Аднак, польскай буржуазіі не ўдалося зламаць камуністаў, адданае змаганне якіх выклікала прагрэсіўныя настроі сярод польскай грамадскасці.

Потым, праз усё міжваеннае дваццацігоддзе, польскія камуністы дзейнічалі ў падполлі. **Былі паслядоўнымі інтэрнацыяналістамі, выступалі ў абарону правоў нацыянальных меншасцей тагачаснай Польшчы,** супраць разбойніцкага захопу беларускіх, украінскіх і літоўскіх земляў польскім буржуазна-памешчыцкім урадам. Уласным прыкладам неслі нязгасную ідэю салідарнасці ўсіх працоўных свету, актыўна абараняючы Савецкі Саюз, як першую сацыялістычную дзяржаву.

Асаблівае значэнне меў II-гі з'езд КПРП у 1923 годзе, на якім высунута праграму ў нацыянальных справах — абарона суверэнітэту і незалежнасці Польшчы, права народаў да самавызначэння.

У гэтым месцы варта зазначыць, што ўжо ў 1921 годзе існавала ў Беластоку моцная падпольная арганізацыя КПРП, якая падтрымоўвала сувязь з Варшаўскім цэнтрам. Дзейнічалі ў нашым горадзе такія старыя рэвалюцыянеры, удзельнікі Грамадзянскай вайны, як — Я. Рывес, С. Дубовік, С. Мілер, М. Блінчыкаў, Р. Каган. У недалёкай будучыні сталі яны актыўнымі арганізатарамі КПЗБ, якая дзейнічала ў рамках КПРП на аўтаномных правах.

Ад 1925 года КПРП змяніла назву на Камуністычную партыю Польшчы (КПП). Пад яе кіраўніцтвам дзейнічаў Камуністычны Саюз Моладзі Польшчы (КЗМП) і «Чэрвона Помоц», а таксама некаторыя легальныя выданні, і гаспадарчыя арганізацыі кааператыўнага тыпу. Апошні, V-ты, з'езд КПП адбыўся ў 1938 годзе. Нягледзячы на праследванні і кадравы характар партыі, якая налічвала каля 20 тысяч членаў, яе ўплывы безупынку пашыраліся — асабліва, у гадах 1935—1937, калі партыя намагалася аб'яднаць усе прагрэсіўныя сілы краіны для барацьбы супроць дыктатуры санацыі. Галоўнымі заклікамі ў тыя часы былі: — стварэнне адзінага рабочага фронту КПП і ППС, а таксама антыфашыстоўскага народнага фронту, абарона незалежнасці Польшчы, што знайшлася пад пагрозай гітлераўскай Нямеччыны, барацьба супроць фашыстоўскай канстытуцыі за дэмакратычныя свабоды, барацьба з беспрацоўем, барацьба за права да працы і навукі, за зямлю сялянам, за амністыю для палітычных вязняў, за ліквідацыю санацыйнага канцлагера ў Картуз-Бярозе.



Дзейнасць КПП радыкалізавала польскую інтэлігенцыю і культуру.

У 1938 годзе, ў выніку правакацыйных і няслушных абвінавачванняў, Выканаўчы Камітэт Камуністычнага Інтэрнацыянала прыняў пастанову аб роспуску Камуністычнай Партыі Польшчы. Яе барацьбу праводзілі камуністы надалей, гуртуючыся ў групы — або індывідуальна.

Загінулі такія выдатныя дзеячы польскай партыі, як **Вера Кастжэва** (Марыя Кашутская), выдатны тэарэтык польскага рабочага руху; **Адальф Варскі - Варшаўскі,** дзеяч міжнароднага рабочага руху, пасол польскага Сейма ў гадах 1926 — 1929; **Юльян Ленскі** — яго праўдзівае прозвішча, **Ляшчынскі** — генеральны сакратар КПП, які меў вялікія заслугі ў выпрацоўцы і рэалізацыі ў польскім і міжнародным камуністычным рабочым руху стратэгіі адзінага рабочага і антыфашыстоўскага фронту.

Вялікае змаганне КПП і нявінна пралітая кроў польскіх камуністаў не былі дарэмнымі. У цяжкія хвіліны польскі народ меў заўсёды вернага і разумнага кіраўніка ў асобе сваіх камуністаў, гатовых на смерць за справу народа. Яскрава паказана гэта геройская барацьба пазнейшай ППР у цёмныя часы гітлераўскай акупацыі і ў не менш цяжкія пасляваенныя гады нацыянальнага будаўніцтва і адраджэння.

# КПЗБ

Другі з'езд Камуністычнай рабочай партыі Польшчы звярнуўся з маніфестам да ўсіх рабочых і сялян, салдатаў, працоўнай інтэлігенцыі, да ўкраінскіх, беларускіх, нямецкіх і літоўскіх працоўных, заклікаючы іх да звяржэння ўлады буржуазіі ды памешчыкаў, за рабоча-сялянскі ўрад, за зямлю сялянам, за права нацый да самавызначэння і г. д. Быў гэта 1923 год, бурлівы і рэвалюцыйны час у Польшчы. Маніфест падпісалі дэлегацыі ўсіх прадстаўленых на з'ездзе партыйных арганізацый КПРП і ў іх ліку — Беластока, Брэста і Вільні.

Адносна Заходняй Беларусі з'езд прыняў пастанову, у якой указвалася:

«Прызнаючы неабходнасць стварэння беларускай тэрытарыяльнай арганізацыі на такіх жа прынцыпах, што і КПЗУ, з'езд перадае гэтае пытанне ў ЦК».

Гэта пастанова непасрэдна акрэсліла стварэнне **Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.**

У канцы кастрычніка 1923 года ЦК КПРП склікаў у Віль-

ню нелегальную канферэнцыю прадстаўнікоў усіх існуючых на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Віленскай акругі партыйных камітэтаў. Гэта была першая ўстаноўчая канферэнцыя КПЗБ. У склад Цэнтральнага Камітэта КПЗБ былі выбраны наступныя асобы: С. Мілер, С. Дубовік, «Стары», А. Букегорн, С. Мертэнс. Новаўтвораная КПЗБ налічвала 528 членаў.

Утварэнне Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якая ўзначаліла рэвалюцыйную барацьбу працоўных Заходняй Беларусі, а таксама Беластоцкай прамысловай акругі, мела велізарнае значэнне ў развіцці рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху. Разам, сумесна з КПРП (потым КПП) Кампартыя Заходняй Беларусі ўпарта змагалася за перамогу пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы, за ліквідацыю панскіх маёнткаў і перадачу зямлі сялянам без выкупу, за права самавызначэння Заходняй Беларусі, уключна да адарвання яе ад Польшчы і ўз'яднання з Беларускай ССР. КПЗБ шырока прапагандавала ў масах дасягненні савецкага народа ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, змагалася супроць антысавецкай знешняй палітыкі польскага ўрада, выступала ў абарону Саюза ССР, у абарону БССР. **Партыя гэта выхоўвала рабочых і сялян у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму і салідарнасці з працоўнымі Польшчы і Заходняй Украіны. У яе радах змагаліся за справу сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення поплеч сябе — беларусы, палякі, жыды, украінцы, літоўцы.**

Беларуская інтэлігенцыя, адкінутая і нацыянальна паніжаная польскімі акупантамі, моцна сімпатызавала з КПЗБ, якая з'яўлялася сімвалам ідэі і палітыкі, што стварылі першую ў гісторыі беларускую дзяржаву — Беларускую ССР. Беларуская інтэлігенцыя з асаблівым задавальненнем і гордасцю ўспрыймала такія мерапрыемствы Савецкай улады ў галіне нацыянальнай палітыкі ў Беларускай ССР, як прызнанне беларускай мовы дзяржаўнай, афіцыйнай мовай — развіццё беларускай школы, літаратуры, тэатра, стварэнне ў Мінску Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта, Дзяржаўнага выдавецтва на беларускай мове, Інстытута беларускай культуры і г. д.

У канцы 1923 года ў КПЗБ улілася падпольная Беларуская Рэвалюцыйная Арганізацыя (БРА), якая налічвала каля двухсот членаў і некалькісот прыхільнікаў БРА. Кіраўнікі БРА І. Лагіновіч, А. Канчэўскі, Л. Радзевіч, А. Капуцкі былі кааптаваны ў склад ЦК КПЗБ, які знаходзіўся ў Беластоку. Увесну 1924 года была створана ў Беластоку КПЗБ-оўская падпольная друкарня. Знаходзілася яна на кватэры рабочага






Тэрыторыя, на якой разгортвалася дзейнасць Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі.

У. Пейсаховіча. Увосень таго ж года была створана другая друкарня, тым разам у Вільні. У гэтай друкарні штомесяц друкавана орган ЦК КПЗБ газету на беларускай мове **«Чырвоны Сцяг»**. У той час КПЗБ мела 38 партыйных арганізацый у гарадах і 54 — у вёсках. У 1924 годзе, напрыклад, у Гродзенскім павеце партыйныя арганізацыі існавалі ў Крынках, Скідэлі, Індуры, а таксама ў Саколцы.

У гарадах узніклі першыя камсамольскія арганізацыі, якія працавалі пад кіраўніцтвам КПЗБ. Ужо ў 1923 годзе ў Беластоку было 80 камсамольцаў, у Гродне — 20, у Слоніме — 20, у Пінску — 22 камсамольцы. У пазнейшыя гады камсамольскія арганізацыі дабіліся вельмі шырокага ўплыву сярод моладзі — між іншым, вясковай моладзі. У сярэдзіне 1924 года заходнебеларускую камсамольскую арганізацыю ўзначаліла слаўная дачка беларускага народа, Вера Харужая. Пачала выходзіць заходнебеларуская камсамольская газета — **«Малады камуніст»**.

Папулярнасць КПЗБ сярод заходнебеларускіх мас была нязвыклая. Вынікала гэта не толькі з таго, што партыя змагалася за лепшае будучае для агалелых заходнебеларускіх вёсак і мястэчак, гарадоў. КПЗБ паслядоўна адстойвала нацыянальныя правы беларусаў — мабілізавала да змагання за годнае трактаванне беларускай мовы, за арганізацыю беларускіх школ, за раўнапраўнасць усіх людзей без розніцы на іх нацыянальнае і рэлігійнае паходжанне. Характэрнае, што КПЗБ — дзейнічаючы ў трохмільёнавай Заходняй Беларусі, налічвала каля 4—5 тысяч членаў. З прычыны канспірацыйнага характару дзейнасці дакладныя лікі тут, вядома, немагчымыя. Для цікавасці варта дадаць, што паводле апошніх даследванняў, значная частка членаў КПЗБ — штосьці каля 600 — групавалася ў партыйных ячэйках даўняга Бельскага павета.

У сярэдзіне трыццатых гадоў, калі нарастала хваля фашызму, уплывы КПЗБ павялічыліся непамерна. Першамайская дэманстрацыя ў 1936 годзе ў Беластоку была адной з найбольшых. Дэманстранты няслі сцягі і 46 транспарантаў з рэвалюцыйнымі лозунгамі, спявалі польскія і беларускія рэвалюцыйныя песні. На заканчэнне дэманстрацыі ў гарадскім кінатэатры адбыўся вялікі мітынг.

Дзейнасць КПЗБ цяжка пераацаніць. Мела яна велізарнае значэнне ў ідэалагічным выхаванні беларускіх мас, што прысяшыла іх палітычную спеласць і самастойны крытычны падыход да з'яў грамадскага жыцця.



# АБ'ЯДНАННЕ ПОЛЬСКАГА РАБОЧАГА РУХУ

Польская аб'яднаная рабочая партыя ўтворана дваццаць год таму назад — 15 снежня 1948 года на аб'яднаным Кангрэсе Польскай рабочай партыі і Польскай сацыялістычнай партыі. У Кангрэсе ўдзельнічалі дэлегаты выбраныя на павятовых канферэнцыях абедзвюх партый. Напярэдадні Кангрэсу адбыліся асобныя з'езды ППР і ППС, якія аднагалосна прынялі пастановы аб аб'яднанні польскага рабочага руху.

Шматгадовыя намаганні ў напрамку аб'яднання існуючага паўвяковага расколу ў польскім рабочым руху закончыліся перамогай. Утварэнне аб'яднанай партыі, якая апіраецца на ідэйным фундаменце марксізма-ленінізма, з'явілася новым этапам у гісторыі польскага рабочага руху і Народнай Польшчы.

На працягу мінулага паўстагоддзя ўсе няўдачы і паражэнні ў польскім рабочым руху ў большай або меншай ступені вязаліся з яго ўнутраным расколам і адсутнасцю палітычнага адзінства. Падставай кожнага кроку наперад, кожнай палітычнай і эканамічнай перамогі рабочага класа былі імкненні да аб'яднання, да адзінага фронту, да еднасці ў дзейнасці рабочых арганізацый.

Палітычны раскол рабочага руху ў Польшчы, таксама як і ў іншых краінах, меў свае прычыны ў рэфарміцкіх, апартуністычных ідэях часткі рабочага класа. У спецыфічных польскіх умовах, калі польскія землі былі захоплены і Польшча як дзяржава не існавала, у масах працоўнага люду знаходзілі шырокі водгук розныя нацыяналістычныя ідэі.

Праз цэлыя дзесяцігоддзі польскі рабочы рух падзяляла перад усім справа падыходу да рэвалюцыі і дзяржавы, а таксама пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Рэвалюцыйную плынь у польскім рабочым руху гістарычна рэпрэзентаваў І Пралетарыят, Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы, Камуністычная партыя Польшчы і Польская рабочая партыя. Яны заўсёды стаялі на пазіцыях барацьбы за звяржэнне палітычнай улады буржуазіі, за заваяванне рабочым класам дзяржаўнай улады і ўстанаўленне дыктатуры пралетарыята. Польская сацыялістычная партыя — хаця мела нямалыя заслугі ў барацьбе за рабочыя правы — у сваёй генеральнай палітыцы з'яўлялася рэфармісцкім, згодніцкім напрамкам у польскім рабочым руху. Кіраўніцтва ППС на практыцы абмяжоўвала свае палітычныя

амбіцыі да дзейнасці ў рамках буржуазнай дзяржаўнасці. Адхіляла яна рэвалюцыйную барацьбу і неаднаразова фактычна абараняла ўладу буржуазіі перад рэвалюцыйнымі парывамі рабочага класа Польшчы.

У часы, калі Польшча была заняволенай, рэвалюцыйны рух рабочага класа меў гістарычную рацыю, бо справу свабоды Польшчы спалучаў з сацыяльнай рэвалюцыяй у захопніцкіх краінах і арыентаваў польскіх рабочых на супольную барацьбу разам з рабочымі Расіі супроць царызму. У міжваенныя гады Камуністычная партыя Польшчы, згодна з найбольш жыццёвымі інтарэсамі польскага народа, лічыла Савецкі Саюз — першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву — за натуральнага саюзніка польскага народа ў барацьбе супроць гітлераўскага фашызму. КПП кляйміла антысавецкую палітыку буржуазнага ўрада — палітыку, якая пярэчыла прагрэсу і польскай нацыянальнай рацыі.

Пад час першамайскай акадэміі ў 1948 годзе генеральны сакратар ЦК ППР, Уладзіслаў Гамулка, ясна фармуляваў ідэйную платформу аб'яднання:

«Ідэя палітычнай еднасці рабочага класа павінна была і будзе вырастаць у барацьбе супроць рэфармізму, супроць буржуазнай ідэалогіі ў рабочым руху... Творчай, рэвалюцыйнай і поўнасцю выяўляючай сілай рабочага класа, сілай здольнай вызваліць працоўныя масы з капіталістычных путаў і збудаваць новы лад можа быць толькі еднасць, умацаваная на фундаментах марксізма-ленінізма... Да такой еднасці даходзім цяпер, ліквідуючы ў нашых радах астатнія рэшткі рэфармізму».

Аб'яднанне рабочага руху ў Польшчы было падрыхтавана працяглым працэсам барацьбы і ідэйнага даспявання рабочага класа. У палітычнай барацьбе супроць сіл капітала і абшарніцтва, у барацьбе за вызваленне народа ад гітлераўскай акупацыі перайшлі жыццёвыя выпрабаванні розныя палітычныя напрамкі і плыні, што мелі месца ў радах рабочага класа — і апіраючыся на вопыт мас — пераважнага ўплыву дабіўся рэвалюцыйны, марксісцка-ленінскі напрамак.

Аб'яднаўчы Кангрэс адбываўся ў знамянальную для Народнай Польшчы хвілю. Закончыўся акрэслены этап яе развіцця, вырасталі новыя больш складаныя задачы. Размеры прамысловай прадукцыі ў 1947 годзе былі блізкія перадваенным, а ў 1948 годзе значна перавысілі размеры перадваеннай прамысловай прадукцыі Польшчы. Падобная сітуацыя існавала ўжо і ў сельскай гаспадарцы. Аднак, усё гэта не абазначала яшчэ, што ўжо ліквідавана гаспадарчую адсталасць і залечана раны, нанесеныя вайною. Перад народнай уладай вырысоўваліся вялікія задачы гаспадарчага і культурнага развіцця Польшчы, якая з адсталай краіны павінна была стацца прамысловай, развітай сацыялістычнай краінай з належным ёй значэннем у Еўропе і свеце.

Кангрэс прыняў генеральную палітычную лінію новаўтворанай Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПЗПР). Падсумавана ў ёй вопыт першых чатырох гадоў існавання Народнай Польшчы і адначасова, як у ідэйнай дэкларацыі так і ва ўказаннях да шасцігадовага плана, акрэслена змест задач новага этапа — сацыялістычнага будаўніцтва ў Польшчы.

У ідэалагічнай дэкларацыі сцверджана, што партыя ў сваёй палітыцы кіруецца прынцыпамі марксізма-ленінізма, што народна-дэмакратычны лад з'яўляецца дарогай сацыялістычнага будаўніцтва, з'яўляецца новай формай улады працоўных мас на чале з рабочым класам.

**«Народная дэмакратыя ў Польшчы** — чытаем у дэкларацыі — **узнікла ў выніку разгрому Савецкім Саюзам нямецкага фашызму, а таксама ў выніку барацьбы польскіх народных мас пад кіраўніцтвам рабочага класа...»**

Дэкларацыя пацвердзіла прынцып рабоча-сялянскага саюза ў будаўніцтве народнай улады. Як падставу замежнай палітыкі Польшчы, забеспячэння незалежнасці краіны і сацыялістычнага будаўніцтва прызнана непарушны саюз і дружбу з Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, актыўны ўдзел у антыімперыялістычным сацыялістычным лагеры і барацьбу супроць імперыялістычнай палітыкі агрэсіі і вайны.

Пастанова Кангрэса адносна шасцігадовага плана сцвярджала, што **«ўжо створаны ўмовы да пераходу ад адбудовы да разбудовы гаспадарчай і грамадскай, да збудавання падстаў сацыялістычнага ладу ў Польшчы».**

Устаноўленыя Кангрэсам падстаўовыя задачы партыі, гэта...

...«стварэнне вялікай сацыялістычнай прамысловасці, развіццё і частковая грамадская перабудова сельскай гаспадаркі, мадэрнізацыя і значнае павялічэнне нацыяналізаванага гандлю, рост прадукцыйнасці працы, узмацненне абароннай сілы краіны, змена ў размяшчэнні вытворчых сілаў, рост дабрабыту і культуры працоўных мас, пазбаўленне капіталістычных элементаў уплыву на развіццё якой-небудзь галіны народнай гаспадаркі».

Такая палітыка партыі сустрэлася з энтузіястычным водгукам сярод працоўных мас, выклікала велізарную энергію рабочага класа, сталася натхненнем да, часамі, геройскай барацьбы за індустрыялізацыю краіны, за развіццё польскай культуры — за сацыялізм!

# З ГІСТОРЫІ ППР ВА ЎСХОДНЯЙ БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У часы гітлераўскай акупацыі Беласточчына з'яўлялася адным з нешматлікіх ваяводстваў, дзе Польская Рабочая партыя (ППР) не вяла сваёй дзейнасці.

Узнікненне ППР на Беласточчыне звязана з прыбыццём у Беласток у канцы ліпеня 1944 года групы прадстаўнікоў Польскага Камітэта Нацыянальнага вызвалення (ПКВН). Сярод членаў групы знаходзілася Эдварда Арлоўская, як прадстаўнік ЦК ППР, упаўнаважаны да арганізацыі партыі на тэрыторыі ваяводства. Прадстаўнікі ПКВН за кароткі час здолелі згуртаваць вакол сябе групу былых членаў Камуністычнай партыі Польшчы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, а таксама ўдзельнікаў антыфашыстоўскіх камітэтаў, што дзейнічалі ў часы акупацыі ў рамках савецкага руху супраціўлення. У палове жніўня 1944 года ўтворана Ваяводскі Камітэт ППР (спачатку называўся ён Акруговым). На дзень 13 жніўня 1944 года ваяводская арганізацыя ППР налічвала ўсяго 44 члены, згуртаваных у адной тэрытарыяльнай ячэйцы ў Беластоку.

У кастрычніку 1944 года ўзніклі першыя ячэйкі ППР па-за Беластокам.

1 кастрычніка 1944 года ўзнікла ячэйка ППР у Бельску. Яе арганізатарам быў Васіль Васілюк, па прафесіі чыгуначнік. Узніклі ячэйкі ППР у Гайнаўцы і Цеханоўцы. Узнікненне ячэяк дазволіла сарганізаваць 11 лістапада Павятовы Камітэт ППР у Бельску. У яго склад увайшлі наступныя таварышы: Васіль Васілюк, Васіль Ціханюк, Мар'ян Асалінскі, Тамаш Грабаж, Яфім Парфенюк, Мікалай Парфенюк, Аляксандр Марчук і Галіна Маслінская. На першага сакратара Павятовага Камітэта ППР выбрана Васіля Васілюка (ад снежня 1944 года гэту пасаду даверана Мар'яну Асалінскаму, у студзені 1946 г. — Аляксандру Ярымовічу).

На тэрыторыі Беластоцкага павета (у тагачасных яго межах) першыя ячэйкі ППР узніклі ў Старасельцах, Гарадку, Міхалове, Супраслі Васількове і Заблудаве. Павятовы Камітэт ППР у Беластоку ўтворана 6 лістапада 1944 года.

У канцы 1944 года ППР на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства налічвала 750 членаў, але тэрытарыяльнае размяшчэнне партыйных ячэяк і членаў ППР у паасобных паветах не было раўнамерным.

Па-за Беластокам — адзіным большым прамысловым цэнтрам ваяводства — найбольш членаў партыі знаходзілася ў паветах Бельскім і Беластоцкім. Але і на тэрыторыі гэтых паветаў размяшчэнне партыйных ячэяк таксама не было раўнамерным, большасць іх знаходзілася ва ўсходніх частках гэтых паветаў, дзе пражывае беларускае насельніцтва. Склалася на гэта шмат прычын, м. ін. усходнія раёны былі больш падрыхтаваны ідэалагічна, дзякуючы шматгадовай тут дзейнасці Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, а ў часы акупацыі — прагрэсіўнага партызанскага руху і арганізацыяў звязаных з ім. А ў заходніх частках гэтых паветаў у часы гітлераўскай акупацыі пашыраліся розныя арганізацыі павязаныя з эміграцкім урадам у Лондане. Хаця пад іх уплывамі знаходзілася толькі частка насельніцтва заходніх раёнаў гэтых паветаў, тым не менш з прычыны пашыранага тэрору ў гэтых заходніх аколіцах доўгі час утрымоўвалася атмасфера страху і няпэўнасці.

Тое, што ўсходнія часткі гэтых паветаў перагналі заходнія ў арганізацыйным развіцці ППР сведчаць факты.

У Бельскім павеце нацыянальны склад павятовай партыйнай арганізацыі на дзень 1. VI. 1945 г. выглядаў наступна: 461 беларусаў, 83 палякаў, 1 яўрэй, прычым толькі 22 палякаў паходзіла з раёнаў кампактна заселеных польскім насельніцтвам. У раёнах Бранска, Вышкаў, Тапчэва, значыць, у раёнах дзе пражывае выключна польскае насельніцтва — увогуле не было ячэяк ППР, а ў Цеханоўцы, Драгічыне і Боцьках — вельмі малыя. Трэба прытым зазначыць, што беларусы ў тым павеце ў яго тагачасных межах з'яўляліся меншасцю — усяго 45% агульнага ліку насельніцтва Бельскага павета.

У Беластоцкім павеце на дзень 1. V. 1945 г. нацыянальны склад арганізацыі ППР быў наступны: 175 беларусаў, 52 палякаў, 1 яўрэй. На 228 членаў ППР у цэлым павеце, на тэрыторыі гмінаў Гарадок і Міхалова, дзе пражывае амаль выключна беларускае насельніцтва, было 145 членаў партыі. Прытым, лік беларускага насельніцтва не перавышаў п я т а й часткі ўсяго насельніцтва павета.

Наступныя месяцы 1945 г., а таксама 1946 і 1947 г. г. не ліквідавалі гэтых дыспрапорцый, але наадварот, паглыблялі іх. Актывізацыя сіл рэакцыйнага падполля, забойствы дэмакратычных дзеячаў, прычыніліся да таго, што дзейнасць ячэяк ППР у заходніх частках павета замерла.

У Бельскім павеце на дзень 9 жніўня 1945 г. існавалі 4 гмінныя камітэты ППР: 1) у Орлі — з 12 ячэйкамі, 62 членамі, адсюль паходзіў першы сакратар — Аляксандр Ярымовіч, 2) у Нарве — з 10 ячэйкамі, 90 членамі, сакратар —

Якубоўскі, 3) у Кляшчэлях — з 10 ячэйкамі, 77 членамі, сакратар — Пракапчук, 4) у Бельску. Да лістапада 1945 г. утворана камітэты ППР: гарадскі ў Гайнаўцы — 90 членаў, сакратар — Малеса, гмінныя: у Мілейчыцах — 40 членаў, сакратар — Міхноўскі, у Нараўцы — 50 членаў, сакратар — Трусевіч, і ў Белавежы. У заходняй частцы Бельскага павета існавала толькі адна ячэйка (трохасабовая) ў Цеханоўцы. На працягу 1946 і 1947 г. ячэйкі ППР існавалі толькі ва ўсходніх раёнах павета. Толькі ў 1948 годзе ўзніклі ячэйкі ППР у Бранску, Цеханоўцы, Драгічыне, Градзіску, Мельніку, Сямяцічах і Боцьках.

Падобная сітуацыя сфармавалася і ў Беластоцкім павеце. На працягу 1945 і 1946 г. г. трывалае арганізацыйнае развіццё адбывалася толькі ў ячэйках ППР у гмінах Гарадок і Міхалова. У лютым 1946 г. на тэрыторыі гміны Гарадок было 9 ячэяк ППР, у самым Гарадку — 7, якія налічвалі 54 членаў, ячэйка ў Мяляшках — з 4 членаў і 1 ячэйка ў Каралёвым Мосце — з 5 членаў. У гміне Міхалова ў тым часе было 4 ячэйкі ППР, з якіх 3 у Міхалове (27 членаў) і 1 ячэйка ў вёсцы Шымкі (16 членаў). На працягу 1946 г. на тэрыторыі гміны ўзнікла яшчэ адна ячэйка — у Старой Луплянцы. У тым самым часе апрача гэтых двух гмінаў і г. Беластока (адміністрацыйны апарат) было яшчэ 14 членаў ППР і ніводнай ячэйкі.

Пасля амністыі 1947 г. і ліквідацыі рэакцыйнага падполля на тэрыторыі Беластоцкага павета адбылося хуткае арганізацыйнае развіццё партыі. Але і ў гэты час на тэрыторыі гэтых двух успомненых гмінаў лік членаў ППР быў намнога большы чым у іншых аколіцах. У снежні 1948 года, напярэдадні аб'яднання ППР і ППС, на 1700 членаў ППР на тэрыторыі павета — 410 знаходзілася ў гміне Гарадок, а 320 у гміне Міхалова.

Арганізацыйнае развіццё ППР на землях, заселеных беларусамі, было праявою салідарнасці мясцовага беларускага насельніцтва з палітыкай народнай улады. Ад моманту ўзнікнення гэтай улады беларускае насельніцтва аказала ёй поўную падтрымку. Сельскагаспадарчая рэформа, якая адбывалася даволі цяжка ў іншых раёнах ваяводства, ва ўсходніх частках паветаў Бельск і Беласток закончылася хутка і добра, пры вялікай падтрымцы мясцовага насельніцтва. Шэраг членаў рабочых брыгад і гмінных паўнамоцных па справах сельскагаспадарчай рэформы, пасля заканчэння раздзелу панскай зямлі, было накіравана ў іншыя паветы ваяводства, а пасля вызвалення цэлага ваяводства і дзяржавы — накіравана іх у Лодзінскае ваяводства.



Усходнія раёны гэтых паветаў з'яўляліся месцам, крыніцай, адкуль партыя чэрпала кадры для апарата бяспекі, міліцыі, «Самапомачы», а таксама ўласнага апарата на тэрыторыі цэлага ваяводства. Рэакцыйнае падполле, так актыўнае ў іншых паветах ваяводства, мела тут вельмі слаба развудаваную арганізацыйную сетку, не мела ніякіх палітычных уплываў. Нацыяналістычныя заклікі нелегальных арганізацый не знаходзілі водгуку, мясцовае насельніцтва ведала эфекты нацыянальнай палітыкі польскага ўраду ў міжваенны перыяд і не чакала павароту даўніх часоў. Не абазначае гэта, што рэакцыйнае падполле не вяло ніякай дзейнасці. Узброеныя групы АК (ВіН), а таксама Нацыянальнага Вайсковага аб'яднання (НЗВ) пранікалі з заходніх раёнаў паветаў Бельск і Беласток у аколіцы заселеныя кампактна беларускім насельніцтвам, забівалі актывістаў ППР, разбівалі спулдзельні «Самапомачы», знішчалі гмінныя канцылярыі. 10. VI. 1945 г. забілі сакратара Гміннага Камітэта ППР у Нарве Аляксандра Якубоўскага, а 5. III. наступнага года — яго намесніка Мікалая Галіцкага. У 1946 г. загінулі па чарзе сакратары Гміннага Камітэта ППР у Мілейчыцах: Пятро Міхноўскі (2. VI. 1946 г.) і Тэадозій Янушэвіч (21. VIII. 1946 г.). 5 лютага 1946 г. забілі ў Міхалове Сцяпана Доманя, сакратара Гміннага Камітэта ППР, і дырэктара тэкстыльнай фабрыкі Ёзіка Сяржана. 21 жніўня 1946 года забілі сакратара Гміннага Камітэта ППР у Клюковічах Юрыя Бурыча. Апрача іх загінула шмат сакратароў ячэяк і радавых членаў ППР, працаўнікоў апарата бяспекі і міліцыі.

Рэакцыйнае падполле хацела прымусіць беларускае насельніцтва, каб адмовілася яно ад падтрымкі народнай улады альбо, каб рэпатрыявала ў Беларускую Рэспубліку.

Каб дасягнуць таго, пачаліся пацыфікацыі беларускіх вёсак. У маі 1945 г. атрад АК маёра «Лупашкі» спаліў вёску Вілюкі (цяпер Гайнаўскі павет). 29 студзеня 1946 г. атрад НЗВ «Бурага» спаліў вёскі Залешаны і Выганаўскую Вольку каля Кляшчэляў, 2 лютага 1946 г. вёскі: Шпакі і Зані каля Бранска і 3 лютага вёску Канцавіна (цяпер павет Лапы). Асаблівую дзікасць праявіў атрад «Бурага». Жыхарам вёскі Залешаны загадана не выходзіць з хат, вёску падпалена, а да ўцякаючых з падпаленых хат людзей стралялі і іх целы ўкідалі назад у полымя. Аднак, рэакцыйнае падполле не дасягнула сваіх мэт. Акцыя войска абмежавала дзейнасць бандаў, сілы рэакцыі прайгралі выбары ў Сейм, што адбыліся ў 1947 г. У краіне ўзнікла новая палітычная сітуацыя, у якой дзейнасць падполля перастала мець які-кольвек сэнс і мэту.

**Др Гэнрык МАЕЦКІ**

# ПРАЦЭС БСР ГРАМАДЫ

Беларуская сялянска-работніцкая Грамада ўтварылася ў 1925 годзе на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Была гэта масавая рэвалюцыйная арганізацыя беларускага народа, якая змагалася за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Супрацоўнічала яна з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі. У пачатку 1927 года Грамада налічвала больш чым сто тысяч членаў згуртаваных у 2 тыс. гуртках.

У студзені 1927 года Грамада была дэлегалізаваная. На працягу аднаго дня арыштавана ўсіх яе паслоў у Польскі Сейм, а таксама восемсот актыўных яе дзеячаў, якіх пасаджана ў турмах Вільні, Гродна, Беластока, Баранавіч, Слоніма і Брэста.

У 1928 годзе адбыліся ў Вільні два працэсы 90 дзеячаў Грамады.

Адзін з гэтых працэсаў адбываўся перад Акруговым Судом у Вільні ў днях ад 23 лютага да 22 мая 1928 г. Суджана 56 асоб абвінавачаных за тое, што «прымалі актыўны ўдзел у змове пад назвай Беларуская сялянска-работніцкая Грамада, заснаванай з мэтай перавароту ўстаноўленага асноўнымі законамі дзяржаўнага ладу Польшчы і замаху на яе тэрытарыяльную цэласць шляхам увядзення дыктатуры пралетарыята, савецкага ладу і адарвання ад Польшчы, шляхам узброенага паўстання, паўночна-ўсходніх ваяводстваў — і далучэння іх да Савецкай Расіі, пры тым для ажыццяўлення гэтай мэты дыспанавала складамі аружжа».

На падставе арт. 102 КК засуджана: 4 абвінавачаных па 12 год цяжкай турмы, 2 абвінавачаных — па восем год цяжкай турмы, 8 абвінавачаных — па 6 год цяжкай турмы, 9 абвінавачаных — па 5 год, 10 абвінавачаных — па 4 год і 4 абвінавачаных — па 3 гады цяжкай турмы.



Разам 37 абвінавачаных засуджана на 209 год цяжкай турмы.

Кіраўніка Грамады, **Браніслава Тарашкевіча**, і іншых абвінавачаных абараняў вядомы польскі прагрэсіўны адвакат **Тэодар Дурач.** Падаем фрагменты яго надта цікавай абарончай прамовы, якая з'яўляецца важным дакументам таго часу.

— ■ —

«У маім глыбокім перакананні, кожны чалавек, незалежна ад таго, ці прыналежыць да народа маючага або не маючага ўласную дзяржаўнасць, мае права да пачуцця прыналежнасці да сваёй нацыі.

Выдаецца мне, што на большую пашану заслугоўваюць тыя, што хаця нават іх нацыя прыгнечаная, прызнаюцца да яе і ганарацца ёю — чым тыя, што ў няволі гатовыя цалаваць прыгнятаючы іх царскі бот, ускладаць вянкі на помніках прыгнятальнікаў, а калі Польшча ўваскрэсла, з'яўляюцца ўльтра-патрыётамі і гэтую Польшчу шануюць.

Абвінаваўчы акт выклікае ў думках юрыста многа рэфлексій. Калі чытаў гэты абвінаваўчы акт не мог вызваліцца ад думкі, што паліцыйнае следства вялося ў пэўным акрэсленым напрамку, што ўсё ішло наадварот, не так як павінна быць нармальна. Нармальна даследуецца ўчынак і прадстаўляецца стан фактычны. Тут жа хтосьці меў загадзя ўпланаваную сістэму і пэўныя рэчы падцягнуў да гэтай сістэмы. Тады пераходзім да першага тэзіса, а менавіта, што Грамада паўстала, як твор трох ці чатырох асоб, якія дзейнічалі па загаду яшчэ іншай асобы, таго «вялікага майстра» Камінтэрну.

Забываецца тут зусім аб грамадскіх асновах, якія паклікалі да жыцця Грамаду. Аднак, калі б не было гэтых падстаў, ніякі геній не мог бы сарганізаваць каля 100 тысяч беларускіх сялян. З гэтага вынікае, што мусіла быць сур'ёзная грамадская падстава. Магу паўтарыць за адвакатам Бабянскім, што гэта не агітатары стварылі Грамаду, але стварыў яе голад зямлі.

Не Тарашкевіч стварыў Грамаду, але Грамада — Тарашкевіча. Ён мусіў ісці за агульнай выключна жывучай плынню.

Усім вядома, што ў пагранічнай паласе шпіёнская акцыя ёсць больш інтэнсіўная, магчыма менш небяспечная для дзяржавы таму, што адносіцца да лакальных умоў, магчыма ў цэнтры ёсць яна больш небяспечная, але менш кідаецца ў вочы.

У пагранічнай паласе амаль усё можна лічыць як шпіёнства.

Што ж у гэтым дзіўнага, што на гэтым пагранічны на 100 тысяч асоб знайшлося 20 шпіёнаў. Што ж гэта даказвае?

Ведаем, што ў Грамадзе было таксама не менш, чым 20 канфідэнтаў. Ці таму можна сказаць, што Грамада праводзіла правакацыю, што правакацыяй гэтай займалася?

Столькі, колькі канфідэнтаў, ёсць і шпіёнаў — ці за гэта адказвае Грамада як цэласць, як арганізацыя?

Успомню толькі, што Тарашкевічу закідалася не толькі тое, што быў на канферэнцыі — але, што часцей у Гданску з прадстаўнікамі Камінтэрну сустракаўся.

Я не адкідаю, што камуністычная партыя хацела авалодаць Грамадою, што былі члены кампартыі, якія хацелі ўступіць таксама ў Грамаду.

Не падабалася пану пракурору Раўзе, што калісьці беларускі селянін, калі сустрэў пана, гаварыў: «добры вечар, паночку», або «добры дзень, паночку», а зараз кажа: «ух, ты панская морда».

Няветлівы зварот, гэта праўда, тут няма сумненняў, але ці пакоры, гэтай хрысціянскай «цноты», можна вымагаць ад народа як ад цэласці, ці добрая яна для народа, ці не з'яўляецца яна раўназначнай з рабствам?

Такой меркі, якую стасуем да паасобных людзей, нельга стасаваць да цэлага грамадства.

Калі Грамада не была пакорнай, калі была задзёрыстай, гэта можа сведчыць хіба толькі аб дужасці беларускага грамадства і гэта ацэніць калісьці гісторыя».

Дурач нічуць не памыліўся: дзейнасць Грамады з'яўляецца нашым гонарам і славаю. **М. Л.**

# СОРАК ГОД ТАМУ НАЗАД

У апошнія гады паявілася аб дзейнасці Беларускай сялянска - работніцкай грамады некалькі надта каштоўных публікацый. Усе яны паказваюць арганізацыю ў цэласці — аналізуюць праграму, напрамкі і метады працы, сувязі з паасобнымі ўстановамі і гэтак далей.

Але мы мала ведаем аб працы найніжэйшай арганізацыйнай адзінкі БСРГ — **гуртка,** які складаўся амаль выключна з сялян. Паколькі ў бягучым годзе спаўняецца 40-ая гадавіна **«прысуду над Грамадою»** (22 мая 1928 года), аб чым расказваецца ніжэй, прыводзім некалькі характарыстык працы гурткоў на Беласточчыне ў форме ўспамінаў або апрацовак.



**Расказвае Аляксандр Кісель з Жыўкава, Беластоцкага павета**

— Прыемна, што хоць пасля сарака год улады і грамадскія арганізацыі пачалі цікавіцца дзейнасцю Грамады. Зрабілі мы, штоправўда, нямнога, таму што на больш нам тагачасны ўрад не дазволіў. Аднак і тое трэба перадаць для будучых пакаленняў.

Мне давялося запачаткаваць грамадаўскі рух у раёне вёсак: **Трасцянка — Малынка — Альшанка — Гнецюкі**. Я не належаў у той час да ніякай прагрэсіўнай арганізацыі, але любіў грамадска - палітычную працу. Нехта з чытачоў падумае, чаму, менавіта, мне ўсё ж даручана так адказнае мерапрыемства? Хіба таму, што мяне вельмі добра ведалі **Павел Валошын і Сяргей Прытыцкі.** Нашыя бацькі былі дваюраднымі і часта ўзаемна наведваліся. Прыпамінаецца мне апошняя сустрэча з Валошыным у 1924 годзе, падчас якой Павел многа заўзята гаварыў, а я як хлопчык, слухаў.

Летам 1925 года нечакана атрымаў нейкія інструкцыі, літаратуру і афіцыйны дакумент, паводле якога мяне ЦК Грамады зрабіла ўпаўнаважаным да арганізавання гурткоў у сваёй аколіцы. Давер гэты аказаў мне, несумненна, П. Валошын. Усё гэта было новым, ды нідзе яшчэ ў аколіцы не было чуваць аб арганізаванні беларускіх гурткоў. Пачаў я разглядацца за дапамогай, за людзьмі. Найбольш падыходнымі здаваліся з суседняй вёскі Альшанка браты — Уладзімір, Пятро і Хведар Раманчукі. Крыху пасля да нас далучыўся Дзямян Канецкі. Пачалі мы запазнавацца з атрыманай літаратурай. Недзе з'мою 1926 года звярнуліся да старосты Беластоцкага павета з просьбай выдаць дазвол на адбыццё сходу дзеля арганізавання гуртка БСРГ. Пасля яго атрымання выслалі да сваіх знаёмых у Трасцянцы, Сацах, Жыўкаве, Малынцы, Сяськах і Гнецюках паведамленні аб тэрм'не сходу першага гуртка ў Альшанцы. На сход гэты прыбыла многа людзей і адначасова паліцыя, якая вяла сябе даволі лаяльна. Сход у Альшанцы адбыўся ў хаце Дзямяна Канецкага. Гаварылі на ім мы аб усім — і цяжкім жыцці, і патрэбе асветы, і працы гуртка Грамады згодна з інструкцыяй ЦК БСРГ. Пасля выбралі старшынёй гуртка Ул. Раманчука, сакратаром — Д. Канецкага і скарбнікам — Янку Вайткоўскага. Прысутныя з суседніх вёсак ахвотна ўзялі інструкцыі, літаратуру і адразу вырашылі арганізаваць падобныя гурткі ў сваіх вёсках.

Амаль усе яны аказаліся заўзятымі арганізатарамі. Мне пасля неаднойчы давялося быць на сходзе ў Трасцянцы, Гнецюках, Альшанцы. Мяне захапляла іх актыўнасць. Многа

працы ўлажылі ўспамянутыя браты Раманчукі, якія прысутнічалі амаль на кожным сходзе гурткоў у суседніх вёсках. Гэтыя маладыя хлопцы, менавіта, у працы Грамады раслі, набіралі вопыту, а пасля, здаецца, уступілі ў КПЗБ.

Непрыхільна аднеслася да заснавання гуртка мясцовае каталіцкае насельніцтва і заблудаўскія мяшчане. Усе яны адносіліся да арганізатараў варожа, не разумелі мэт Грамады, як арганізацыі беларускіх сялян, якія змагаліся за свае правы. У гуртткоўцах бачылі толькі ворагаў польскасці і каталіцызму. Таму ў некаторых вёсках працаваць было цяжка.

Я ўвайшоў у склад павятовага камітэта Грамады ў Беластоку, якому ўлады не дазволілі разгарнуць працы. Адзін раз ездзіў у Вільню. Там у ЦК атрымаў грамадскую літаратуру, па якую да мяне ў Жыўкава прыходзілі члены праўленняў суседніх гурткоў. Пасля ўсе гурткі самі атрымлівалі яе легальна праз пошту, хоць даручалася яна з перашкодамі, спазненнямі, часта праз паліцыю з адначасовым запалоханнем сялян.



Плакат выстаўкі аб Грамадзе ў Беластоцкім Музеі рэвалюцыйнага руху.

У час першых арыштаў мяне не было дома. Даведаўшыся аб іх я паехаў у Вільню спытацца, у чым справа і што рабіць нам далей. Але ў ЦК ужо не сустрэў нікога, вярнуўся дамоў. Каля трох месяцаў хаваўся, пасля быў затрыманы паліцыяй, прасядзеў 3 месяцы, але з браку довадаў з арышту звольнены. Пасля разгрому Грамады, пакінуў вёску, атрымаў працу ў беластоцкай пякарні, дзе належаў да МОПР.

## ГУРТОК ГРАМАДЫ Ў СТАРЫМ БЕРАЗОВЕ

Вёска Старое Беразова, Гайнаўскага павета, вядомая найчасцей нашым чытачам з літаратуры аб разгроме павятовага з'езду Грамады, які быў сюды скліканы 5. XII. 1926 года. Аб гэтым успамінаецца ў наступных публікацыях: 1) Г. Матэйчык і Анхімовіч — «Рэволюцыйнэ традыцые Бялостоцчызны» — Беласток, 1954 г. 2) Б. Нікітюк — «Чэрвона Гайнувка» — Беласток, 1958 г. 3) А. Бергман — «Беларуская сялянска - работніцкая грамада» — Навуковы зборнік ГП БГКТ за 1964 г. Тыднёвік «Ніва» № 49/66. З савецкіх публікацый неабходна адзначыць: 1) збор дакументаў і матэрыялаў пад загалоўкам «Борьба трудящихся Зап. Белоруссии»... Том I, працы А. Мацко і братоў Палуянаў.

У Старым Беразове быў, аднак, гурток БСРГ, аб якім нідзе не ўспамінаецца. Арганізавалі яго, праўдападобна, летам 1926 года браты Трашчоткі — Іван і Рыгор. Гурток налічваў 27 асоб, яго старшынёю быў тагачасны солтыс, энергічны грамадскі дзеяч, Рыгор Яноўскі, а сакратаром — Сак Яканюк. Як успамінае Р. Яноўскі, арганізаваць гурток было даволі лёгка. «Беларусаў лічылі санацыйныя ўлады за быдла. Не давалі ніякай працы — нават на мясцовай чыгунцы, ніхто з вёскі не вучыўся ў школах. Кіраўнік пач. школы Дэмбіцкі гаварыў, што вас не хочам вучыць, будзем вас выхоўваць».

Аб існаванні Грамады даведаліся сяляне Старога Беразова з беларускіх газет, якія прысылаў спачатку Трашчоткам з суседняй вёскі Ягаднікі, Назарук, а мо нават з Вітава, Іванюк (абодва яны загінулі ў СССР). Члены гуртка не правялі ніводнага зарэгістраванага сходу, але кожнае свята збіраліся на вуліцы, чыталі грамадскую прэсу і горача дыскутавалі аб эканамічным становішчы вёскі, аб адносінах улад да насельніцтва. Гэтая асцярожнасць у дзеянні захоўвалася таму, што частка членаў гуртка западозрывала мясцовага селяніна, А. Сахарчука, у сувязях з паліцыяй. У вёсцы часта праводзіліся вобыскі, арышты, спалучаныя з катаваннямі, але з іх заўсёды не кранутыя выходзіў адзін Сахарчук (пасля вызвалення ўцёк з вёскі).

Даволі часта патаемна збіраліся на сходы браты Трашчоткі, Р. Яноўскі, С. Яканюк і некалькі асоб моладзі. Яны нават на

кліч газет арганізавалі два гурткі ў суседніх вёсках — Махнатым і Новым Беразове. Праўдападобна, Іван Трашчотка, незалежна ад абставін ахвярна запрапанаваў адбыццё павятовага з'езду Грамады ў сваёй хаце і разам з успамянутымі гурткоўцамі прыймаў актыўны ўдзел у яго падрыхтоўцы.

Пасля разгрому з'езду Грамады гурток у Старым Беразове сваю працу спыніў, але незалежна ад гэтага 14. I. 1927 года паліцыя арыштавала Р. Яноўскага і А. Сахарчука, якіх пасля допытаў пусціла з браку доказаў антыдзяржаўнай дзейнасці.

«Калі нам не дазволілі аб'ядноўвацца ў легальнай Грамадзе, мы пачалі працаваць у КПЗБ», — успамінае Р. Яноўскі. Нажаль, і гэта было нядоўга. Браты Іван і Рыгор Трашчоткі, і Сак Яканюк загінулі, а Рыгор Яноўскі быў пад надзорам паліцыі, а пасля ўвесь перыяд гітлераўскай акупацыі прасядзеў у канцэнтрацыйным лагеры Гройсрозен.

## ДЗЕЙНАСЦЬ ГУРТКА БСР ГРАМАДЫ Ў ТРАСЦЯНЦЫ

Неабходна сказаць некалькі слоў аб дзейнасці найвялікшага на Беласточчыне гуртка БСРГ у вёсцы Трасцянка, Гайнаўскага павета. Гурток гэты налічваў 122 члены. Усталенне ліку гурткоўцаў аказалася справай даволі складанай таму, што члены ў перыяд росквіту яго працы не прыдавалі гэтаму належнага значэння і зараз падаюць лічбы ад 27 да 100 асоб уключна. Скарбнік гуртка, Андрэй Астроўка, два разы ў перыяд 6 год сцвердзіў, што апошніх двух членаў Грамады ўпісаў у 1927 годзе пад чарговымі нумарамі 121 і 122. Пасля разгрому арганізацыі спіскі членаў ён перахоўваў у крушні каменняў за вёскай, ва ўрочышчы Рагазоўка. Загінулі яны ў час другой сусветнай вайны.

Да гуртка належалі сяляне ў розным узросце. Аднак, каля 70% яго членаў складала моладзь да 25 год, апошнюю частку — жыхары вёскі да 50 год, якія прымалі ўдзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі. Да працы ў Грамадзе не ўключаліся крыху багацейшыя сяляне, якія мелі каля 10 і больш гектараў зямлі таму, што, як зараз гавораць — «пачалі толькі гаспадарыць».

Якія прычыны аказалі ўплыў на заснаванне і так хуткі, проста, бурлівы рост гуртка ў вёсцы Трасцянка?

У 1914 годзе перад надыходзячымі нямецкімі войскамі насельніцтва пакінула вёску і выехала ў бежанства ў Расію. Там яно прымала актыўны ўдзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі, як добраахвотнікі Чырвонай Арміі, прадстаўнікі савецкай улады, камітэтаў беднаты, адказныя працаўнікі фабрык, чыгункі, гандлю. Некаторыя з іх засталіся ў СССР, але пераважаючая большасць у гадах 1918—1922 вярнулася да сваёй вёскі, каб у новых умовах распачаць свабоднае жыццё. Хутка расчараваліся: пад час ваенных дзеянняў дзве трэціх жылля ў вёсцы згарэла, маёмасць была знішчана, а ворыва замянілася ў хмызнякі. Сем'і, якія вароча́ліся з бежанства, вымушаны былі кватаравацца па 2—3 у ацалелых хатках, хлявах, а нават зямлянках. З вялікай цяжкасцю насельніцтва здабывала першае насеннае збожжа, дрэва на пабудову дамоў — і цяжка працавала. Ніякай дапамогі ўлады не аказвалі яму. Нават наадварот — удзельнікам Кастрычніцкай рэвалюцыі рабіліся перашкоды. Мясцовая адміністрацыя агранічвала нацыянальныя свабоды. Забараняла яна, напрыклад, спяваць вечарам беларускія песні, перашкаджала ў навуцы рамяства і г. д. Да 1926 года ніхто з жыхараў Трасцянкі не атрымаў сярэдняй адукацыі, не ўладкаваўся да працы ў горадзе. Адзінай крыніцай утрымання была зямля, якой палова сярод 150 гаспадароў вёскі не мела нават па 5 гектараў агульных сельскагаспадарчых угоддзяў. Імкненне да здабыцця зямлі нарадзіла ў вёсцы шматлікія непаразуменні, суды, масавыя бойкі, якія атрымалі ў аколіцы назву «трасцяніцкіх рэзняў».

І вось да такога клубка супярэчнасцей дайшлі заклікі Грамады. У вёсцы пачало «кіпець».

Гурток у Трасцянцы арганізаваўся, праўдападобна, у верасні 1926 года, пасля адбыцця ўспамянутай у рэляцыі А. Кіселя нарады і заснавання гуртка (30. VII.) у вёсцы Альшанка. Менавіта, з гэтай вёскі восенню прыехалі браты Хведар і Пятро Раманчукі, а таксама Аляксандр Кісель з Жыўкава, і пры дапамозе некалькіх жыхараў вёскі — Аляксея Внушынскага, Хведара Ісаюка, Цімафея Амельянюка, Андрэя Астроўкі, Пятра Пракапюка, Івана Тайгунова, Дзмітра Семянюка, Дзмітра Захарчука, Антона Плашкевіча, Уладзіміра Максімчука і іншых — арганізавалі гурток Грамады. Спачатку ўсе тры арганізатары былі кіраўнікамі працы гуртка, прыймалі ўдзел у яго кожным пасяджэнні, але з увагі на хуткі ўзрост арганізацыі, ініцыятыву пераняў мясцовы актыў. Шматлікія гутаркі з насельніцтвам дазваляюць меркаваць, што ў Трасцянцы ячэйкі Камсамолу і КПЗБ яшчэ не дзейнічалі. (Канспірацыйная праца членаў КПЗБ, Міхася Сяргеюка і Мікалая Плашкевіча, аб чым гаварылася ў 163/1959 нумары «Нівы», датычыла крыху пазнейшага перыяду).

Гурток Грамады ў Трасцянцы адбыў два агульныя сходы. Першы сход адбыўся ў памяшканні Аляксандра Якубоўска-

га. На гэтым сходзе былі выбраны ўлады ў асобах: А. Внушынскага — старшыні, Х. Ісаюка — сакратара і А. Астроўкі — скарбніка. Былі гэта сходы зарэгістраваныя. Незалежна ад гэтага адбылося іх яшчэ 3, а мо і 4 сходы, на якія гурток не меў дазволу. На сходах гэтых больш свядомыя сяляне знаёмілі прысутных членаў гуртка і яго сімпатыкаў з палітыкай польскага ўрада, супольна чыталі беларускую прэсу, кніжкі, абгаворвалі пытанні пашырэння дзейнасці арганізацыі, яе лікавага ўзросту, формы супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі і барацьбы з паліцыйным рэжымам, неаплачвання падаткаў, спявалі беларускія песні, у тым кожны раз гімн Грамады **«Ад веку мы спалі»**. Часта спяванне песні было сігналам на сход гуртка, часта, выконваны яны былі, як форма пратэсту супроць прыбыцця паліцыі, або проста, як форма супольнай забавы. Спачатку паліцыя толькі прыглядалася сходам, але пасля пачала перашкаджаць у працы. Даходзіла нават да канфліктаў, выкідвання паасобных паліцыянтаў з памяшчэнняў сялян. Паліцыя ў сваю чаргу карала сялян, якія дазвалялі ў сваіх хатах праводзіць сходы гуртка, не дазваляла праводзіць сходаў на вуліцы, патрабавала рэгістравання новапрынятых членаў, у якіх кантралявалася чысціня панадворка, супрацьпажарнае абсталяванне, а ў выпадку сцверджання недахопаў, карала высокай карай. Грамадаўскую прэсу даручалася з вялікім спазненнем.

Аднак праследванні давалі адваротныя вынікі — не глядзячы на перашкоды, праца гуртка ставалася ўсё больш інтэнсіўнай, прадуманай. Сходы пачалі адбывацца ў гумнах, нявыканчаных дамах. Апошні зарэгістраваны сход адбыўся на пачатку 1927 года ў памяшканні грам. Івана Плашкевіча.

Грамадаўскую прэсу члены гуртка атрымлівалі ў Жыўкаве ад Аляксандра Кіселя, адкуль яе пераносілі ў кошыках, конскіх торбах, у мяшках разам з зеллем або бульбай. Кальпартавалася яна не толькі ў Трасцянцы, але таксама ў Нарве, Васьках, Сацах, а адозвы ЦК Грамады раскідваліся ўздоўж важнейшых камунікацыйных шляхоў.

Дзейнасць гуртка БСРГ у Трасцянцы вядомая была ў цэлым Бельскім павеце, станоўча яе ацэньвалі ўлады Грамады. Таму пасля разагнання павятовага з'езду ў Бельску чарговым месцам яго склікання была выбрана Трасцянка. Прысутны пры гэтым член, Антон Плашкевіч, прадбачваючы магчымасць згрупавання «баёўкі» даказаў на арганізацыйным пасяджэнні Павятовага камітэта Грамады, што толькі грамадаўцы з яго вёскі змогуць стварыць дэлегатам спакой, загарантаваць правядзенне з'езду. З'езд гэты меў адбыцца ў хаце Казачукоў, якая знаходзілася на заходняй ускраіне



вёскі. Аднак, з невядомых нам прычын, пастанова была зменена на Старое Беразова, з тым, што ў дзень з'езду з Трасцянкі мела прыбыць на дапамогу 40 грамадаўцаў. У вызначаны дзень гэтая група контрбаёўкі, узброеная палкамі, грубымі кулямі і сякерамі сабралася ў І. Плашкевіча, але з увагі на ўзмоцнены паліцыйны кантроль па дарогах, дайсці да месца з'езду не змагла. Пробы ісці праз поле, з увагі на вялікія сумёты, не ўдаліся.



Вуліца ў Трасцянцы.

Працаю гуртка Грамады ў Трасцянцы цікавіўся таксама «Сялянскі Саюз», які ў асобах некалькіх мясцовых інтэлігентаў меў адданых прапагандыстаў. Каб далучыць гэты гурток да ўспамянутага Саюза, восенню 1926 года прыехаў сюды з Вільні святар Голад і ў даволі іранічнай прамове на адным са сходаў пачаў даказваць, што авечкі, г. зн. сяляне

патрабуюць правадыроў, што самі без іх дапамогі нічога не зробяць, што ўлада ў Польшчы дастаткова моцная, каб Грамаду разагнаць і, што толькі ў саюзе з яго арганізацыяй, а таксама тагачасным урадам можна дасягнуць накрэсленыя мэты. Прысутныя, аднак, змусілі аратара пакінуць сход, гаворачы, што — «твая справа служыць у царкве, а не ездзіць па сходах».

Неабходна адзначыць, што ў вёсцы Трасцянка мясцовая інтэлігенцыя, якой было тут даволі многа, таму, што да 1914 года існавала настаўніцкая семінарыя, не аказвала грамадаўцам належнай дапамогі. Недахоп правадыроў, якія здолелі б змяніць тактыку дзейнасці, прычыніўся да ўпадку працы гуртка пасля першых сур'ёзнейшых рапрэсій. На пераломе 1926 і 1927 гадоў быў арыштаваны старшыня гуртка, А. Внушынскі, і А. Паўлючук, з якіх першы не вытрымаў катаванняў у Бельскай дэфензіве, адмовіўся ад далейшай дзейнасці, а пасля пачаў звязвацца з праўрадавымі арганізацыямі. Такім чынам дайшоў нават да яўнага супрацоўніцтва з гітлераўскімі акупантамі. Пасля вызвалення ў 1944 г. быў асуджаны ў СССР.

Іншыя актыўныя члены, прадбачваючы чарговыя арышты, перасталі склікаць сходы гуртка і праводзіць іншыя формы легальнай дзейнасці. Але запачаткаваная барацьба не спынілася. Некалькі год пасля, шэсць грамадаўцаў утварыла ячэйку КПЗБ, трох — Камсамол, якія дзейнічалі да арыштаў у 1935 годзе. У час гітлераўскай акупацыі былыя члены Грамады ў колькасці каля 15 асоб утрымлівалі сувязі з савецкай партызанкай Беласточчыны. Пяць з іх (А. Паўлючук, Ц. Амельянюк, М. Стахвіюк, У. Семянюк, М. Савіцкі), загінула ў канцэнтрацыйным лагеры ў Штутгофе. Рэшта прымала актыўны ўдзел у станаўленні народнай улады ў Польшчы, шматлікія з іх засталіся ў вёсцы і працуюць на гаспадарках.

* * *

Артыкул апрацавана на падставе ўспамінаў членаў Грамады — А. Астроўкі, П. Пракапюка, І. Тайгунова і А. Кіселя, пасля 8. XII. 1965 года прадыскутавана на сходзе ў прысутнасці 86 жыхараў вёскі.

**Мгр Ул. ЮЗВЮК**



**Расказвае АЛЯКСАНДР ЖДАНУК**

**з вёскі Астравы, Дуброўскага павета**

— Толькі я ўступіў у 1925 годзе ў КПЗБ, як адразу атрымаў заданне арганізавання гуртка Грамады і пашырэння яго легальнай дзейнасці на суседнія вёскі (тав. А. Жданук удзельнічаў у арганізаванні гурткоў у Хілімонах, Ячне і Грэбенях, хоць не прыпісвае ў гэтым сабе ніякіх вялікіх заслуг). Сапраўды праца гуртка ў Астравах пачалася ад ліпеня 1926 года, калі гурток ўжо налічваў 15 асоб і было выбранае яго праўленне ў складзе: Івана Беламызага — старшыні, Паўла Беламызага — сакратара і А. Жданука — скарбніка. Сходы адбываліся кожны месяц у хатах паасобных членаў Грамады. Тут заўсёды чыталіся беларускія газеты, сярод якіх асабліва многа здаровага гумару выклікала газета «Маланка», абмяркоўваліся арганізацыйныя пытанні, чыталася нелегальная літаратура, якую па лініі КПЗБ атрымоўвалі з Гродна, Саколкі, а непасрэдна разносілі ў святочныя дні з суседняй вёскі Ячна, дзе КПЗБ-оўцы ішлі быццам на багаслужэнне. Кожны член гуртка павінен быў ведаць гімн Грамады «Ад веку мы спалі...» На сходы гуртка прыходзілі і неграмадаўцы з вёскі, і часта супольна магутна спявалі рэвалюцыйныя песні на беларускай і рускай мовах. Спачатку паліцыя вяла сябе даволі лаяльна, пасля пачала натаваць і ўмешвацца ў працу гэтай легальнай арганізацыі. І толькі адзін камендант паліцыі ў Дуброве **Ян Ментус** аказаў многа зразумення. Ён жыва цікавіўся працай гуртка, нават заахвочваў да актыўнай дзейнасці, а ў сваім рапарце ў час арышту грамадаўцаў выказаў думку, што беларусы таксама дамагаюцца вольнай айчыны, за што быў адразу звольнены з працы.

Тав. А. Жданук браў удзел у Сакольскай і Гродзенскай канферэнцыях Грамады.

14 студзеня 1927 года нечакана для ўсіх пачаліся арышты членаў гуртка. Былі арыштаваны Павел і Янка Беламызыя, А. Харлан і А. Жданук. Пасля допыту паліцыя двух звольніла з арышту, а таварышаў Жданука і Паўла Беламызага судзілі ў 1928 годзе ў Вільні на 4 гады, не як грамадаўцаў, а як членаў КПЗБ. Гурток несумненна распаўся. (ую)



## СЯЛЯНСКІ ПАЭТ

Васіль Юравец жыве ў вёсцы Грыбаўцы, Беластоцкага павета. Зараз Васіль Юравец ужо пенсіянер, да гэтага часу ён працаваў на чыгунцы. Праўду сказаць, нялёгка жылося дзядзьку Васілю. Малазямельнасць і бяда, усё гэта рана піхнула яго да палітычнай дзейнасці ў міжваенныя гады. За сваю рэвалюцыйнасць трэба было плаціць турмою і катаваннямі.

Увесь час малаадукаваны Васіль Юравец пісаў вершы, у якіх выяўляў свае пачуцці, гора і нянавісць. Некалькі яго вершаў друкавалася ў перадваенных беларускіх часопісах. Аднак, большасць іх засталася ў рукапісах, у Васіля Юраўца. Сцеражэ ён іх як своеасаблівую хроніку свайго жыцця і змагання. (п)



# «КАРОЛЬ БЕЛАРУСІ»

З імем **Кастуся Каліноўскага** звязана адна з найбольш прыгожых і гераічных старонак гісторыі беларускага народа і Беларусі. Гэта чалавек, які маючы ўсяго 26 год, быў ужо кіраўніком вялікага паўстання, вялікага народнага змагання. Яго постаць цікавіць і заўсёды будзе цікавіць не толькі гісторыкаў, але і ўсіх простых людзей.

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 130 год таму назад, 2 лютага (новы стыль) 1838 года ў Мастаўлянах, Беластоцкага павета, у сям'і беззямельнага шляхціца, уладальніка невялікай «фабрыкі» (майстэрні) ільняных вырабаў Сымона Каліноўскага. Новананароджаны двойчы запісаны ў хрэсныя кнігі касцёла ў Ялоўцы: 6 лютага 1838 года пад імем Вінцэнты і 4 красавіка пад дзвюма імёнамі — Вінцэнты і Канстанты.

Кастусь Каліноўскі загінуў 22 сакавіка 1864 г. у 10 гадз. 30 мін. раніцы, павешаны царскімі катамі «на торговой площади на Лукішках» у Вільні — «при огромном стечении народа». Калі аб'яўлялі прыгавор і назвалі Кастуся яго імем: «дваранін Вікенцій Каліноўскі», ён ускрыкнуў: «У нас няма дваран, усе роўныя». Гэта былі апошнія словы вялікага рэвалюцыянера.

Кастусь Каліноўскі быў выдатным канспіратарам і агітатарам. Яго добра ведала Беларусь, называлі яго **«нашым Кастусём»** — і Беларусь доўга не верыла ў смерць яго, доўга гаварылі па хатах, што «наш Кастусь» жыве, ён паявіцца, павядзе да барацьбы за волю. Нарадзіліся легенды аб ім, як аб **«каралю Белай Русі».**

Кастуся здрадзіў адзін з яго блізкіх супрацоўнікаў. Царскі губернатар Мураўёў — «Вешатель» шукаў Каліноўскага па цэлай Беларусі, яму не прыходзіла і ў галаву думка, што Кастусь Каліноўскі працуе і жыве на патаемнай кватэры побач палаца губернатара. Гэта выдатны прыклад канспірацыі, якую можна акрэсліць згодна з пагаворкаю, што: **«Найцямней пад лятарняю».**

Агульна прынялася думка, што **першую беларускую газету** «Мужыцкую Праўду» Кастусь Каліноўскі друкаваў у Беластоку. Аднак, апошнім часам, некаторыя паважныя даследчыкі схільныя лічыць, што «Мужыцкая Праўда» выдавалася ў лясах пад Саколкаю. Каліноўскі сцісла супрацоўнічаў з вядомым польскім рэвалюцыянерам Валерым Врублеўскім, які ў той час працаваў на пасадзе кіраўніка егерскай школы ў Саколцы — і дакладна ведаў навакольныя лясы.

Кастусь Каліноўскі лічыў на народныя сілы, ён не верыў шляхце і ў апошнія месяцы сваёй дзейнасці стараўся адсунуць шляхту ад кіраўнічых пасад у патаемнай паўстанцкай сетцы цывільнай і вайсковай — публічныя загады і інструкцыі пісаў па-беларуску, а седзячы ўжо ў турме, напісаў па-беларуску: **«Пісьмы з-пад шыбеніцы»** і вершаванае — **«Марыська чарнобрэва, галубка мая»...**

Гэта патрасаючы тэстамент Кастуся. Апублікаваны на эміграцыі, у Парыжы, у 1867 годзе.

Царскі гісторык, Брянцаў, які ненавідзеў Каліноўскага, усё ж вымушаны быў прызнацца: «...Каліноўскі меў вялікі розум і незвычайную сілу волі і характару... Чалавека гэтага нельга было ні напалохаць, ні збіць з толку». Брянцаў прыраўноўваў Каліноўскага з Рабесп'ерам, дыктатарам французскай рэвалюцыі XVIII ст. Нягледзячы на дзікія катаванні, Кастусь Каліноўскі нікога не выдаў у следстве, следчая камісія была ашаломленая яго вытрымкай і адвагай і потым адносілася да яго з належным ушанаваннем. Каліноўскаму, узамен за здраду і адрачэнне ад сваіх ідэй, прапанавалі высокія дзяржаўныя пасады, ён быў вельмі адукаваным чалавекам, выдатна закончыў Пецярбургскі ўніверсітэт.

Можна дагледзецца ў гэтым пэўнай аналогіі праз паўстагоддзя пасля, у часы вялікай дзейнасці «Грамады» ў міжваенны перыяд, што неразлучна звязана з выдатнай постаццю нязломнага **Браніслава Тарашкевіча,** вучонага і непадкупнага палітыка, арганізатара і агітатара — таксама, выпускніка Пецярбургскага ўн'версітэта.



На здымку: вуліца імя Кастуся Каліноўскага ў Беластоку.

Пра Кастуся Каліноўскага напісана шмат кніг, вершаў, паэм, напісана оперу і зроблена фільм, многія вучоныя прысвяцілі яму шмат сваіх даследчых прац, імем Каліноўскага названа вуліцы, цэнтры культуры, школы, і т. д. і т. д. (м. інш. школа ў Мастаўлянах і Дом культуры ў Гарадку).

**Кастусь Каліноўскі бессмяротны!**

# СЛАЎНЫ СЫН БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

«Понеже звери, ходзящие в пустыни, знают ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведаюць гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чуюць виры своя; пчелы и тым подобная боронят ульев своих; також и люди, и где зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имают».

(Ф. Скарына, Прадмова да кнігі «Иудифь»)

Гэтыя словы, выказаныя 450 год таму, належаць да выдатнага беларускага гуманіста, чалавека бязмежна закаханага ў сваім родным краю, сейбіта высокародных ідэй Адраджэння на нашай ніве — Францішка Скарыны.

Выхадзец са збяднеўшай купецкай сям'і, Францішак Скарына нарадзіўся каля 1485 года ў «слаўным горадзе Полацку». Там атрымаў грунтоўную пачатковую адукацыю, якая пры яго незвычайнай працавітасці і здольнасцях дазволіла паступіць у 1504 годзе ў Кракаўскі ўніверсітэт на факультэт свабодных мастацтваў. Праз два гады ён ужо заканчвае ўніверсітэт, здабываючы першую вучоную ступень бакалаўра філасофіі. На працягу некалькіх год займаецца ў вышэйшых навучальных установах Заходняй і Паўднёвай Еўропы і ў лістападзе 1512 года ва ўніверсітэце ў італьянскім горадзе Падуі паспяхова здае экзамен па медыцыне і атрымлівае вышэйшую вучоную ступень доктара лекарскіх навук.

Ён быў верным сынам свае эпохі, якая паклікала да жыцця не толькі геніяў прагрэсіўнай думкі, але і тытанаў дзеяння, што намагаліся неадкладна здзяйсняць у жыцці ідэі вызвалення чалавека з аковаў сярэдневяковай цемры і дэмагогіі шляхам пашырэння сярод усіх пластоў насельніцтва асветы





і культуры. Таму адразу пасля заканчэння адукацыі Францішак Скарына ўсяцэла прысвячае сябе справе наладжання друкавання кніг на беларускай мове.

У выніку некалькігадовых клопатаў пра грашовыя сродкі, падрыхтоўку і пераклад тэкстаў, абсталяванне друкарні і паперу ён засноўвае першую беларускую друкарню ў чэшскай Празе і ў 1517 годзе выпускае ў свет першыя беларускія друкаваныя кнігі. Адрасаваў ён іх «людем посполитым к доброму научению». За два гады (ад 1517 па 1519 гг.) Францішак Скарына выдаў «Псалтыр» і паасобку 22 кнігі «Бібліі».

Аднак, нягледзячы на выключную паспяховасць друкарскай справы ў Празе і прыхільныя адносіны чэшскага асяроддзя, Францішак Скарына імкнецца быць бліжэй да родных мясцін. У часе паміж 1520 і 1525 гадамі ён робіць захады аб адкрыцці друкарні ў Вільні, сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, у склад якога ўваходзілі беларускія землі. Перавозіць туды з Прагі сваю друкарню і ў 1525 годзе друкуе там «Апостал» і «Малую падарожную кніжыцу».

У хуткім часе выданні Францішка Скарыны пашыраюцца ва ўсёй Славяншчыне. Яны вандруюць па ўсяму Вялікаму Княству Літоўскаму, пашыраюцца ў суседнім Маскоўскім княстве, трапляюць у Польшчу, Малдавію, Румынію, Германію і іншыя краіны Заходняй Еўропы. Усюды яны з'яўляюцца не толькі ўзорам дасканалай як на тыя часы тэхнікі кнігадрукавання, але і прыкладам служэння адукаванага чалавека свайму народу.

Асоба Францішка Скарыны карыстаецца вялікім аўтарытэтам і пашанай не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але па-за яго межамі. У 1530 годзе прускі герцаг Альбрэхт запрашае беларускага першадрукара да сябе, называючы яго «мужам непараўнанага розуму, найвучонейшым доктарам мастацтваў і медыцыны». Затым кароль чэшскі Фердынанд запрашае Францішка Скарыну на свой двор і даручае яму абавязкі каралеўскага батаніка і медыка. Гэтую пасаду абымае Францішак Скарына ў 1534 годзе, і там, у Празе, памірае каля 1550 года.

З прамоў і пасляслоўяў да паасобных выданняў відаць, што Францішак Скарына імкнецца падказаць чытачу, каб той шукаў у гэтых кнігах не звышнатуральнага, бо яны «людскими пильностями пописаны были», г. зн. што яны самі вынік працы людзей умудроных жыццёвым вопытам, але шукаў зёран навуковых звестак і праўды дзеля свае адукацыі, таму што без «мудрости и без добрых обычаев несть моцно почтиве жити людем посполитым на земли». Ён верыць у дапытлівасць чытача і яго ўменне знаходзіць праўду жыцця, калі

«...иными словы всегда иную мудрость и науку знаменуют, а иначей ся разумеють нежели молвлены бывають, и больши по себе сокрытых тайн замыкають нежели ся словами пишуть. Есть бо во всих причтах сокрыта мудрость якобы моц во драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у вореху...» Ён ставіць у прыклад цара Саламона, што «не просил собе дней многих, ни богатества, ни же душ врагов, но жадал собе мудрости»; пахваляе Пталамея за тое, што той «был милосник науки и мудрости, иже болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царских сокровищах». Аднак, паводле Скарыны, кожны чалавек павінен жыць не толькі для самога сябе, але сваёй дзейнасцю як мага болей прынесці карысці свайму народу, бо «не толико сами собе нарождвомся на свет», але перад усім для «посполитого доброго». Ён заклікае чытачоў, каб яны «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали» (не шкадавалі — МГ). Таксама і свае клопаты аб пашырэнні асветы і культуры ў родным краю тлумачыць Скарына патрыятычнымі матывамі: «наиболее с тое причины иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил», і суайчыннікам сваім «сие малые книжки праци нашее приносимо...»

Сотні навуковых даследванняў і артыкулаў, дзесяткі аповесцей, апавяданняў, п'ес і вершаў прысвяцілі вучоныя і пісьменнікі гэтаму вялікаму чалавеку, які ўславіў наш народ далёка па-за межамі беларускай зямлі. Аднак ніколі не згасне ў нашай навуцы і літаратуры зацікаўленне гэтай шляхетнай постаццю, вучоным і дзеячам, які з'яўляецца гордасцю нашага народа.

**Мгр Мікалай ГАЙДУК**

**ПІСЬМЫ ПА-БЕЛАРУСКУ ПІШАМ:**

— не толькі да «Нівы»,

— але таксама да бацькоў,

блізкіх і знаёмых.



# ПАЎВЕКУ САВЕЦКАЙ АРМІІ

У 1968 годзе грамадскасць Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі адзначаюць 50-тую гадавіну заснавання Савецкай Арміі. І гэта невыпадкова. Складае яна зараз магутнейшую сілу, якая стаіць на стражы міру ва ўсім свеце.

Чырвоная Армія была заснавана пастановай Народнага Камісарыята па ваенных справах Саюза ССР 1 студзеня 1918 года (на правах дабраахвотнасці) для аховы заваёў Вялікага Кастрычніка. Спачатку, у 1917 г., рэвалюцыйны пралетарыят аб'ядноўваўся ў атрады Чырвонай Гвардыі або атрады матросаў і салдатаў, лік якіх акрэсліваўся на каля 150 тысяч асоб.

Аднак, унутраная контрэвалюцыя і знешняя інтэрвенцыя змусілі Савецкую Уладу ўтварыць рэгулярную Савецкую Армію. Умовы яе арганізавання былі выключна складанымі — не хапала зброі, вопраткі, прадуктаў, дасведчаных афіцэраў. Арганізаваныя ў такіх умовах першыя атрады рэгулярнай Чырвонай Арміі 23 лютага 1918 года выйгралі пад Псковам і Нарвай бітву з нямецкімі войскамі і таму дзень гэты пачаў адзначацца, як Дзень Савецкай Арміі.

Летам 1918 года, у сувязі з пагаршэннем сітуацыі на франтах, была ўведзена абавязковая мабілізацыя. Праз два гады Чырвоная Армія налічвала ўжо каля пяці з паловаю мільёна салдатаў. Утворана Ваенны Савет, уведзена дысцыпліну. Першым яе галоўнакамандуючым, апрача У. Леніна, як правадыра ўсяе рэвалюцыі, быў І. Вацэціс. За кароткі перыяд змагання за савецкую ўладу хутка выраслі таленавітыя палкаводцы: камандуючыя франтамі: М. Фрунзе, М. Тухачэўскі, А. Ягораў; камандуючыя арміямі — К. Варашылаў, С. Будзённы, І. Убарэвіч, а таксама легендарныя героі: І. Апанасен-

ка, І. Бялоў, У. Блюхер, Н. Кашырын, Р. Катоўскі, А. Пархоменка, С. Цімашэнка, У. Чапаеў, Н. Шчорс, С. Лазо, І. Якір і многа, многа іншых. Асноўнай сілаю войскаў з'яўлялася пяхота і кавалерыя, да якіх толькі дадавалася артылерыя. У канцы 1920 года былі выраблены ў СССР першыя 16 лёгкіх танкаў. У тым жа годзе мелася 300—400 самалётаў, якія праводзілі паветраную разведку, адбівалі варожыя налёты. Ваенны флот гуртаваўся толькі ў Фінскім заліве — Чарнаморскі флот у перыяд англа-амерыканскай інтэрвенцыі быў затоплены.

Былі ўтвораны шматлікія ваенныя ўстановы для падрыхтоўкі кадраў: Ваенная Акадэмія Чырвонай Арміі, Ваенна-Палітычны Інстытут, Артылерыйская Акадэмія і іншыя, а таксама сярэднія школы. Усе яны да моманту заканчэння інтэрвенцыі падрыхтавалі сорак тысяч камандзіраў. Вялікае значэнне ў далейшай разбудове арміі меў VIII з'езд партыі (1919 г.), на якім вырашана за максімальна кароткі тэрмін узмацніць усе роды войскаў і накіраваць у іх камуністаў. Пытанні разбудовы ўзброеных сіл ставіліся і на іншых партыйных з'ездах.

Пасля заканчэння вайны армія была зменшана да 610 тысяч салдатаў. Праведзена пад кіраўніцтвам М. Фрунзе рэарганізацыю арміі. Дзякуючы агульнаму эканамічнаму росту краіны, у тым ліку бурнаму развіццю цяжкай прамысловасці, армія з пяхотна-кавалерыйскай пераўтварылася ў механізаваную. Падставовай зброяй напярэдадні ІІ-ой Сусветнай вайны з'яўляліся танкі, артылерыя і авіяцыя рознага прызначэння. Аднак далейшы рост магутнасці Савецкай Арміі спыніла здрадніцкая агрэсія фашыстоўскай Германіі на СССР. 190 узброеных да зубоў нямецкіх дывізій, выкарыстаўшы нечаканасць і памылковасць ацэнкі адносін з гітлераўскім урадам, зламала савецкую абарону і не сустракаючы вялікага супраціўлення захапіла частку тэрыторыі Савецкага Саюза. Становішча ізноў было даволі складаным — адчуваўся недахоп кіраўнічых кадраў, навейшай тэхнікі, страчана баявая здольнасць салдатаў. Тым часам вораг кідаў штораз новыя сілы імкнучыся за кароткі перыяд закончыць вайну. Фронт Савецкай Арміі аказаўся пад Ленінградам, Сталінградам, на Паўночным Каўказе.

Пералом адбыўся ў 1942 годзе. Утвораныя рэзервы Вярхоўнага Камандвання, а таксама наладжанне масавай прадукцыі навейшых тыпаў зброі (220 тысяч гармат і мінамётаў, 450 тысяч кулямётаў, 2 мільёны аўтаматаў, 30 тысяч танкаў Т-34, 40 тысяч самалётаў) дазволіла паўстрымаць гітлераўскіх захопнікаў, перайсці ў контрнаступленне, а пасля паспяхова



змагацца з ворагам на ўсіх франтах Вялікай Айчыннай вайны. Дастаткова сказаць, што толькі ў адной Сталінградскай бітве, праведзенай супраць 5 фашыстоўскіх армій, ад 17. VI. 1942 г. да 2 лютага 1943 года Савецкая Армія разбіла 48 варожых дывізій і 3 брыгады, што складала каля 20 працэнтаў усіх варожых сіл, дзейнічаючых на ўсходнім фронце. Быў гэта пачатак вялікіх перамог Савецкай Арміі, якія закончыліся поўным разгромам захопнікаў. Вызвалена акупаваныя землі Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, Польшчы, Чэхаславакіі і іншых краін, якія пасля ўвайшлі на шлях пабудовы сацыялізма.

Савецкая Армія вырасла ў магутную сілу. Сусветнае прызнанне атрымалі такія таленавітыя савецкія маршалы, як: І. Баграмян, С. Будзённы, А. Васілеўскі, К. Варашылаў, Л. Говараў, Г. Жукаў, А. Яраменка, І. Конеў, Р. Маліноўскі, К. Ракасоўскі, В. Сакалоўскі, С. Цімашэнка, Ф. Талбухін і інш. Салдаты Савецкай Арміі праяўлялі бяспрыкладную адданасць справе перамогі, гераізм. Толькі аднаго звання Героя СССР удастоена адзінаццаць тысяч салдатаў, афіцэраў і маршалаў, а медалі і ордэны атрымала звыш сямі мільёнаў удзельнікаў вайны.

Пасля заканчэння ІІ-ой Сусветнай вайны Узброеныя Сілы СССР былі рэдукаваны. Аднак жа міжнародная сітуацыя ізноў прымусіла Савецкі Урад павялічыць лік арміі. Уведзена навейшыя віды ваеннай тэхнікі — рэактыўнай, атамнай. Зараз Савецкая Армія мае лёгкія і міжкантынентальныя ракеты, атамныя і вадародныя бомбы, найноўшыя рэактыўныя самалёты, манеўраны флот. Усё гэта разам стварае вялікую маналітную сілу Савецкай Арміі, якая разам з узброенымі сіламі краін народнай дэмакратыі надзейна ахоўвае мір і гарантуе незалежнасць паасобных краін.



Беларуская нацыянальная меншасць паўднёва-ўсходняй Беласточчыны таксама, як і ўвесь польскі народ, абавязана сваё вызваленне ад гітлераўскай акупацыі геройскай Савецкай Арміі, 50-годдзе якой адзначаем 23 лютага 1968 года.

Неабходна таксама зазначыць, што паўднёва-ўсходняя частка Беластоцкага ваяводства дала некалькіх таленавітых палкаводцаў Савецкай Арміі, якія трывала ўвайшлі ў ваенную гісторыю. Да іх належаць: **маршал Саюза ССР В. Сакалоўскі, генерал А. Вашкевіч, генерал М. Казачук,** некалькіх палкоўнікаў. Магчыма, што многіх мы яшчэ не ведаем. Ад-

значым тых некалькіх нашых землякоў, якімі мы павінны ганарыцца.

**ВАСІЛЬ САКАЛОЎСКІ** — маршал СССР і савецкі ваенны дзеяч, герой Савецкага Саюза, нарадзіўся ў 1897 годзе ў вёсцы **Козлікі** каля Заблудава ў Беластоцкім павеце. Паходзіць з беларускай бядняцкай мнагадзетнай сям'і. Хата яго бацькі стаіць яшчэ па сённяшні дзень. Бацька адправіў яго «ў людзі», як гаварылася тады. Васіль закончыў школу ў **Патоцы** і як выдатнік быў накіраваны ў настаўніцкую семінарыю ў Рэвель (цяпер Талін, сталіца Эстоніі).

Аднак, настаўнічаць яму не давялося. У 1918 годзе ён уступіў дабраахвотнікам у Чырвоную Армію, хутка стаў камандзірам роты, пасля батальёна, палка і брыгады. У 1921 годзе закончыў Акадэмію Генеральнага Штаба Савецкай Арміі і быў накіраваны ў Сярэднюю Азію да барацьбы супроць контррэвалюцыйнага руху басмачоў. Затым хутка авансуе на намесніка Начальніка Генеральнага Штаба СССР.



Маршал СССР В. Сакалоўскі.



У 1941—1945 гадах яму даручана адказная пасада Начальніка Штаба Заходняга Фронта. Маршал Сакалоўскі браў удзел у падрыхтоўцы Смаленскай, Львоўскай, Вісла-Одэрскай і Берлінскай аперацыяў. У 1943 годзе быў Камандуючым Штаба Заходняга Фронта. Ён прымаў капітуляцыю гітлераўскай Германіі, а пасля, да 1949 года, заставаўся ў Нямеччыне, як камандуючы войскамі і адміністрацыяй.

У 1955 годзе Сакалоўскі быў назначаны намеснікам Міністра Узброеных Сіл СССР і Начальнікам Генеральнага Штаба Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.

Зараз Васілю Сакалоўскаму 70 год. Але ён надалей у добрым здароўі і працуе, як кажа, «для айчыны сто год». Ён жыва цікавіцца бытам сваіх аднавяскоўцаў з Козлікаў.

**Генерал АЛЯКСАНДР ВАШКЕВІЧ** нарадзіўся 11 ліпеня 1901 года ў **Белавежы,** у сям'і беларускага малазямельнага селяніна. У 1914 годзе разам з бацькамі і васьмю малодшымі сёстрамі і братамі ён выехаў у бежанства, у час якога трапіў да Чэлябінска. Тут у 1918 годзе дабраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію і быў накіраваны ў складзе 237 Мінскага пяхотнага палка на Заходні Фронт. Скромны, але вясёлы і надзвычай працавіты хлопец паказаў сябе як адважны і ахвярны барацьбіт за лепшае будучае. У сувязі з гэтым у 1920 годзе быў прыняты ў падафіцэрскую школу, а затым у афіцэрскую школу ў Смаленску, якую закончыў у 1925 годзе.

Працаваў на розных пасадах — ад камандзіра ўзвода пачаўшы да начальніка штаба 211 пяхотнага палка 71 дывізіі.

У 1930 годзе ўступіў у Камуністычную партыю. У 1938 годзе А. Вашкевіч закончыў Ваенную Акадэмію імя Фрунзе і атрымаў у ёй пасаду начальніка аддзела абучэння.

Аднак яго педагагічна-навуковую працу спыніла вайна. У 1942 годзе быў назначаны камандзірам палка, а потым намеснікам камандзіра 116 пяхотнай дывізіі. У 1943 годзе прымаў удзел у бітве пад Курскам (за баявыя заслугі атрымаў Ордэн Чырвонага Сцяга). Удзельнічаў у пераправе цераз Днепр. У гэты час А. Вашкевіч у чыне палкоўніка атрымаў званне Героя Савецкага Саюза, медаль Залатой Звязды і Ордэн Леніна.

У верасні 1944 года, па прапанове ПКВН, перайшоў ён да Войска Польскага і ў раёне Лукава пачаў фармаваць 5-тую пяхотную дывізію. У тым жа годзе за асаблівыя заслугі атрымаў званне генерала брыгады. Кіраваў у Берлінскай аперацыі дывізіяй у складзе II-ой Арміі Войска Польскага. 21. IV. 1945 года яго штаб быў акружаны адборнай нямецкай дывізіяй, што ішла на дапамогу Берліну. Нягледзячы на вял'кую перавагу ворага генерал А. Вашкевіч з адным школьным ба-

тальёнам і сапёрамі паўстрымоўваў варожыя атакі і загінуў геройскай смерцю. Цела генерала знойдзена 4 мая 1945 года ў лесе каля Васенберга пад Будзішынам.

Генерал А. Вашкевіч, як сімвал камандзіра-інтэрнацыяналіста, пасмяротна ўзнагароджаны крыжам Віртуці Мілітары IV класа і Ордэнам Адраджэння Польшчы. Пахаваны ў Алеі Заслужаных у Варшаве.

У 1955 годзе яго імя атрымала Афіцэрская Самахадовая Школа ў Піле.

Жыхары Белаавежы ганарацца тым, што іх мясцовасць дала так таленавітага палкаводца, які ўсё жыццё змагаўся за вызваленне народаў і аддаў яго ў трагічных абставінах якраз напярэдадні заканчэння II Сусветнай вайны.

**Генерал МІКІТА КАЗАЧУК** нарадзіўся ў 1898 годзе ў **Трасцянцы,** Гайнаўскага павета, у мнагадзетнай беларускай сям'і. З васьмі дзяцей памерла пяць, а будучы генерал нават не захварэў. Жвавы, дасціпны і прыгожы хлопец разам з бацькамі выехаў у 1914 годзе ў бежанства і трапіў у Сярэднюю Азію. Тут мабілізавалі яго царскія ўлады і накіравалі ў Петраград. Мікіта прымаў удзел у рэвалюцыйных падзеях тагачаснай сталіцы Расіі. Пасля вайны закончыў ваенную школу і быў накіраваны на працу ў Мінск, затым у Маскву. У 1941—1942 гадах, як лётчык бараніў сталіцу СССР ад гітлераўскіх захопнікаў.

Ад моманту першых перамог над ворагам, увайшоў у чыне палкоўніка ў склад інспекцыйнай групы і кіраваў арганізацыяй палявых аэрадромаў у тыле Савецкай Арміі. Два разы быў на Беласточчыне — у Беластоку, Дабрынёўцы і Бельску. Наведаў родную Трасцянку.

Зараз знаходзіцца на пенсіі. **У. Ю.**

# Ад Леніна да Берліна

Ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што нарадзіны Войска Польскага звязаны з першай вялікай бітвай на беларускіх землях пад мястэчкам Леніна, якая мела месца дваццаць пяць год назад — 12 кастрычніка 1943 г. Гэты дзень святкуецца зараз як **Дзень Войска Польскага.**

Прымаўшая ўдзел у гэтай слаўнай бітве першая польская дывізія імя Тадэуша Касцюшкі з'явілася тым насеннем, з якога выраслі нашы ўзброеныя сілы. Зрэшты, польска-беларуская сімволіка сягае ў далёкае мінулае — Касцюшка нарадзіўся і вырас у асяроддзі сярэднезаможнай беларускай шляхты з-пад Слоніма. Дарэчы, сам ён ведаў беларускую мову і на гэтай мове заклікаў люд наш да барацьбы супроць царскай навальніцы.

Народнае Войска Польскае, якое ў часы апошняй Сусветнай вайны пачало пад імем Касцюшкі свой слаўны марш з беларускіх земляў, адыграла вельмі канкрэтную ролю ў барацьбе з нямецкімі захопнікамі. Была гэта з'ява не толькі палітычная але мілітарная перад усім! У штурме першых бастыёнаў гітлераўскай арміі на паўночных і заходніх рубяжах Польшчы нашы ўзброеныя сілы налічвалі ўжо каля паўмільёна салдатаў і афіцэраў, якія здольныя былі праводзіць вялікія самастойныя ваенныя аперацыі, як штурм Паморскага вала і Будзішынская аперацыя, а таксама ўдзел у Берлінскай аперацыі маршала Жукава.

Неабходна падкрэсліць, што ў радах Войска Польскага змагаліся тысячы беларусаў з Беласточчыны. Беларусы — радавыя і афіцэры — аддалі сваю бясцэнную даніну крыві за справу перамогі над фашызмам, за справу збудавання свабоднай і незалежнай Польшчы і яе Узброеных Сіл. У Будзішынскай аперацыі загінуў геройскай смерцю беларус з Белавежы, генерал Аляксандр Вашкевіч (4 мая 1945 года).

У сучасны момант Войска Польскае, як ніколі ў сваёй гісторыі, мае дасканалае і магутнае ўзбраенне, і дасягнула высокай баявой падрыхтоўкі. У садружнасці з узброенымі сіламі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і краін народнай дэмакратыі Войска Польскае верна сцеражэ здабыч сацыялізма. З пачуццём справядлівай нацыянальнай гордасці можам сказаць, што нямалы ў гэтым удзел і воінаў-беларусаў з нашай Беласточчыны, а таксама нашых землякоў — ваенных спецыялістаў і інжынераў, якія дзякуючы народнай уладзе ўпершыню атрымалі магчымасці развіцця сваіх здольнасцей і талентаў на карысць сваёй айчыны, Народнай Польшчы.



Танкі на пераправе.

# СТАЛІНГРАД

Каб зразумець падзеі на нямецка-савецкім фронце ў часы другой сусветнай вайны, трэба ведаць, што немцам не ўдалося разграміць **асноўных сіл** Савецкай Арміі. Славуты «бліцкрыг» не ўдаўся і ўжо ў першыя месяцы вайны было ясна, што яна не закончыцца хутка.

Праз год пасля — у другой палове жніўня 1942 г. — перадавыя часці гітлераўскай арміі прарваліся да Волгі на поўнач ад Сталінграда. У той жа час створана Сталінградскі фронт і пачаўся адзін з найбольшых баёў у другой сусветнай вайне. 14 верасня гітлераўцы выйшлі ў цэнтр горада ў раёне вакзала, а праз тыдзень пасля, 22 верасня, прарваліся да Волгі ў раёне цэнтральнай пераправы.

Сталінградская бітва фактычна цягнулася ўсяго больш трох месяцаў. Ужо 19—20 лістапада 1942 года войскі Сталінградскага, Донскага і Паўднёва-Заходняга франтоў перайшлі ў наступленне і 23 лістапада войскі Паўднёва - Заходняга і Сталінградскага франтоў злучыліся ў раёне Калача, акружаючы славутую 6-ую армію Паўлюса і частку 4-ай танкавай нямецкай арміі. Аж да зімы цягнуліся баі з акружанымі нямецкімі арміямі.

8 студзеня Савецкае камандванне пераслала Паўлюсу ўльтыматум, якое Паўлюс адкінуў. Нямецкая армія апынулася ў катастрафічнай сітуацыі — без амуніцыі і харчоў. На аднаго салдата выпала ў дзень па тры лыжкі кашы і некалькі патронаў. Маразы дасягалі 39 градусаў, армія засталася без зімовага адзення. Дні арміі Паўлюса былі палічаны. 31 студзеня 1943 года ўзята ў палон фельдмаршала Паўлюса, яго штаб і армію, а 2 лютага здаліся ў палон рэшткі яго арміі, што бараніліся ў фабрычным раёне Сталінграда.

Ад часу бітвы за Маскву ўзіму 1942 г. і Сталінградскай бітвы ў 1943 годзе нямецкі фронт ужо штораз хутчэй каціўся назад.



Для патрэб Савецкай Арміі працаваў велізарны прамысловы раён Урала, да якога ніколі не даляцелі нямецкія самалёты. Прытым, савецкім уладам удалося эвакуяваць за Волгу значную колькасць прамысловых аб'ектаў, якія хутка ўрухомлена на новым месцы і перастаўлена іх прадукцыю на патрэбы вайны. Дапамога аліянтаў Савецкаму Саюзу датычыла прадуктаў, сродкаў транспарту і т. п. Сімвалам гэтай дапамогі сталася вядомая «тушонка» з чыкагаўскіх бойняў.



Сталінград і людзі.



Фельдмаршал Паўлюс і яго генералы ў палоне.

Савецкая Армія мела сваю дасканалую тэхніку: неперамож-ныя танкі, «кацюшы», самалёты. Магутны Урал працаваў дзень і ноч, там знаходзілася сэрца ваеннай эканомікі Саюза ССР.

Апрача таго, на Далёкім Усходзе, пры манчжурскай граніцы, стаялі цэлыя савецкія арміі, якія дыслакавана там у сувязі са спадзяванай атакай на СССР з боку Японіі. Гэта быў істотны момант, які дазволіў немцам так далёка прасунуцца ўглыб савецкай тэрыторыі. Калі Японія пачала вайну на Пацыфіку і ў кірунку да Аўстраліі, стала ясным, што не будзе яна пачынаць вайны супроць СССР. Савецкая агентура ў Японіі — на чале з легендарным разведчыкам • Рыхардам Зорге — устанавіла, што Японія не зацікаўлена вайною з Савецкім Саюзам, а ўсе свае намаганні кіруе супроць Злучаных Штатаў Амерыкі, Вялікабрытаніі, Галандыі, Францыі, якім вырвала калоніі на азіяцкім кантыненце, каб скарыстаць іх у сваіх інтарэсах. Інфармацыям Рыхарда Зорге і яго агентуры савецкае кіраўніцтва спачатку не давярала, і таму вялікія савецкія вайсковыя сілы адразу не маглі быць выкарыстаны ў барацьбе з фашыстоўскімі захопнікамі.

Сталася гэта на другі год вайны фашыстоўскай Германіі супроць Савецкага Саюза, калі ў раёне Сталінграда ўведзена ў бой далёкаўсходнія арміі, што і сталася пераломным ударам у гэтай гігантычнай рэгулярнай вайне.



## UCHWAŁA Nr 62/503/66

### Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej w Białymstoku

### z dnia 29 grudnia 1966 r.

**w sprawie ustalenia kierunków działania zainteresowanych organów administracji państwowej w zakresie pomocy dla ludności mniejszości narodowościowych.**

**Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej w Białymstoku po zapoznaniu się z informacją Urzędu Spraw Wewnętrznych na temat kształtowania się stosunków narodowościowych na terenie województwa — stwierdza, że w województwie białostockim sytuacja ludności mniejszości narodowościowych przedstawia się zadowalająco.**

**Sprawy *mniejszości narodowościowych* są *rozwiązywane i załatwiane* przez prezydia rad narodowych w sposób właściwy i prawidłowy.**

**Sprawdzianem tego jest dobrze układające się współżycie mniejszości narodowościowych z ludnością polską. Ze wszystkich środowisk narodowościowych są przedstawiciele w organach państwowych.**

**Mimo zadowalającej na ogół sytuacji w rozwoju stosunków narodowościowych na terenie Białostoczczyzny, Prezydium stwierdza potrzebę dalszego aktualizowania i pogłębiania różnych form pomocy terenowych organów administracji państwowej poszczególnym grupom ludności mniejszości narodowościowych.**

**W związku z tym Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej działając na podstawie art. 55, ust. 4, pkt. 3 i art. 71 ustawy o radach narodowych (Dz. U. z 1963 r. Nr 29, poz. 172) uważa za wskazane ustalenie następujących kierunków działania dla zainteresowanych organów administracji państwowej w zakresie dalszej pomocy poszczególnym grupom narodowościowym, a mianowicie:**

§ 1.

Urząd Spraw Wewnętrznych

a) uwzględni w planach pracy zagadnienie koordynacji przedsięwzięć poszczególnych wydziałów Prezydium WRN i prezydiów powiatowych rad narodowych w zakresie pracy z ludnością białoruską, ukraińską, litewską i rosyjską,

b) przynajmniej raz w roku przedłoży informację na Prezydium WRN z dziedziny życia środowisk narodowościowych zamieszkałych na Białostocczyźnie,

c) zapewni pełny nadzór nad działalnością statutową towarzystw społeczno-kulturalnych BTSK, LTSK, UTSK i innych

d) winien raz w roku dokonywać wszechstronnej analizy sytuacji i potrzeb w poszczególnych środowiskach narodowościowych i wnioski do realizacji przedkładać zainteresowanym komórkom organizacyjnym prezydiów rad narodowych,

e) ustali wspólnie z Wydziałem Finansowym Prezydium WRN plan kontroli (raz na dwa lata) w Zarządach Głównych Białoruskiego Towarzystwa Społecznego-Kulturalnego i Litewskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w zakresie działalności finansowej,

f) zabezpieczy realizację planów pracy poszczególnych towarzystw narodowościowych przez analizowanie ich na plenarnych posiedzeniach ZG BTSK i LTSK,

g) wspólnie z Wydziałem Organizacyjno-Prawnym Prezydium WRN zainteresuje działalnością statutową towarzystw narodowościowych Komisje WRN. Podczas omawiania ważniejszych spraw, które wiążą się ze środowiskiem mniejszości narodowościowych wskazane jest na te posiedzenia zapraszać przedstawicieli towarzystw narodowościowych.

§ 2.

Kuratorium Okręgu Szkolnego

a) dokonywać będzie raz w roku oceny nauczania języka ojczystego w poszczególnych środowiskach narodowościowych,

b) w związku z likwidacją liceów pedagogicznych przygotowujących nauczycieli do szkół podstawowych mniejszości narodowościowych:

1) rozważy możliwość i celowość zorganizowania filologii białoruskiej w Zaocznym Studium Nauczycielskim w Białymstoku,

2) rozważy możliwość utworzenia międzykierunkowych lektoratów języka: białoruskiego, ukraińskiego lub litewskiego w pozostałych studiach nauczycielskich w roku szkolnym 1967/68,



3) wystąpi do Ministerstwa Oświaty i Szkolnictwa Wyższego z wnioskiem w sprawie zorganizowania Zaocznego Studium Filologii Białoruskiej przy Uniwersytecie Warszawskim,

4) zobowiąże wydziały oświaty prezydiów powiatowych rad narodowych do pełniejszego wykorzystania działalności ognisk metodycznych w zakresie podnoszenia kwalifikacji nauczycieli, którzy nauczają język ojczysty,

5) wystąpi z wnioskiem do Ministerstwa Oświaty i Szkolnictwa Wyższego w sprawie wysyłania nauczycieli z terenu pow. Sejny do LSSR na wakacyjne Kurso-Konferencje;

c) zwróci się do Ministerstwa Oświaty i Szkolnictwa Wyższego o zaopatrzenie szkół z niepolskim językiem nauczania w programy nauczania i podręczniki,

d) rozważy możliwość zorganizowania w okresie letnim obozów i kolonii letnich dla dzieci ze szkół białoruskich, litewskich i ukraińskich na terenie USRR, a na terenie województwa białostockiego z BSRR i LSRR w ramach wymiany przygranicznej,

e) wzmocni nadzór pedagogiczny w wydziałach oświaty prezydiów rad w tych powiatach, w których jest nauczany język mniejszości narodowościowych,

f) wyda polecenia wydziałom oświaty w przedmiocie organizowania konferencji z nauczycielami ze szkół, w których jest wykładany język białoruski, litewski i ukraiński. Na konferencjach tych należy dokonywać oceny wyników nauczania oraz ustalać kierunki i zadania dla szkół z niepolskim językiem nauczania.

§ 3.

Wydział Kultury

a) zapewni pomoc finansowo-instruktażową narodowościowym zespołom amatorskim przez Wojewódzki Dom Kultury i Wojewódzką Bibliotekę Publiczną,

b) wyda odpowiednie zalecenie Referatom Kultury prezydiów PRN do opracowania programu działania kulturalno-oświatowego w środowiskach narodowościowych,

c) zapewni nadzór artystyczny i repertuarowy wspólnie z Zarządem Głównym BTSK dla zespołów artystycznych „Lawonicha", przy zarządach pow. BTSK w Bielsku Podlaskim, Hajnówce i Milejczycach,

d) rozważy możliwość zorganizowania państwowego zespołu estradowego przy Woj. Domie Kultury z repertuarem regionu białoruskiego,

e) spowoduje aktywizację pracy świetlic, klubów i bibliotek na wsi przez zwiększenie ilości imprez, odczytów i innych form o tematyce regionalnej,

f) spowoduje aby istniejące zespoły artystyczne pracujące w środowisku mniejszości narodowościowych uwzględniały w swych repertuarach szerzej zagadnienia związane tematycznie z regionem i miejscowym folklorem ludowym oraz częściej docierały na wieś,

g) spowoduje uzupełnienie przez biblioteki księgozbiorów książek w języku białoruskim, litewskim i ukraińskim zgodnie z potrzebami poszczególnych środowisk,

h) zainteresuje się w większym stopniu działalnością towarzystw narodowościowych i udzieli pomocy w zakresie rozwijania różnych form życia kulturalno-oświatowego wśród ludności białoruskiej, litewskiej i ukraińskiej,

i) zapewni pomoc materialną i fachową narodowościowym towarzystwom społeczno- kulturalnym w organizacji powiatowych i wojewódzkich eliminacji amatorskich zespołów artystycznych,

j) uwzględni w swych planach pracy środowiskowe Kurso-Konferencje aktywu społecznego i instruktorów kulturalno-oświatowych pracujących w środowisku mniejszości narodowościowych w celu popularyzacji dorobku i nakreślania głównych kierunków i zadań w pracy K.O.,

k) zabezpieczy zaopatrzenie placówek kulturalno-oświatowych w prasę w języku białoruskim, litewskim, ukraińskim wychodzącą w kraju i w ZSRR,

l) spowoduje przebudowę kina w Baniach Mazurskich pow. Gołdap na szeroko-ekranowe,

ł) wystąpi do Centrali Wynajmu Filmów z wnioskiem, aby na Białostocczyznę przesyłać więcej filmów radzieckich, a w szczególności na tereny zamieszkałe przez ludność białoruską,

m) wystąpi do Ministerstwa Kultury i Sztuki z wnioskiem w sprawie wysłania 5-ciu abiturientów z pow. Sejny na studia artystyczne do Radzieckiej Litwy,

n) rozważy możliwość zorganizowania wspólnie z Zarządem Głównym BTSK i LTSK regionalnych muzeów w Białowieży i Sejnach,

o) spowoduje wprowadzenie do repertuaru Zespołu pieśni i tańca „Kurpie Zielone" i Orkiestry Symfonicznej utwory muzyczne, tańce i pieśni twórców białoruskich, ukraińskich i litewskich,

p) rozważy wspólnie z Kierownictwem Rozgłośni Polskiego Radia i Telewizji w Białymstoku możliwość wprowadzenia do programów radiowych piosenek i utworów muzycznych twórców białoruskich, ukraińskich i litewskich,

r) zobowiąże powiatowe domy kultury w Bielsku-Podlaskim, Siemiatyczach, Gródku, Michałowie, Sokółce, Gołdapi i Puńsku do ściślej współpracy i pomocy amatorskim zespołom artystycznym pracującym w środowiskach narodowościowych.



§ 4.

**Wydział Rolnictwa i Leśnictwa**

a) spowoduje uregulowanie w terminie do 1969 r. stanu prawnego gospodarstw rolnych użytkowanych przez rolników narodowości ukraińskiej na terenie powiatu Gołdap,

b) spopularyzuje wśród rolników zamieszkałych w powiatach Bielsk-Podlaski, Białystok, Hajnówka, Sokółka i Siemiatycze społeczną komasację gruntów. Dla sprawnego przeprowadzenia tej formy komasacji, organa rolnictwa zabezpieczą fachową pomoc — kadrę,

c) zorganizuje poletka doświadczalne na terenach południowo-wschodnich powiatów przez rejonowe zakłady doświadczalne i IUNG,

d) rozważy możliwość wprowadzenia na terenach powiatów Bielsk-Podlaski, Białystok, Hajnówka, Sokółka i Siemiatycze hodowli owiec,

e) zaleci Wojewódzkiemu Związkowi Kółek Rolniczych i „Agrochemowi" nasilenie doświadczalnictwa łanowego na terenach południowo-wschodnich powiatów,

f) uwzględni w większym stopniu przy opracowaniu planu elektryfikacji wsi, region zamieszkały przez ludność białoruską i litewską,

g) uwzględni zwiększenie kredytów na popieranie produkcji rolnej w powiatach Białystok, Bielsk-Podlaski, Dąbrowa Białostocka, Hajnówka, Sokółka i Siemiatycze jako regionowi zamieszkałemu przez ludność białoruską.

§ 5.

**Prezydia powiatowych rad narodowych**

a) spowodują ściślejszą współpracę wydziałów Prezydium PRN w zakresie zaspokajania potrzeb środowisk narodowościowych, a w szczególności na odcinku rozwoju oświaty i kultury,

b) spowodują aktywność społeczną środowisk narodowościowych oraz wskażą stowarzyszeniom narodowościowym na konieczność dalszego pogłębiania społecznego charakteru ich działalności,

c) przynajmniej raz w roku zapoznają się z istniejącą sytuacją w środowiskach narodowościowych na terenie swego powiatu, podejmując odpowiednie wnioski zapewniające należytą realizację wytycznych Partii i Rządu w tym zakresie,

d) zalecą wydziałom spraw wewnętrznych, oświaty i kultury wzmocnienie sprawowanego nadzoru nad działalnością oddziałów narodowościowych towarzystw społeczno-kulturalnych.

§ 6.

**Zobowiązuje się kierowników wydziałów Prezydium WRN i PRN wy-**

mienionych w uchwale do omówienia postanowień niniejszej uchwały na posiedzeniach Komisji rad narodowych w części ich dotyczącej.

§ 7.

Wydziały, jednostki organizacyjne Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej zobowiązuje się do składania rocznych sprawozdań w terminie do dnia 25 lutego w części ich dotyczącej Urzędowi Spraw Wewnętrznych.

§ 8.

Traci moc uchwała *Prezydium* Wojewódzkiej Rady Narodowej Nr XXIX/296 z dnia 19 lipca 1955 r. w sprawie pracy wśród grup narodowościowych na terenie województwa białostockiego.

Sekretarz Prez. WRN (mgr JERZY KOSZEL)

Przewodn. Prez. WRN (STEFAN ŻMIJKO)







## ВЫВАД ХАТНЯЙ ПТУШКІ

| Птушка | Час выседжвання яек | Колькасць яек | Колькасць саміц на аднаго самца |
|---|---|---|---|
| Курыца | 20—22 дні | 15 — 19 яек | 12 — 15 саміц |
| Індычка | 27 — 30 дзён | 15 — 19 яек | 10 — 15 саміц |
| Гуска | 28—32 дні | 13 — 14 яек | 4 — 6 саміц |
| Качка | 26—31 дзень | 13 — 15 яек | 4 — 6 саміц |
| Галубіха | 17 — 19 дзён | 2 — 3 яйкі | 1 саміца |

Колькасць яек, якія патрэбна падкласці пад адну квактуху залежыць ад яе размераў (велічыні). Напрыклад, пад індычку можам падкласці 21—25 курыных яек, 9—11 гусіных або 21 качыных; пад курыцу — ад 3 да 5 гусіных яек або 11 качыных.



## ПРА СПАДЧЫНУ

Не кожны можа атрымаць гаспадарку па спадчыне. Гаспадарка са спадчыны належыцца, перад усім, таму, хто будзе з яе жыць. Справа ў тым, каб не дапусціць да празмернага раздраблення гаспадаркі і, каб не дапусціць да ніякіх сплат, якія б падарвалі сілы гаспадаркі.

Таму новыя законы ўстанаўляюць розныя правы да спадчыны дзецям, унукам, бацькам і г. д.

**Першае** і найважнейшае гэта тое, што гаспадарка можа быць прызнана пасля смерці бацькоў толькі таму дзіцяці, якое працавала на гаспадарцы аж да смерці бацькоў.

Калі:

— працавала яно на гаспадарцы не менш, чым адзін год перад смерцю бацькоў,

— або працавала яно на гаспадарцы мужа — жонкі ці іх бацькоў (нпр. — пайшоў у прымы, пакінуўшы бацькоў самых).

Малалетнія дзеці, якія яшчэ вучацца, маюць права на спадчыну. Такое самае права маюць працягла хворыя малалетнія дзеці.

Калі ж ніводнае з дарослых дзяцей не засталося на гаспадарцы, дык пасля смерці бацькоў права на спадчыну маюць тыя дзеці, якія могуць найляпей пакіраваць гаспадаркаю. Павінны яны ў тэрміне шасці месяцаў ад дня смерці бацькоў скласці заяву ў судзе або ў натарыуса, што яны гатовы вясці гаспадарку.

Тое самае заяўленне датычыць удоваў ці ўдаўцоў, на якіх не фігуруе гаспадарка. Калі не зробяць заявы, могуць страціць права да гаспадаркі. Гэтаксама і ўнукі.

## ЁЗІК ДАРАФЕЮК

Даволі асаблівая і рэдкая прафесія ў Ёзіка Дарафеюка, родам са Старога Беразова, дзядзькі пажылога і з буйнаю барадою. Ёзік Дарафеюк — спецыяліст ад капання калодзежаў, спецыяліст адмысловы як ніхто ў ваяводстве.

Як дайшоў дзядзька Дарафеюк да такой дасканаласці — цяжка сказаць. Сам ён тлумачыць, што нічога ў гэтым асаблівага, што ён толькі робіць так, каб было добра. І ўсё. Да кавання калодзежаў ахвотна наймаюць Ёзіка Дарафеюка — і не толькі гаспадары але і дзяржаўныя ўстановы.

Ёзік Дарафеюк пабудаваў на Гайнаўшчыне і ў іншых паветах больш як **пяцьсот** студняў. Падлічылі, што спатрэбілася яму прасядзець у калодзежах каля 150 тысяч гадзін. (п)



Вясковая вуліца.

## СЕЛЯНІН — КАНСТРУКТАР

На панадворку ў Паўла Валошына быццам бы ў нейкім ПОМ-е, поўна сельскагаспадарчых машын, цэлых і размантаваных на часткі, розных прыладаў і механізмаў. Жыве дзядзька Павел у вёсцы Грыбоўшчына, Сакольскага павета, на хутары ўглыбіні лесу над рэчкаю. Ды і знайсці дзядзьку тут было б немагчыма, толькі металічныя званкі, якія дзень і ноч дзілімбаняць вакол валошынавай хаты наводзяць падарожнага на ўласцівую дарогу. Гэта так бароніць ад дзікаў свой хутар Павел Валошын. Кемлівасць і дасціпнасць Паўла Валошына не зводзіцца аднак да канструявання званкоў-страхаў на дзікі. Будуе ён сваім спосабам машыны, трактары і розныя гаспадарчыя прылады.

На яго панадворку я бачыў якраз два трактары, так сказаць, сваёй работы: адзін трактар звычайны, чатырохколавы, а другі трактар на трох колах з прымантаваным плугам. Гэты трохколавы трактар ужывае гаспадар толькі да ворыва.

Прытым Павел Валошын мае нямалую пасеку і добры, вельмі здаровы лясны мёд. (п)





# РАЗМОВА ПРА ЗДАРОЎЕ

«Зноў уносяць у хату калыскі,
Тых, каму ў спадчыну лёс
Вытачыў абеліскі
З мармуру белых бяроз».

**Мікола Маляўка**

Дзеці, гэта будучыня народу. Не можа быць здаровага народу без здаровых дзяцей.

Яшчэ не так даўно таму назад здаралася, што гаспадар на запытанне, колькі ў яго дзяцей, адказваў: «А нешта восем ці дзевяць. Добра не памятаю. Вы лепш маёй жонкі папытайце. Яна будзе дакладна ведаць». Багацейшая была ў той час наша краіна дзяцьмі, чым хлебам.

Дзеці нараджаліся, дзеці паміралі, а бацькі і адно, і другое прымалі, як загад лёсу. А памірала дзяцей вельмі шмат, асабліва, тых найменшых. У некаторых вёсках яшчэ сёння паказваюць на колішнія дзіцячыя магілкі на пагорку, дзе хавалі дзяцей, якія памерлі няхрышчанымі, зараз жа пасля нараджэння.

Паміралі з прычыны дыфтэрыту, з прычыны паносу («бегунка»), коклюшу і шматлікіх іншых хваробаў. Часта канчалася смерцю запаленне лёгкіх. Страшнай пагрозай была яшчэ да нядаўна хвароба Гайне-Медына, іначай кажучы, дзіцячы параліч, які даводзіў калі не да смерці дык да страшэннага калецтва. Недастатковае развіццё аховы здароўя, неасвечанасць бацькоў, нізкі жыццёвы ўзровень насельніцтва — вось галоўныя прычыны, дзеля якіх у міжваенны перыяд краіна наша была адной з «вядучых» у Еўропе па паміральнасці грудных дзяцей ды і дзяцей наогул.



Ды і медыцына, як навука, вядома, не была яшчэ на тым узроўні, што цяпер. Невядомымі былі таксама шматлікія з цяперашніх лякарстваў — асабліва, антыбіётыкі і некаторыя вакціны («шчэпёнкі»). Не без значэння было таксама тое, што за кожную лекарскую параду трэ' было плаціць.



Паглянем, як гэтыя справы выглядаюць сёння? Ахова здароўя? Няма ж такога кутка, у які не заглядаў бы лекар, у які не даехала б карэтка хуткай дапамогі («пагатове»). Амаль што ўсе дзеці прыходзяць на свет у бальніцах і кожны з гэтых найменшых грамадзян знаходзіцца ад першых сваіх дзён пад лекарскаю апекаю.

Не вельмі та шмат на свеце такіх краінаў, у якіх вышэйшая адукацыя была б чымсьці частым (няма вёскі, з якое не выводзілася б пару — інжынераў, лекараў, настаўнікаў, і інш.); *сярэдняя* адукацыя *сталася чымсь штодзённым*, а восем класаў — абавязкам. Наконт жыццёвага ўзроўню можна было б, праўда, спрачацца — вядома, аднак, што ў дзеякіх мясцовасцях за верх беднасці лічаць брак тэлевізара ў хаце.



І вось, нягледзячы на тое, што ахова здароўя, здаецца, на нядрэнным узроўні ды і з грошыкамі не так ужо туга — дзеці ўсё ж паміраюць. І памірае іх нямала. А, і тая рэшта гадуецца, расце не заўсёды так, як трэба.

Чаму???

Тут можна дашукацца двух галоўных прычынаў:

1. Бацькі **не ведаюць правоў**, якія маюць дзеці да лекарскай апекі.

А менавіта:

а) кожнае дзіця мае права да б я с п л а т н а й лекарскай парады — з тым, што дзеці бацькоў незастрахаваных (без «убезпечальні») плацяць поўную цану за лякарствы.

б) кожнае дзіця да аднаго году жыцця — нягледзячы на тое, ці яго бацькі застрахаваны, ці не — мае права б я с п л а т н а лячыцца ў бальніцы **і мае права да бясплатнага** карыстання з карэткі хуткай дапамогі («пагатовя»).

в) дзеці бацькоў застрахаваных маюць права да сямі год свайго жыцця б я с п л а т н а карыстацца паслугамі карэткі хуткай дапамогі.

г) усе хворыя — дзеці ды і дарослыя — на заразныя хваробы маюць права, ў выпадку патрэбы бальнічнага лячэння, карыстацца лячэннем б я с п л а т н а, а ў апошні час атрымоўваць бясплатна нават лекі.

2. Другою галоўнаю прычынаю з'яўляецца павярхоўнасць асветы, несумленнасць, а часамі нават абыякавасць бацькоў.

Тут чытачы, пэўна, абурацца. — Немагчыма! — скажуць. Хто ж гэта свайму дзіцяці хоча дрэннага. А, вось давайце разгледзім гэту справу.

Скажам, гуляе дзіця ў калысцы. Маці тымчасам па хаце круціцца. Дзе - якая маладзейшая пазногцікі лакам малюе ці модную прычоску сабе ўкладвае — дзіцятку, каб не плакала, сыску ў роцік сунула. Дзіця як дзіця, выняла з рота сыску ды кінула на падлогу. А, што робіць матанька? Падымае сыску з падлогі, аблізвае і суне ў роцік беднаму дзіцятку, якое нават бараніцца не можа. Паспрабавала б яна аблізаць лыжку і мужу ў рот тыкануць — паказаў бы ён ёй, дзе ракі зімуюць!..

А, жа ж кожнаму школьніку ўжо вядома, што ў роце нават здаровага дарослага чалавека шмат усялякіх заразкаў. А, часам «разумная» — нат' з сярэдняй адукацыяй — маці хлеба нажуе і гэтакаю жвачкаю дзіця корміць. Ці ж рэдка гэтак бывае? І, што тут падумаць? Альбо гэтакая маці з усяе школьнай мудрасці запамятала толькі тое, што найпрыгажэйшым хлопцам у каторымсьці там класе быў Толік з трэцяе лаўкі — альбо яна да дзіцяці, проста, абыякавая.

Праўда, дзе-хто можа сказаць, што ягоная бабулька заўсёды сыску аблізвала і нягледзячы на тое, васьмёра здаровых дзяцей выгадавала. Паверце, аднак, што выраслі яны здаровымі не дзякуючы «апецы», але **дзякуючы шчасцю і жалезнаму ад прыроды здароўю.**

Возьмем другі выпадак. Страшная хвароба **дыфтэрыт.** Калісьці вельмі шмат дзяцей ад яго памірала. Сёння яго амаль што не сустракаецца, дзякуючы прывіўкам («шчэпёнкам»), якія робяць дзецям у 2-ім, 3-ім і 4-ым месяцах і паўтараюць у сёмым годзе. І вось, аднойчы, у дзіцячую бальніцу аднаго ваяводскага горада прывезлі трое дзетак, якія на гэту хваробу захварэлі. Двух хлопчыкаў - брацікаў з нябеднай сям'і — распешчаныя, здаецца, добра дагледжаныя — і дзяўчынкасіротка з Дзіцячага дому. Усе трое былі цяжка хворыя. Лекары рабілі ўсё, што было ў іх магчымасцях. Хлопчыкам, якімі ад маленства апекаваліся бацькі — і, здаецца, добра

апекаваліся (давалі ім і цукерак, і памаранчаў, і цацак цэлую горбу) — было штораз горш і горш. Урэшце, адзін з іх памёр, а другі ледзьве-ледзь выжыў. Тымчасам, дзяўчынка, бедная сіротка, якая сваіх бацькоў не ведала і была пад грамадскаю апекаю, дзе нават усе старанні не заступяць дзіцяці сямейнай цяплыні — перанесла хваробу даволі лёгка і хутка выздаравела. У чым справа? Проста, хлопчыкі не мелі зробленых прывівак супроць дыфтэрыту. Бацькі «шкадавалі» іх вясці да лекара «на шчэпёнку», маўляў, як жа ж такое малое дзіцяня голкаю пароць!? А ў Дзіцячым доме прыв'ўкі робяць усім. **Дзеці, якія мелі робленыя прывіўкі, хварэюць вельмі рэдка, а калі нават — дык хварэюць шмат лягчэй.**

І падумаць толькі, што часамі лепш быць сіратою, чым дзіцянём неразумных бацькоў.

## Што неабходна здароўю дзіцяці?

КАРМЛЕННЕ. Няма і не можа быць для груднога дзіцяці здаравейшага корму, чым **матчынае малако.** Ні адзін, нават, найбольш замысловы штучны корм не можа раўняцца з матчыным малаком. Калісьці багатыя «панячкі» па тое, каб «не псаваць сабе фігуры» нярэдка замест таго, каб самым карміць дзіця, аддавалі яго на выкармленне мамкам. Гледзячы з боку інтарэсаў дзіцяці, гэта было яшчэ не так дрэнна, бо яно — як там не было — карысталася аднак малаком жанчыны.

Сёння ж некаторыя, вельмі дбайныя пра сваю фігуру, а менш пра здароўе дзіцяці, маткі стараюцца як мага хутчэй адзвычаіць дзіця ад грудзей і перайсці на кармленне штучным кормам. Гэта для дзіцяці вялікая крыўда. Не па тое прырода мамаў грудзьмі надзяліла, каб яны мелі што цераз выраз у сукенцы паказваць! Сваім хімічным складам, сваёй прысвойнасцю жаночае малако ў поўнай меры адпавядае ўсім патрэбам дзіцячага арганізму, і магчымасцям страўніка груднога маленства. Яно, жаночае малако, настолькі добра прысвойнае, што кормленае грудзьмі дзіця можа мець н а д в о р а к нават не штодзень, а што два дні — і гэта будзе нармальна.

Кормячы грудзьмі трэба заўсёды памятаць аб гігіене, чысціні. Свядомая сваіх абавязкаў маці ніколі не пачне карміць дзіцяці, пакуль не пратрэ грудных бародавак 2-працэнтавым растворам борнага квасу, які можна ў аптэцы набыць нават без рэцэпты. Зразумела, што штодзённае дакладнае мыццё, прынамсі, да палавіны з'яўляецца для мацеркі на-просту законам у перыяд кармлення грудзьмі. (Разумныя жанчыны ведаюць, што частае мыццё абавязковае заўсёды дзеля здароўя, добрага настрою, маладога выгляду — дзеля таго, урэшце, каб заўсёды падабацца каханаму мужчыне).

Пачынаем прыкладаць дзіця да грудзей на 12-ай гадзіне пасля нараджэння. Найляпей карміць дзіця кожных 4 гадзіны — гэта значыць, пяць разоў у суткі, **з васьмігадзінавым перапынкам на сон.** Пры кожным кармленні даем дзіцяці поўнасцю высмактаць малако з аднае грудзіны. Дзіця павінна «ўправіцца» з гэтаю цяжкаю яму працаю за 10—15 мінут.

Калі жанчына хварэе катарам, ангінаю ці кашляе, павінна абавязкова падчас кармлення засланяць нос і рот масачкаю, зробленай з у д в а я складзенай газы, да якой прышываем чатыры тасемкі: дзве завязваюцца за вушамі, а дзве пад шыяй. Масачкамі гэтакімі ў першых тыднях жыцця дзіцяці варта карыстацца нават жанчынам здаровым. Справа ў тым, што заразкі, якія знаходзяцца ў роце і ў носе нават здаровага чалавека і не прычыняюць яму клопату — для кволага дзіцячага арганізму могуць аказацца згубнымі. А разносяцца яны падчас дыхання, чхання, кашлю. Масачак трэба пашыць некалькі штук і пры кожным кармленні карыстацца свежай, добра вымытай у гарачай вадзе, а яшчэ лепш — вываранай.

Карміць грудзьмі можа амаль кожная жанчына, якая мае ў грудзях малако.

Нельга карміць грудзьмі:

1. жанчынам, хворым на заразны туберкулёз,
2. жанчынам, якія хварэлі калі-колечы сіфілісам — і жанчынам, якія хварэюць заразнымі хваробамі.

Жанчыны такія павінны параіцца лекара адносна кармлення. **Абавязкова!**

У сённяшні час, аднак, усё часцей здараецца, што жанчыны-маткі маюць корму ў грудзях замала альбо не маюць яго зусім. У такіх выпадках трэба дзіця дакармліць альбо і выключна карміць штучным кормам. Штучным кормам у нашых абставінах з'яўляецца адпаведна прыгатоўленая мешанка з малака спарашкаванага — альбо адпаведна прыгатоўленая мешанка з каровінага малака. Прыгатаўляюць дзіцяці малако розна — у залежнасці ад узросту дзіцяці.

Пры прыгатаўлянні трэба перасцерагаць наступныя правілы:

1. Гаршчка, у якім гатуецца дзіцячы корм, нельга выкарыстоўваць у ніякіх іншых патрэбах. Гаршчок гэты павінен быць заўсёды чыста вымыты і выпараны кіпенем.

2. У ніякім выпадку нельга гатаваць дзіцяці корму ў запас. Мешанку трэба гатовіць на кожнае кармленне свежую.

3. Бутэлечкі, з якіх кормяць дзіця ды і сыскі павінны быць заўсёды добра вымытымі і выпаранымі кіпенем

Нягледзячы на тое, што апішу склад ужываных мешанак для дзяцей рознага ўзросту, трэба памятаць пра тое, што хочучы распачаць кармленне альбо дакармлянне дзіцяці штучным кормам, **трэба абавязкова параіцца лекара**, які скажа, якую мешанку і колькі гэтай мешанкі ў даным выпадку даваць.

Мешанкі павінны быць прыгатаваны дакладна і таму пры іх прыгатаўленні трэба карыстацца спецыяльнымі бутэлечкамі, на якіх выпісаныя меркі. Склад мешанак так аблічаны, каб яны забяспечвалі дзіця неабходнымі яму рэчывамі — гэта значыць, каб былі як найбольш падобнымі да жаночага малака, якога яны, нажаль, замяніць усё ж не могуць.

Падаю склады мешанак.

**Мешанка «Па».** Гэтай мешанкай, у выпадку патрэбы, кормяць дзіця да сямі дзён.

а) 100 грамаў вады
3 плоскія чайныя лыжачкі малака ў парашку.
Робячы мешанку «II а» з каровінага малака бярэм дзве часткі малака і адну частку вады.

Да 100 грамаў гэтакай мешаніны дадаем паўтары плоскія лыжачкі цукру.

**Мешанка «II».** Гэтай мешанкай кормяць дзіця ў выпадку патрэбы — ад сёмага дня жыцця да аднаго месяца.

а) 100 грамаў вады
3 плоскія чайныя лыжачкі малака ў парашку
1 плоская чайная лыжачка мукі — «крупчаткі»
паўтары чайныя плоскія лыжачкі цукру.

б) 100 грамаў мешаніны з 2 частак малака і адной часткі вады.
1 плоская чайная лыжачка мукі — «крупчаткі»
паўтары плоскія чайныя лыжачкі цукру.

**Мешанка «III»** Гэтай мешанкай кормяць у выпадку патрэбы дзяцей ад аднаго месяца да 1 года жыцця і даўжэй.

а) 100 грамаў вады
5 плоскіх чайных лыжачак малака ў парашку
1 плоская чайная лыжачка мукі — «крупчаткі»
паўтары плоскія лыжачкі цукру.

б) 100 грамаў поўнага малака (без вады!)
1 плоская чайная лыжачка мукі — «крупчаткі»
паўтары чайныя лыжачкі цукру.



**УВАГА! Плоская чайная лыжачка** — гэта значыць, набіраем лыжачку, напрыклад, цукру і згортваем з яе нажом увесь лішні цукар так, каб было «без чуба». Цукар дадаем пасля таго, як здымем мешанку з агню, бо цукар гатаваны ў мешанцы часта прыгарае.

Хочучы, аднак, каб дзіця добра і здаровым развівалася, трэба яго — пачаўшы ад трэцяга тыдня жыцця — забяспечыць яшчэ неабходнымі яму вітамінамі, якіх амаль няма нават у жаночым малацэ, а тым больш у штучных мешанках. Найбольш даступнай (ды і найлепшай) крыніцай вітамінаў з'яўляюцца сокі з садавіны і гародніны. Найлепшыя і найбагацейшыя вітамінамі сокі з яблыкаў, морквы, памідораў. Адмысловы сок з чорнай парэчкі.

Трэба памятаць пра тое, што ў соках, якія можна купіць у краме (ды і ў хатніх соках, якія перагатаваныя), вітамінаў амаль няма зусім — высокая тэмпература большасць вітамінаў знішчае. Таму дзіцяці трэба даваць сокі свежыя, неперагатаваныя. Пачынаем даваць сокі ад паловы чайнай лыжачкі ў дзень. Кожныя два дні порцыю збольшваем на паўлыжачкі, пакуль дзіця не будзе атрымоўваць 10 лыжачак соку ў дзень. Пару дзён утрымоўваем гэтую дозу, а пасля смела яе збольшваем. Свежы сок ці то з морквы, ці то з яблык выйдзе дзіцяці толькі на карысць.

Вітаміны А і Д, якіх няма ў соках, трэба даваць у выглядзе рыбінага тлушчу — «трану» альбо фабрычных кропель вітамінаў А + Д. Даюць гэтыя вітаміны таксама пачаўшы ад трэцяга тыдня жыцця дзіцяці. Колькасць іх, аднак, і форму стасавання павінен абавязкова акрэсліць лекар, які ўпісвае гэтыя даныя ў Кніжачку здароўя дзіцяці.

Пачаўшы ад чацвёртага месяца жыцця пачынаем даваць дзіцяці супік з гародніны. Супік гэты вітамінаў не мае. Знаходзяцца ў ім затое ўсе іншыя рэчывы (вапна, жалеза і т. д.), неабходныя дзеля здаровага развіцця нашай пацехі.

**Супік** гэтакі — гэта, проста, дакладна працёртая праз сітка разварaная розная гародніна (морква, бульба, буракі, пятрушка), пачаткова толькі пасоленая для смаку, а праз пару дзён яе стасавання — прыпраўленая крышкай масла. Супік з гародніны так, як і кожную новую для дзіцяці страву, даем памаленьку, пачынаючы ад паловы кухоннай лыжкі ў дзень. Колькасць супіку штодня збольшваем і, урэшце, замяняем ім адно кармленне грудзьмі ці штучнай мешанкай.

Пачаўшы ад пятага месяца жыцця дзіцяці можна гэтакі супік гатаваць на худым мясе. У тым жа часе можна пачынаць даваць дзіцяці яечны жаўток і добра змолатае машынкаю гатаванае худое мяса.

**Адлучэнне дзіцяці ад грудзей.** Толькі грудзьмі кормяць дзіця да трэцяга месяца. У чацвёртым месяцы замест толькі аднаго кармлення грудзьмі, пачынаем даваць дзіцяці супік з гародніны. У пятым месяцы другое кармленне грудзьмі замяняем безмалочнаю стравою, напрыклад, кашкаю з маслам і тваражком (свежым!). Пасля ўжо кожныя два месяцы, замест аднаго кармлення грудзьмі пачынаем даваць дзіцяці малочную мешанку «III» (такую, як пры кармленні штучным). У 10—11 месяцы жыцця дзіця павінна адзвычаіцца ад грудзей.

## Апека

Нярэдка можна пабачыць наступны абразок:

Вясна. Маладзенькая, коратка пастрыжаная мамачка, бліскаючы не заўсёды зграбнымі голымі каленкамі з-пад «міні - спаднічкі, падстаўляючы пад сонечныя прамені агаленыя плечы, голыя рукі ды і нямалы кавалак пухлай мацярынскай грудкі, прэ перад сабою возік з дзіцянём. На цэлае яе адзенне спатрэбілася не больш, чым паўтара метра матэрыялу ды і то яшчэ, пэўна, рэшткі на купальны касцюм засталіся.

Дзіця, тымчасам, ахутана з усіх бакоў. Чаго на ім толькі няма: і пялюшачка звычайная, і пялюшачка байкавая, кофта, кофтачкі, станічкі нейкія, райстопы і свэтрык, або і два свэтрыкі. А, часамі, яшчэ і камбінезончык цёплы паверх усяго гэтага. А шапачак та, прынамсі, дзве. І не толькі маладыя мацяркі так робяць, але і тыя паважнейшыя, якія ўжо за модаю не ганяюцца.

Людзі добрыя! Пашкадуйце дзяцей сваіх!! **Задумайцеся крыху над тым, як бы вы сябе адчувалі ў цёплы веснавы дзень, напяліўшы на сябе гэтакую горбу адзення!** Дзіця таксама дыхаць хоча. Яму таксама загорача! Яно толькі не ўмее гэтага вам, дарослым, вытлумачыць. Акрамя таго, яно мае вельмі далікатную і іначай, чым у дарослых пабудаваную скуру, вельмі ўражлівую на пераграванне. Вось таму і трэба звяртаць увагу на наступныя справы:

1. Пакой, у якім знаходзіцца дзіця, павінен быць заўсёды добра выветраным.

2. Пачаўшы ад трэцяга тыдня жыцця дзіця павінна быць штодзень, прынамсі, гадзіну часу на дварэ.

3. Купаць можна і трэба нават хворае дзіця — **хутка і ў цёплым пакоі.** Затым, пры кожнай перамене пялюшак згібы на далікатнай скурцы маленства пудраваць дзіцячым пудрам.

4. У ніякім выпадку дзіця не павінна спаць на пярынцы ці падушках — **мяккая подсцілка спрыяе скрыўленню названочніка.**

5. Нельга часта браць дзіцяці на рукі або садзіць, абкладаючы падушкамі — гэта таксама скрыўляе пазваночнік. Яно самое, калі зможа, сядзе.

6. Не «закручвайце» дзіцяці бы галушку — яно павінна мець магчымасць вучыцца валодаць сваім целам.

## Прывіўкі

Усе бацькі сёння ўжо менш - больш прывыклі да таго, што іх дзецям, пачаўшы амаль ад першых дзён жыцця, робяць прывіўкі. Не ўсе, аднак, разумеюць вялізнае значэнне прывівак — што горш, часамі нат' унікаюць іх.

Усе, здаецца, ведаюць, што гэтакія страшныя хваробы, як восна, дыфтэрыт, стаўбняк, дзіцячы параліч ці брушны тыф — якраз дзякуючы гэтым прывіўкам сёння **амаль не спатыкаюцца.** А, калі і бываюць, то ў шмат лягчэйшай форме. Рэдка калі сустракаецца коклюш. Людзі настолькі перасталі баяцца гэтых хваробаў, што іх адсутнасць ужо проста не вяжацца ім з прывіўкамі, з неабходнасцю стасавання прывівак. Вялікую ролю адыгрывае і тое, што пасля некаторых прывівак дзіця т э м п е р а т у р ы ц ь, можа мець часамі вялікую нават ранку на плячы (пасля воспы) — наогул, пару дзён дрэнна чуецца.

Дзе-якія мамы, проста, дрыжаць пры адной думцы, што іх маленькае дзіцятка будуць пароць голкаю — хоць далёка не пры ўсіх прывіўках поруць.

Бываюць таксама бацькі лёгкадумныя, ці, лепш сказаць, нядбайныя — якія проста «не маюць часу» прынесці дзіця ці прывезці яго на прывіўку.

Калі б хто гэтакім бацькам сказаў, што яны «праступнікі» то яны моцна абразіліся б. Але як жа ж назваць таго, хто ўласнае дзіця выстаўляе на пагрозу небяспечнай хваробы, на калецтва або і смерць!?

Каб гэтага не было, трэба ведаць, калі менш-больш і, якія прывіўкі робіцца?

## Дарослы і малы

— Дзядзьку, дай мне закурыць!

— Ну, і вучаць вас у школе. Гаворыцца: «дайце», а не «дай».

| Узрост дзіцяці | Прывіўка | Заўвагі |
|---|---|---|
| 4—15 дзён | туберкулёз («грузьліца») | Прывіўку гэту робяць адразу у бальніцы альбо ў радзільным доме. |
| 3-ці месяц | дыфтэрыт + стаўбняк + + коклюш (błonica + + tężec + krztusiec = = di — per — te) | |
| 4-ты месяц | дыфтэрыт + стаўбняк + + коклюш (błonica + + tężec + krztusiec = = di — per — te) | |
| 5-ты месяц | дыфтэрыт + стаўбняк + + коклюш (błonica + + tężec + krztusiec = = di — per — te) | |
| 6—7 месяцы | воспа (ospa) | |
| 8-мы месяц | дзіцячы параліч (chor. Heinego Medina) | |
| 9-ты месяц | дзіцячы параліч (chor. Heinego Medina) | |
| 10—12 месяцаў | туберкулёз (gruźlica) | спачатку робіцца спробу, ці дзіця мае, так званы, імунітэт супроць туберкулёзу. Калі не мае, тады робіцца прывіўку. |
| 1,5—2 гады | дыфтэрыт + стаўбняк + + коклюш (błonica + + tężec + krztusiec = = di — per — te) | |
| 2-гі год | туберкулёз (gruźlica) | спачатку робіцца спробу, ці дзіця мае, так званы, імунітэт супроць туберкулёзу. Калі не мае, тады робіцца прывіўку. |
| 5-ты год | брушны тыф і паратыфы (dur brzuszny i paradury) | |
| 6-ты год | брушны тыф і паратыфы | |
| 7-ы год | воспа | |
| 7 год | дыфтэрыт + стаўбняк (błonica + tężec = = di — te) | |
| 7-мы год | туберкулёз | спачатку робіцца спробу, ці дзіця мае, так званы, імунітэт супроць туберкулёзу. Калі не мае, тады робіцца прывіўку. |





Перад кожнаю чарговаю прывіўкаю бацькі атрымоўваюць паведамленне, у які дзень дзіця павінна з'явіцца ў прывівачным пункце.

1. Пры прывіўцы трэба прад'явіць Кніжачку здароўя дзіцяці, у якую кожная прывіўка мусіць быць упісана.

2. Перад кожнаю прывіўкаю варта пры аказіі пайсці з дзіцём да лекара, «паказаць дзіця» лекару.

Вядома, што не ўсе прывіўкі адбываюцца паводле выпісанага мною календара. **Гэта арыентацыйны каляндар.** Часамі дзіця хварэе і тады чарговую прывіўку трэба адкласці на пазнейшы час. Тым самым адкладваюцца і наступныя прывіўкі. (Гэта большага значэння не мае).

**Памятайце пра прывіўкі,** каб выпадкова не знайсціся ў ліку тых бацькоў, якія мусяць самыя сябе вінаваціць за хваробу, калецтва ці нават смерць свайго дзіцяці.

## Візіты ў лекара

Хочучы, каб дзіця добра развівалася і расло здаровым, трэба трымацца наступных правілаў:

1. Здаровае дзіця да 1 году жыцця трэба абавязкова,

прынамсі, адзін раз у месяц паказаць лекару. Можна гэта рабіць тады, калі дзіця прыносім да прывіўкі.

2. Калі падазраем, што грудное дзіця захварэла, трэба яго абавязкова паказаць лекару. **Лепш занесці дзіця да лекара пару разоў непатрэбна, чым раз запозна.**

3. Прыпісаныя лякарствы трэба даваць дзіцяці дакладна так, як наказаў лекар.

4. Лякарствы трэба даваць усе да канца, нягледзячы на тое, што дзіця папраўлялася. Нельга пакідаць лякарстваў на пасля. Лекар ведае, колькі прыпісвае лекаў і ніколі іх не прыпіша замнога.

5. У ніякім выпадку нельга даваць дзіцяці ніякіх лякарстваў без парады лекара.

**Не ляну́йцеся схадзіць з дзіцём да лекара. Кожнае дзіця мае права да бясплатнай лекарскай парады.** У выпадку патрэбы, клічце лекара да хаты.

## Найчасцей сустракаемыя дзіцячыя хваробы і іх прафілактыка

1. **Нястраўнасць, панос.** Хваробаю гэтаю хварэюць, пераважна, дзеці груднога ўзросту. Праяўляецца яна ў тым, што ў дзіцяці вельмі частыя надворкі. Надворкі рэдкія, часта, вадзяністыя, жоўтага колеру, іншы раз — зялёнага. Часамі дзіця ванітуе. Можа тэмпературыць.

Прычыны: у дзяцей, кормленых грудзьмі, найчасцейшай прычынаю бывае іх перакормліванне — альбо недакормліванне. Прычынаю бывае брак гігіены з боку маткі. Грудныя бародаўкі перад кожным кармленнем трэба абавязкова абмываць 2-працэнтавым растворам борнага квасу.

Дзеці, кормленыя штучна, найчасцей хварэюць з прычыны неадпаведна або брудна прыгатоўленых мешанак.

Што рабіць? З дзіцём трэба як найхутчэй ісці да лекара. Хвароба гэта вельмі вынішчае дзіця, хутка аслабляе яго.

2. **Грыбок на языку** («плесняўкі»). Бывае, што дзіця раптам пачынае капрызіць. Тэмпературы не мае. Усё здаецца ў парадку. А яно плача і плача, не хоча есці. Маці яму і адну, і другую грудзіну ў роцік садзіць, бабуля нагрэтую на пячы пялюшку да пупіка прыкладвае (а мо гэта жывоцік баліць?), дзядуля з калатушачкаю ў руцэ навокал калыскі бегае, песенькі спявае, а дзіця плача і плача. Бацька бедны па хаце круціцца — не ведае, ці вушы затыкаць, ці па «карэтку» бегчы?

А, возьмем, заглянем у роцік дзіцяці. Часта ў такіх выпадках пабачым, што язычок у яго белы-белы, быццам бы марозікам ці смятанаю памазаны злёгку. Што гэта такое?

Так выглядае грыбок з гатунку Манілія альбіканс, які разросся ў дзіцячым роціку. Ён можа паяўляцца ўжо ў першых днях жыцця дзіцяці — магчымае заражэнне грыбком яшчэ падчас родаў. Грыбок гэты часта знаходзіцца на палавых органах жанчыны.

Найчасцей, аднак, яго паяўленню спрыяюць недастатковая чысціня, неправідловае кармленне, а часамі празмеру доўгае стасаванне антыбіётыкаў.

А чаго ж дзіця плача?

А яно, проста, галоднае. Яно ела б, каб не тое, што язычок з грыбком робіцца балючы і цяжка ссаць. Што ж тут рабіць. Як ратаваць? Трэба пару разоў у дзень мазаць дзіцяці язычок вадкасцю «Aphtin», якую прадаюць у аптэках без рэцэпты. Яшчэ лепей шмараваць язычок двухпрацэнтавым растворам, так званага, фіялету гарычкі. Трэба дадаць таксама вітаміны B і C. Абавязкова, аднак, **трэба на другі дзень выбрацца з дзіцём да лекара.** Хваробы бываюць розныя і іх вельмі шмат.

А, мо гэта не грыбок? **Дбайных бацькоў і іх дзяцей кожны лекар прымае з задавальненнем.**

## Рахіт

Нягледзячы на тое, што рахіт з'яўляецца хваробаю цэлага арганізму, з яго прызнакаў найбольш кідаюцца ў вочы перамены ў касцях. Такія, як:

1. ногі ў выглядзе літары X або O,
2. празмерна выдатныя лабавыя і цемянёвыя гузы,
3. размяканне некаторых касцей — асабліва, патыліцы.

Ёсць, зразумела, шмат іншых прызнакаў гэтае хваробы — важных, аднак, толькі лекару.

Маці, пераважна, заўважае ўсяго тое, што дзіця зрабілася неспакойным і моцна пацее. Сігналам небяспекі лекару ж можа з'яўляцца сцверджанне запозненага развіцця дзіцяці.

Таму трэба памятаць, што больш-менш:

а) трохмесячнае дзіця павінна падымаць галоўку, лежачы на жывоціку,

б) чатырохмесячнае дзіця павінна падымаць галоўку, лежачы на спіне (на плячах),

в) шасцімесячнае дзіця павінна самое, без нічыёй дапамогі, сядзець. У той жа час павінны пачынаць прарэзвацца зубкі.

Прызнакам з'яўлення хваробы можа быць таксама ненармальная вага або ўзрост.

П р ы ч ы н ы.

а) Недахоп у страве дастатковай колькасці вапны і фосфару. Увага! Паколькі ў прысвойнасці гэтых рэчываў арганізмам прымае непасрэдны ўдзел вітамін Д, недахоп гэтага вітаміну таксама раўназначны з недахопам вапны і фосфару.

б) Кепская прысвойнасць вапны і фосфару ў страўніку дзіцяці. Прычынаю гэтага можа быць панос або празмерная колькасць каровінага малака ў страве дзіцяці.

в) Недахоп поўнавартаснага бялка ў страве дзіцяці.

г) Недахоп вітаміну С (Ц).

д) Спрыяюць паяўленню рахіту суіснуючыя хранічныя хваробы.

П р а ф і л а к т ы к а.

Нікому, здаецца, не трэба тлумачыць, што замест лячыць нейкую хваробу, шмат лепш яе высцерагацца, папярэджваць. Ёсць народная пагаворка: «Калі б ведаў, што ўпадзеш, то сеў бы». Спадзяваючыся толькі на ласку лёсу, тут сапраўды можна сесці, але ў лужу, г. зн. давесці дзіця да рахіту.

Свядомая маці «касмічнае эры» дваццатага стагоддзя павінна ў гэтым выпадку ўжо не «сядаць», а бьццам бы той «спутнік», лёгка прызямляцца.

Чаму?

А, хоць бы таму, што дзякуючы шырока распаўсюджанай папулярнай медычнай асвеце яна павінна ведаць і ведае, калі і дзе можна «ўпасці». Яна ведае, што каб усцерагчы дзіця ад рахіту, трэба:

1. Часта выносіць дзіця на свежае паветра, на панадворак хаця.

2. Не адзяваць дзіцяці зацёпла, не пераграваць яго, — не адзяваць бы цыбулю.

3. Карміць дзіця паводле правілаў, а не так, як бабуля нараіць.

4. Даваць дзіцяці вітамін Д у такой колькасці, якую прыпісаў лекар.

5. Прынамсі адзін раз у месяц схадзіць з грудным дзіцём да лекара, «паказаць» дзіця лекару.

**Матанькі, памятайце,** што дзеткі неданошаныя, значыць, тыя, якія зарана нарадзіліся, дзеткі слабаватыя і блізнюкі — **часцей,** чым іншыя дзеткі хварэюць рахітам. Яны патрабуюць большай, чым нармальна, апекі.





Гэта адна з найбольш страшных дзіцячых хваробаў, хаця яе пачатак нягрозны.

**Прычыны раматусу.** Хутчэй за ўсё выклікаюць гэту хваробу бактэрыі з вялікай сям'і стрэптакокаў. Словам, гэтыя самыя бактэрыі, якія з'яўляюцца прычынаю надта папулярнай хваробы горла — ангіны. Пакуль што, аднак, механізм узнікання рэўматычнай хваробы дакладна невядомы.

П р ы к м е т ы раматусу. Пачынаецца хвароба гэта заражэннем стрэптакокамі горла ці горлава-носавай поласці. Коратка гаворачы, пачынаецца яна ад ангіну (ангіны). Цераз пару дзён горла перастае балець (асабліва, калі дзіця прымала якія-такія лякарствы). Больш-менш праз ч а т ы р ы тыдні, падчас якіх дзіця чуецца добра і бацькі паспяваюць забыцца пра тое, што дзіця хварэла — распачынаецца другая стадыя хваробы рэўматычнай, больш грозная стадыя. Тады якраз і паяўляецца запаленне суставаў — хоць яго можа і не быць, альбо яго незаўважаюць. Баляць, найчасцей, калені, косткі — штораз та іншы сустаў. Часамі суставы напухаюць, робяцца гарачымі. У той самы час хвароба, пераважна, атакуе і сэрца. Рэўматычнае запаленне сэрцавага мускула, клапанаў сэрца ці нават цэлага сэрца — вось што з'яўляецца найбольшай пагрозай. Болі суставаў мінаюць. У сэрцы, аднак, застаюцца сляды на ўсё жыццё, — найчасцей, няпоўная здольнасць таго ці іншага клапана сэрца. Рэўматычная хвароба, як кажуць, **«ліжа суставы, а кусае сэрца».**

Чалавек з такім «пакусаным» сэрцам — гэта інвалід. Часамі ў дзіцячым узросце гэта не так заўважальнае. На працягу гадоў, аднак, ўсё становіцца яўным. Такі чалавек не можа цяжка працаваць, хутка стамляецца ён — часта хварэе. Смяротнай небяспекай яму з'яўляецца паўторнае запаленне сэрца ды і кожная цяжэйшая хвароба, а часамі нават звычайная прастуда.

Нягледзячы на тое, што хваробу гэту часамі называюць «рамантызмам» — канец яе, пераважна, трагічны.

П р а ф і л а к т ы к а.

1. Бацькі не павінны трактаваць лёгкадумна ангіну і іншыя хваробы горла, якімі часта хварэюць дзеці. Пры кожнай хваробе горла, дзіця трэба паказаць лекару, які ўстановіць патрэбнае лячэнне. Той, хто недакладна стасуецца да наказаў лекара — асабліва, што да колькасці і часу ўжы-

вання лекаў — прычыняецца да таго, што ангіна паўтараецца. Частыя ангіны — шмат больш магчымасцяў захварэння на рэўматычную хваробу.

2. Калі дзіця пачынае скардзіцца на якія-кольвек болі ў суставах, трэба яго як мага хутчэй завясці да лекара.

3. У выпадку, калі дзіця захварэе рэўматычнай хваробаю — трэба яго абавязкова лячыць у бальніцы. Толькі своечасовае бальнічнае лячэнне дае магчымасць палепшыць здароўе дзіцяці. Бальнічнае лячэнне павінна працягнуцца **не менш, чым 6 тыдняў.**

4. Пасля бальнічнага лячэння дзіця павінна на працягу некалькіх год знаходзіцца пад апекаю (наглядам), гэтак званай **Парадні рэўматалагічнай,** і ўвес гэты час дзіця павінна прымаць прыпісваемыя яму лякарствы.

Трэба ведаць, што хвароба гэта пачынаецца, пераважна, паміж 4-ым і 10-ым годам жыцця дзіцяці. У малодшых дзяцей яна бывае вельмі рэдка.

## Заразная жаўтуха

Заразная жаўтуха — добра вядомая хвароба, якая, нажаль, яшчэ досыць часта паяўляецца. Усе, пэўна, чулі таксама і аб тым, што лячыць яе можна (і абавязкова трэба), толькі ў бальніцы, у спецыяльнай бальніцы, у якой лечаць заразныя хваробы. Неабходна памятаць, што захварэўшае на гэту хваробу дзіця нельга везці ў бальніцу ні аўтобусам, ні цягнікам. Трэба выклікаць **«карэтку» хуткай дапамогі для хворых на заразныя хваробы.**

І для дзяцей, і для дарослых, хворых заразнаю хваробаю, перавоз карэткаю і бальнічнае лячэнне бясплатнае.

Бацькам найважнейшае павінна быць тое, каб ведаць, як апекавацца дзіцём, што пасля бальнічнага лячэння вярнулася дамоў.

Вось кароткія правілы:

1.Дзіця не павінна перамагацца,

а) звольніць яго ад абавязку гімнастыкі ў школе,

б) у ніякім выпадку нельга дазваляць яму ездзіць на «ровары», многа хадзіць, або бегаць — калі далёка да школы, трэба падвозіць дзіця да школы.

2. Як і чым карміць дзіця першыя 3—4 месяцы пасля заразнай жаўтухі?



Дзіцяці забаронены:
— усялякія смажаніны,
— стравы, прыпраўленыя воцатам, перцам і іншымі прыправамі,
— тлустае мяса, грыбы,
— грушы, слівы,
— капуста, цыбуля,
— стравы з фасоляю, ці гарохам,
— алкаголь, нават, піва,
— шакалад,
— арэхі, «семячкі» гарбуза,
— торты, крэмы,
— усялякія іншыя стравы, да якіх мы дадалі тлушчу.

Што ж тады гатаваць? — здзівіцца маці. А вось, напрыклад:

**СНЕДАННЕ.** Малочная страва, булачка з варэннем, збожжавая кава на малацэ.

**Другое снеданне.** Булачка або хлеб (не можа быць свежы) з свежым маслам, тваражок, малако, будынь, кісель, садавіна (апрача груш і сліў).

**АБЕД.** Страва з садавіны (без смятаны), малочная страва, навары з худога цялячага мяса або курынага мяса. Макароны з сырам. Налеснікі з тварагом альбо худым, перагатаваным, валовым мясам. Худая гатаваная рыба без касцей. Кавалачак худой шынкі. Кампоты, садавіна, морква, бурачкі, бульба.

**АДВЯЧОРАК.** Булка альбо хлеб з мёдам, чай з малаком.

**ВЯЧЭРА.** Малочная страва альбо яйка (рэдкае), яечня — прыгатоўленая на пары, не на агні (не смажаная). Бульба з кіслым малаком.

Перад ядою і пасля яды дзіця павінна мінут дваццаць адпачыць, паляжаць.

3. Кожныя два-тры тыдні дзіця трэба вясці да лекара для агляду. Робім так праз 3—4 месяцы.

Дакладна прытрымліваючыся гэтых няхітрых правілаў можаце быць пэўнымі, што заразная жаўтуха прападзе ў дзіцячым арганізме зусім бясследна. Трэба ведаць, што жаўтуха атакуе адзін з найважнейшых органаў — пячонку.

**Як апекавацца дзяцьмі,** якія — як гаворыцца — **«ловяць рыбу ў ложку»** (мочацца). Неразумныя бацькі енчаць, вызываючы дзіця ад сікуноў, маўляў — «восем лет мае каніска, а яшчэ ў пасцель дуе... Устыд! Вось раскажам дзецям суседа, хай пасмяюцца»...

Гэтым мы моцна крыўдзім дзіця.

Трэба, перад усім, зразумець, што дзіця, якое мочыцца ў ложка — гэта хворае дзіця. А хваробу трэба лячыць.

Прычыны могуць быць розныя.

1. Расшчапленне пазваночніка — якое з'яўляецца справай уроджанай.
2. Хвароба нырак і мачавога пузыра.
3. Вялікая нервовасць дзіцяці.

**Што рабіць?** Перад усім, завесці дзіця да лекара, які або сам вызначыць лячэнне, або накіруе дзіця да спецыяліста.

Важнай справай з'яўляецца ўрэгуляванне дзіцячага дня. Дзіця павінна штодзень ісці спаць і ўставаць **у адну і тую самую гадзіну,** рабіць гімнастыку, дакладна мыцца. Снеданні, абеды і вячэры павінны **адбывацца таксама ў адзін і той жа час.** Вячэраць дзіця павінна не пазней, чым а шостай гадзіне вечара, і ў ніякім выпадку **нельга яму піць перад сном.** Пасля вячэры павінна яно дакладна памыцца і найпазней а восьмай гадзіне вечара ўжо кладавіцца спаць.

Дзіцяці патрэбна вытлумачыць, што мочыцца яно таму, што хворае. Нельга з дзіцяці смяяцца.

**Калі падыдзем са зразуменнем да дзіцяці,** то пры дапамозе лекара **і пры цярплівай апецы цэлымі месяцамі** — можна вылечыць дзіця.

### Заключэнне

Удумлівы Чытач напэўна заўважыў, што многія хваробы ў дарослых людзей **маюць свой пачатак яшчэ ў дзяцінстве.** Таму трэба з усіх сіл клапаціцца нам аб здароўе дзіцяці.

Трэба хутка зварочвацца да лекара — і час ужо перастаць рабіць розныя (небяспечныя) хатнія практыкі.

Лек. мед. **Юры ГЕНІЮШ**

«Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек перад скананнем, катораму мову займае, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерці!»

**Францішак Багушэвіч**
беларускі пісьменнік XIX ст.





# НОВЫ СЯМЕЙНЫ КОДЭКС

Новы сямейны кодэкс не ставіць сабе задачы рэгуляваць нармальныя адносіны ў сям'і. Добрай сям'і непатрэбныя ніякія кодэксы. Але такі кодэкс моцна патрэбны ў выпадках, калі сям'я развальваецца або развалілася, далікатней кажучы, распалася.

Вось некаторыя важнейшыя пастановы гэтага новага сямейнага кодэкса.

Мужчына, каб ажаніцца, павінен мець закончаных 21 год. Жанчына — 18 год. Па важных прычынах толькі суд можа дазволіць мужчыне ажаніцца ў 18 год, а жанчыне — ў 16 год.

На месяц перад шлюбам жаніх і нявеста абавязаны скласці ў кіраўніка УСЦ патрэбныя дакументы, як: копія метрыкі, пацвярджэнне адрасу, а таксама пісьмовае запэўненне, што не ўтойваюць яны нічога такога з-за чаго шлюб мог бы быць немагчымым. Маецца тут на ўвазе, ці будучы муж і жонка не з'яўляюцца блізкімі сваякамі ў простай лініі, ці адно з іх не хворае псіхічна, ці на кагосьці з іх не робяць націску асобы трэція або радня, урэшце, ці будучы муж і жонка не звязаны ўжо шлюбам з іншымі асобамі.

Шлюб адбываецца ў прысутнасці двух паўналетніх сведкаў.

Муж і жонка маюць роўныя правы і абавязкі. Абавязаны яны супольна жыць, узаемна дапамагаць сабе і **быць вернымі.** Маёмасць супольная.

Шмат сказана ў кодэксе аб разводзе. Развод можна даць толькі тады, калі сям'я зусім распалася. Але нават і тады развод недапушчальны, калі будуць цярпець на гэтым малыя дзеці. Суд можа не даць разводу таксама і з іншых прычын.

Даючы развод суд сцвярджае, хто з абодвух — муж ці жонка — вінаваты ў распадзе сям'і. Муж і жонка могуць прасіць суд, каб не займаўся выкрываннем віны. У залежнасці ад па-



трэбы суд можа прызнаць аліменты ад мужчыны для жанчыны і **наадварот.** Прызнанае права да аліментаў аўтаматычна прападзе, калі асоба, атрымоўваючая аліменты, другі раз ажэніцца ці выйдзе замуж. Дзіця, якое нарадзілася ў перыяд **трохсот** дзён ад дня разводу лічыцца шлюбным. Муж маткі дзіцяці, які не прызнаецца да яго, можа на працягу шасці месяцаў ад дня, у якім даведаўся аб нараджэнні дзіцяці, выступіць у суд аб запярэчанне бацькоўства. Тое самае можа зрабіць маці, якая не хоча, каб яго бацькам лічыўся яе былы муж. Тое самае можа зрабіць таксама і дзіця, калі вырасце на паўналетняга чалавека. Дзіця можа выступіць у суд з гэтай справай не пазней, чым на працягу **трох** год, лічачы ад часу яго паўналетнасці.

У выпадку, калі дзіця няшлюбнае, тады ўстанаўляецца дапушчэнне, што яго бацькам з'яўляецца той мужчына, які быў у інтымных сувязях з маткай дзіцяці **паміж трохсотным і сто восемдзесят першым днём** да нараджэння дзіцяці. У такіх выпадках суд устанаўлівае бацькоўства на падставе заявы маткі альбо дзіцяці. Матка не мае права гэтага рабіць, калі дзіця ўжо паўналетняе.



Большасць бацькоў прызнаецца да свайго дзіцяці. Дзіця носіць прозвішча бацькі. Аднак жа, у выпадках, калі бацькоўства ўстанаўлівае суд насуперак волі мужчыны, матка можа дамагчыся, каб дзіця мела яе прозвішча.

Столькі можна сказаць аб новым сямейным кодэксе. У гэтай агаворцы насветлена толькі некаторыя справы, якія тыповыя і для вясковага жыцця.

## АБ ВЫХАВАННІ ДЗЯЦЕЙ

Часта наракаем, што цяпер дзеці штораз горшыя. Не кожны ўсведамляе сабе факт, што выхаванне дзіцяці цяпер з'яўляецца значна цяжэйшай справай, чым было гэта за нашых бацькоў ці дзядоў. Развіццё навукі і тэхнікі, друку, тэлевізіі, кінематаграфіі спрыяе вельмі хуткаму пазнаванню дзіцём многіх спраў.

Дзіця трэба выхоўваць ад нараджэння. Перад усім, прызвычаіць яго да пунктуальнасці, карміць у адзін і той жа час, класці спаць у вызначаную гадзіну. Наколькі гэта магчыма, старацца не забаўляць дзіцяці, не насіць яго на руках. Гэтым мы адразу псуем дзіця.

Нельга палохаць усякімі цыганамі і ведзьмамі, камінарамі і дзядзькамі. За такія выхаваўчыя спосабы трэба па-просту караць бацькоў. Дзіця робіцца нервовае, напалоханае, неспакойна спіць.

Малое дзіця не трэба вучыць гаварыць, яно самое хутка навучыцца гаварыць, калі будзем з ім гаварыць выразна і «дарослаю» моваю. Гаварыць з дзіцём, так званаю, дзіцячаю мовою раўназначнае з запазненнем у развіцці дзіцяці. Матка, якая сюсюкае «халосенькі хлёпцік», «косацка мяў — мяў», «нозанькі клывенькія» — такая матчына гутарка робіць кепскую прыслугу дзіцяці. Яно не ведае, як добра гаварыць.

І яшчэ адна надта важная справа: не ашукоўваць дзіцяці! Няспоўненая абяцанка з цукеркамі і іншыя дробныя ашуканствы вучаць дзіця недаверу да бацькоў і людзей. З часам гэты недавер яшчэ больш павялічваецца.

Трохгадовае дзіця ўжо ведае сваё «я», пачынае яно «кідацца» і крычаць. Бацькі павінны вясці сябе ўраўнаважана, не кідацца на дзіця, і не біць яго, каб потым шкадаваць яго і песціць — і потым зноў біць... Такая няўраўнаважанасць бацькоў моцна скрыўляе характар дзіцяці. Дзіця, не прывучанае змоладу шанаваць дарослых, потым ужо не навучыцца шанаваць іх.

Дзіця павінна мець свае абавязкі, напрыклад, замятанне хаты, падліванне кветак. Прытым, нельга ўводзіць падзелу на «бабскія» работы і «мужчынскія». Так выхоўваныя хлопчыкі вырастаюць на вельмі кепскіх мужоў.

Дзіця, якое дарастае ўжо да школьнага веку, не можна вучыць чытання і рахункаў. Калі такое дзіцё пойдзе ў першы клас, яно больш ведае чым трэба, навука ў школе хутка брыдне яму і яно пачынае гультаіць. Прывычка гультайства настолькі моцная, што пасля цяжка яе выкараніць.

Замест вучыць яшчэ шасцігадовае дзіця ўжо рахункаў і чытання, як гэта часта робяць некаторыя хуткія мацяркі, ляпей прывучыць дзіця да таго, каб яно самое мыла рукі, ногі, зубы — каб прывыкала насіць хустачку да носа і слаць сваю маленькую пасцель.

Вельмі важна, каб дзеці, якія ўжо вучацца ў школе, мелі свой уласны кут у хаце. Ці памагаць дзіцяці ў лекцыях? Трэба памагаць але не так, каб выглядала, што гэта маці вучыцца, а не дзіця. Не можна за дзіця рашаць задач, рысаваць заданыя малюнкі і г. д. Важна тут кантраляваць дзіця, ці яно адрабіла ўрокі і як адрабіла іх? Штодзённая кантроля проста неабходная.

Але дзіця расце і павялічваюцца яго віны. Трэба караць дзіця, але як? Катаванне дзіцяці рамянём ці паленам — гэта ганебнае, асмяшаючае годнасць дзіцяці і нявыхаваўчае. Катаванне дзіцяці нішчыць у ім амбіцыі. Чалавек, які вырастае без амбіцый, нічога не дасягне ў жыцці. Нярэдка застаецца хуліганам. Разумныя бацькі даюць дзіцяці такія кары, каб не заламаць яго і не панізіць яго.

Празмерная любоў да дзіцяці не менш шкодная. Дзіця павінна спратаць па сабе, прышыць адарваны гузік. Гаварыць пры дзіцяці другім асобам, гасцям аб тым, якое то наша дзіця разумнае і прыгожае можа скончыцца так, што замест разумнага вырасце на дурня. У найлепшым выпадку зразумее, што яно «мандрэйшае ад самога вучыцеля». Словам, бяда вісіць на валаску.

Даспяванне дзіцяці адбываецца паміж 12 і 16 годам яго жыцця. У гэтакім веку дзеці цераз меру нервовыя і **падатлівыя на хваробы.** У гэтым веку асабліва цяжка захаваць давер у дзіцяці і трэба рабіць усё магчымае, каб яно верыла бацькам і было шчырае ў размове. Дзіця, якое адарвалася ад бацькоў у гэтым веку, перастала верыць ім, ужо ніколі не будзе шчырым з імі.

Разам з тым дарастаючае дзіця нельга выхоўваць у пачуцці бяскарнасці і некантраляванай вольнасці. Гэта няпраўда, што малады хлапец «вышуміцца і перастане». Ён ужо будзе шумець. Гэта няпраўда, што маладая дзяўчына «вырасце з таго і абціхне». Яна ўжо не абціхне. Ой, не. Дарастаючае дзіця трэба трактаваць з сардэчнай цяплынёю, са зразуменнем, але адначасова і з выразна акрэсленымі патрабаваннямі да яго — **гэта можна, а гэтага не можна**! Цераразмерная воля шкодная, але не менш шкодная і цераразмерная дысцыпліна, калі ўсяго не можна! Гэта нараджае ў дзіцяці запечаны бунт, або проста звярыны страх перад бацькамі.



**Біццё дзяцей** усё яшчэ папулярнае і таму варта прысвяціць пару слоў гісторыі біцця дзяцей. У першабытных плямёнаў не наглядаецца гэтага дзікага звычаю біць дзеці ці дзіця. **«Дзіця плача, сорам бацькам»** — гаворыць негрыцянская прымаўка. Дзяцей пачалі біць разам з паяўленнем школаў. У старажытнарымскіх школах ужо білі дзяцей. Але гэтае стара-

жытнае біццё выглядала яшчэ як казытка ў параўнанні з тым, што пачало выраблящца ў школах нашай эры, асабліва, у сярэдневякоўі — білі ў школах, судах, кляштарах; няверных жонак і тых, што замала маліліся. У школах быў звычай біць вучняў адзін дзень у тыдні — у пятніцу. На ўсякі выпадак. Вынікі былі такія, што многія дзеці заставаліся калекамі або даставалі нервовых хвароб. Спосабы біцця: розгамі да жывога мяса або нагамі, дзе папала, або падымалася дзіця ўгору за валасы і вушы, або білася яго ключамі па твары, або тоўстаю кніжкаю па галаве. Назва вакацый выводзіцца ад таго, што ў сярэдневяковай школе адзін дзень у год дзеці з настаўнікамі ішлі ў лес, дзе збіралі розгі, якімі секлася іх пасля цэлы год.

У сярэдневякоўі мелі месца трагічныя бунты дзяцей і дзіцячыя крыжовыя паходы. Кіраўніком аднаго з такіх паходаў, напрыклад, быў дзесяцігадовы хлопчык Мікалай з Фландрыі. Свае дзіцячыя дружыны павёў ён цераз горад Кёльн на Цурых і Фларэнцыю да італьянскага порта Брындзісі. Там селі на караблі і даплылі да Александрыі ў Егіпце, дзе захапілі іх гандляры нявольнікамі.

У 1458 годзе ў Саксоніі дзеці масава ўцякалі са школаў, фармаваліся ў паходныя дружыны пад рэлігійнымі сцягамі і ішлі «ў свет».

Гістарычныя даныя з XIII, XIV і XV ст. ст. сведчаць аб вялікім пашырэнні нервовых хвароб сярод дзяцей. У 1237 годзе сто дзяцей у Эрфурце, хворых эпілепсіяй, выйшла на дарогу да Арнештадт і ў дзікіх скоках гінулі.

Нажаль, імкненне гвалту мацнейшым слабейшага, якое так укаранілася ў сярэдневяковай Еўропе, засталося ў людзях па сённяшні дзень. Як не дзіўна нам гэта пачуць але, аказваецца, што, так званыя, дзікія народы значна лагаднейшыя і сардэчнейшыя ад нас.

## НАШЫ ШТОДЗЁННЫЯ ГЛУПСТВЫ

Гаворым пры дзецях тое, чаго не павінны яны слухаць — а мы гаворым. Пляткуем і абгаворваем суседзяў ад чаго дзіця наша хутка траціць пашану да дарослых людзей, бо ў канцы канцоў пачуе кепскае слова таксама і аб сваіх бацьках ад абгаворлівых суседзяў.

Бацька сварыцца з маткаю і дзіця пачынае верыць, што бацька «сякі - такі», а маці ўвогуле балота. Не разумеем, што дзіця надта моцна перажывае такія «навіны» — але толькі пры першых выпадках. Потым ужо не, потым ужо пачынае



**верыць.** Альбо заводзім размову аб настаўніцы ці настаўніку. І потым дзівуем, што цяперашнія дзеці не слухаюцца настаўнікаў і вырабляюць у школах чорт ведае што!

Мы не дурныя людзі, мы ведаем, аб чым можна гаварыць пры дзіцяці, а аб чым не можна. Ведаем — але не робім так.

Калі вучань павінен адрабляць лекцыі? Не адразу прыйшоўшы са школы, тады дзіця яшчэ змучанае. Трэба дазволіць яму на гадзіну пагуляць і потым «гнаць» да ўрокаў. Вучань I, II, III, IV класаў павінен адрабляць лекцыі не даўжэй, як каля паўгадзіны часу. Паўгадзіны даволі яму, каб мог адрабіць усё заданае ў школе. Пасля дзіця тупее і траціць здольнасць разумець.

Малых дзяцей адзяваем церазмеру цёпла, асабліва, узімку. Малое дзіця хутка пацее, награваецца і даволі крыху халоднага паветра як яно ўжо пачынае нам хварэць. Дзіця трэба адзяваць так, каб не было яму ні за холадна, ні за горача. Словам, у меру. Хваліцца тым, што дзіця наша носіць два світрыкі, гэта, далікатна кажучы, неразумна. І небяспечна маленькаму здароўю.

Кажуць: **«Мяне ломіць грыпа».** Гэта заразная хвароба і трэба ўнікаць хворых грыпам людзей. Калі ж гэта хвароба «завітае» і пад нашу страху, абавязкова трэба купіць у аптэцы вітамін Ц, які ўзмацняе арганізм і дапамагае яму бараніцца перад заразкамі грыпу. Добра есці шмат квашанай сырой капусты і цыбулі. Дасканала дапамагае часнок адно смярдзіць як няшчасце! Аднак варта згадзіцца на такія пахі. Здароўе перад усім!!!

Да найбольш папулярных глупстваў нашага штодзённага жыцця належаць сварьі. Асабліва, сварьі ў сям'і. Асноўнаю прычынаю свараў з'яўляецца тое, што хтосьці камусьці не хоча ў чымсьці ўступіць. Не тое, што не можа ўступіць, але проста не хоча! Таму пераважная большасць свараў малапаважная і часамі бывае так, што нават забываюць, чаго пасварыліся, аднак, сварацца далей. Сварка за сварку!

Хтосьці сказаў, што **ўмець жыць, гэта ўмець уступіць.** У гэтых словах уся мудрасць добрага і спакойнага сямейнага жыцця. Бо справа ў тым, што справы і інтарэсы кожнага члена сям'і — ці то сына, ці жонкі, — заўсёды будуць у пэўнай меры супярэчлівымі ці то ў гэтай, ці ў іншай справе, поглядзе. Каб добра разумець свае справы і інтарэсы трэба, перад усім, разумець справы і інтарэсы другіх асоб у сям'і. Без такога зразумлення не можа быць разумнай уступкі, без такога зразумлення ўступка будзе палахлівасцю. Калі ж толькі адзін разумее, а другі, «ні чутачкі» — таксама слабы будзе лад у





сям'і. Але камусьці другому трэба дапамагчы зразумець, дапамагчы далікатна, без надакучлівай «лапатні». Дапамагчы ў адпаведны момант. Урэшце - рэшт усе людзі родзяцца аднолькавымі, кепскімі робяцца яны пасля — у жыцці.

Пра тое, наколькі шкоднае і агіднае пляткарства, не трэба многа і тлумачыць. Цяпер нават старыя пляткаркі і пляткары не прызнаюцца да свайго пляткарскага фаху. Прычына пляткарства розная — хтосьці хоча паказацца лепшым ад кагосьці або даказаць камусьці, што ёсць яшчэ горшыя людзі. Людзі не хочуць бачыць сваіх кепскіх і брыдкіх учынкаў, лічаць, што яны робяць усё добра. Гэта сведчыць толькі аб труслівасці людзей. Адважны і старанлівы чалавек ніколі не пляткуе, ён не патрабуе бараніцца выдумкамі і тыцканнем пальцам у другіх людзей. І не будзе пераймацца плёткамі, бо той, хто пераймаецца і бярэ іх да сэрца, сам робіцца пляткаром, сам пачынае пляткаваць, агрызацца, значыць, бараніцца — значыць, пляткаваць. Так найчасцей бывае, хаця не заўсёды.



Ведай: той, хто пры табе абгаворвае другога, пры другім абгаворыць цябе.

(З думак Яські Апалоніка)



Не заўсёды ўмеем стасаваць адпаведныя п а р а ш к і пры мыцці бялізны (хусця). Да белай бялізны баваўнянай і са штучных матэрыялаў найлепш ужываць парашок «Пралюкс» і «Радыён - Экстра». Гэтыя парашкі прыдаюць снежна - белы колер бялізны. Да вырабаў з гэтакіх тканін, як стылён, тэрлён, капрон, тэрылён, эляна, аніляна найлепш падыходзяць парашкі «Ікci — 65» і «Ікcі — 66». Найлепшыя вынікі дае мыццё бялізны, калі ўжываем адны і **тыя самыя парашкі ўвесь час** — і дакладна стасуючы спосабы карыстання імі, што апісана на ўпакоўцы (на пудэлку).

Калі будзем рабіць іначай — раз так, раз гэтак, раз такім парашком, раз другім парашком — калі так будзем рабіць дык **нічога нам не ўдасца.** Парашкі невінаватыя.

**Як гаворым з людзьмі** — знаёмымі, сваякамі — з горада? Нават і ў галаву не прыходзіць нам, як гэта дзіўна мы гаворым! Здаецца нам, што ў горадзе ўсе знаюцца быццам у вёсцы. Тым часам у горадзе нярэдка сусед суседа не ведае. Прытым, спешлівасць гарадскога жыцця не дазваляе ўтрымоўваць частыя кантакты са знаёмымі ці нават сваякамі. У горадзе вельмі цяжка сваяцца, як кажуць пад Беластокам. Усе чымсьці заняты: то заробкамі па вечарах, то купляю, то прыбіраннем хаты і т. д.

Мы зусім **непатрэбна малпуем** усе звычкі гарадскіх людзей, сваіх сваякоў, якія гавораць па-польску і толькі па-польску. Гэта зусім не значыць, што яны так моцна любяць польскую мову, яны проста хочуць выглядаць «пад пана», хочуць быць лепшымі ад нас, багацейшымі ад нас, бо так павялося, што ўсе багатыя гавораць па-польску. Услед за тым ідзе няшчасная тэорыя аб «горшасці», «прасцяцкасці» нашай роднай мовы. І мы са сваёй беларускай моваю чуемся невядома па якой рацыі жабракамі, дурнямі і т. д.

З гэтай звычкай трэба змагацца, бо яна нялюдская, антычалавечая. Нягодная кожнага чалавека, які б ён не быў.

І яшчэ адна заўвага: не толькі вучоныя сцвердзілі, што людзі з горада, пераважна, крыху горш разбіраюцца ў палітыцы, чым вясковыя людзі. Вялікая канцэнтрацыя прапаганды ў горадзе не спрыяе развіццю самастойнай думкі. Многа спраў вёска разумее шмат лепш, чым горад. Таму не думайма, што горад усё ведае.

Асабліва непрыемна чуюцца ў вёсцы н а р а ч о н ы я з горада — калі дачка прывязе кавалера ці наадварот. Залішняя цікавасць людзей псуе настрой маладым, якія баяцца не столькі плётак аб сабе, колькі плётак аб бацьках, што ў вёсцы. Бывае, што залішняя цікавасць да маладых дае ім ахвоту «паказацца» і вясці сябе «супер - новочэсьне».

Трэба гамаваць сваю цікавасць так, як бы нічога не здарылася. Вельмі важна прытым, які настрой у хаце, куды прыехалі нарачоныя з горада. Розныя шэпты паміж старымі, розныя таямніцы вельмі не на месцы. Асоба з горада чуецца ў такіх выпадках надта дзіўна і нязручна. Далікатныя справы павінны быць абмеркаваны так, каб не заўважаў гэтага наш малады госць. За сямейным сталом трэба гаварыць ясна, без намёкаў, без прамоўчванняў, без моргання вачыма — так рабіць па-просту брыдка. Калі нам нават і не падабаецца госць нашай дачкі ці сына, нельга даваць адчуць гэта ў сваіх паводзінах, словах, учынках.

**Злуем на моду.** Не ведаем, што чым больш злуем на яе, тым мацней укараняецца яна. Мода, як кожная мода: прыходзіць і адыходзіць.

**Баімся грымотаў.** Зусім непатрэбна баімся, бо грыміць пасля бліскавіцы, а знішчэнні ад бліскавіц, не ад грымотаў. Найлепшае выйсце, гэта закласці громаадводы і ў гэтай справе можа памагчы ПЗУ (штрахоўшчыкі).

Х в а л ь б а. Хвалім бязмеры або ганім бязмеры. Няма ў нас меры. Хвалім не за тое, за што трэба — і ганім не за тое, за што трэба было б ганіць. Так найчасцей. Бывае нават, што ўсё жыццё толькі ганім кагосьці — дзіця або жонку — і гэта найгоршае жыццё.

Або с м у т н ы я людзі. Адкуль бяруцца смутныя людзі? Ад гора, бяды. Так. Але часамі зусім без прычыны. А трэба ведаць, што ўсмешка дадае нам больш год жыцця і змяншае лічбу ворагаў. За ўсмешку ваюе цяпер цэлы свет. А тыя, што ніколі не ўмеюць смяяцца, а толькі бурчаць, гэта хворыя людзі і павінны пайсці да лекара.

Яшчэ адно глупства, якое датычыць гаспадынь. Б у л ь б у не трэба гатаваць адразу — спачатку трэба заварыць ваду і потым кідаць у яе бульбу. Будзе смачнейшай і карыснейшай. Скробаную бульбу нельга доўга мачыць у вадзе, бо траціць яна смак і вартасць нашаму арганізму. А, калі разыходзіцца пра моркву, капусту і іншую гародніну дык найбольшая з яе карысць будзе тады, калі будзем есці яе с ы р о ю.

Аднак, мяса і саланіну нельга есці с ы р ы м. Той, хто есць, раней ці пазней будзе мець салітра. І тады, як кажуць людзі: **«Ён есць і яго есць».** Салітар высмоктвае сокі жыцця і даводзіць да хвароб. **Мяса і сала можна есці толькі** перагатаваным (сала **ператапіць).**

# ЗВЫЧАІ НОВЫЯ, НЕ НОВЫЯ

Звычаі паміж людзьмі павінны аблягчаць жыццё, рабіць яго больш прыемным. Нажаль, у нас яшчэ шмат фальшывай шляхецкай «хванабэрыі».

Стараемся быць ветлівымі і мілымі ў гасцях, а ў сваёй хаце зноў звярамі. Урэшце-рэшт не так часта пачуеш на вёсцы, каб муж падзякваў жонцы за абед. Здавалася б, нязначнае слова «дзякуй», «дзякую», а кожнаму прыемна яго пачуць. Што горш, кепскі прыклад бацькоў перадаецца дзецям ці бацькі таго хочуць, ці не.



Асноўным варункам ці знакам добрага выхавання, гэта **не перашкаджаць другім,** а наадварот — дапамагаць. Муж не павінен запрашаць гасцей без паразумлення з жонкай. І наадварот.

Нельга гаварыць голасна, калі хто спіць.

У час гасціны бывае так, што хтосьці не можа піць або не хоча. А мы проста сілаю ўліваем такому гарэлку ў горла. Гэта брыдка. Каб гасціна ўдалася трэба перадумаць, каго запрасіць. Перад усім, наколькі гэта магчымае, не трэба запрашаць разам такіх гасцей, якія не могуць цярпець адзін другога — пасвараныя або зню любленыя.

**Вялікае гэта хамства,** калі малады гаспадар дома адсылае сваю матку або бацьку ў кухню. — **Паешце сабе тату ў кухні.**

Гасцей павінен вітаць гаспадар хаты, гаспадыня можа прывітаць іх потым, у пакоі. Гаспадыня мае больш клопату пры гасціне, чым гаспадар. Гэтак сама і пры развітанні з гасцьмі. І яшчэ адно: надта прыкра глядзець, калі гаспадыня ўвесь час забеганая і не сядае да стала. Трэба так перадумаць арганізацыю гасціны, каб гаспадыня мела хоць крыху часу пасядзець разам з гасцьмі.

**Няпрошаныя госці.** Калі хочам каго наведаць, павінны спачатку паведаміць. Брыдка з'яўляцца «бы гром з яснага неба». Нечаканыя госці гэта вялікі клопат. Найляпей пачакаць запрашэння.

Вялікае свята таксама не ўпаўнаважвае да нечаканых гасцін. А мо' людзі, да якіх ідзем, хочуць адпачыць? І тут мы валімся, бы саранча.

Калі маем да кагосьці справу, заходзім на коратка і ў ніякім разе не маем права даць па сабе пазнаць, што хочам пачастунку, гасціны.

**Добрае адзенне** на гасціну, гэта найвідачнейшы знак, што мы шануем гаспадара. Ясна, што гаспадар хаты ведае вашы магчымасці што да добрага адзення. Павінна гэта быць адзенне найлепшае, якое маеце. А ўжо вельмі брыдка пляткаваць на гасціне.

**Ездзім у тэатр,** дзе без пардону гаворым паміж сабою ў час спектаклю, шапочам паперкамі ад цукерак. Паядаем цукеркі і «глядзім тэатр». Такое паяданне цукерак сведчыць аб нашай вялікай некультурнасці і браку пашаны да артыстаў і іх працы. Калі ўжо вельмі хочацца нам цукерак, то трэба есці іх у час перапынкаў. Калі праходзім да свайго крэсла, брыдка адварочвацца задам да людзей у гэтым радзе. Калі прапускаем жанчыну, **трэба ўстаць.**

У кавярні мужчына-хлопец абавязкова павінен пакінуць плашч у шатні, **жанчыны не маюць такога абавязку.** Сядаць толькі пры незанятых століках, падсядацца можна да іншых столікаў у выпадку, калі ёсць месца і адзінокая асоба пры ім **згодзіцца.** Брыдка вядзем сябе, калі сядзімо за сваім столікам ды разглядаемся навокал і абгаворваем другіх людзей у кавярні. Не можна клікаць кельнеркі, бразгічучы лыжачкай аб шклянку. Галосныя размовы, **крыкі і рогат да знаёмых дрэнна сведчыць аб культуры.**

**Запрашаючы жанчыну — дзяўчыну** на забаву трэба апекавацца ёю і ў выпадку патрэбы **бараніць яе годнасці і гонару.** Калі знаёмім яе з таварыствам абавязкова патрэбна **гаварыць імя і прозвішча.** Напрыклад, **«знаёмцеся, гэта мой калега, Саша Сцепанюк.** Не гаварыцца, «пазнайцеся — Сашка, Валька».

Запрошаная на забаву жанчына ці дзяўчына можа танцаваць і з іншымі асобамі, і брыдка гневацца на яе за гэта. Прытым, трэба дбаць, каб запрошаная дзяўчына не заставалася на забаве адна. Дзяўчына можа не захацець танцаваць з кім другім. Хлопец абавязаны праводзіць з забавы да хаты запрошаную дзяўчыну. Гэтаксама і дзяўчына павінна выйсці з забавы з тым, хто яе прывёў. Брыдка выходзіць з кім другім.

Той, хто запрашае дзяўчыну да танца павінен пасля танца правесці яе на месца і падзякваць.

Добрая і прыемная забава такая, дзе замнога не п'юць гарэлкі.

Сядзіць хлопец ці дзяўчына ў перапоўненым аўтобусе і не ўступіць месца старэйшай асобе. **Гэта ўжо зусім брыдка.**

## ЛЁС КАХАННЯ

Аб каханні ўжо сказана так многа, што сапраўды цяжка што-небудзь дадаць новага. Тым не менш варта паўтарыць некаторыя справы.

Закаханыя заўсёды выклікаюць цікавасць, адны спрыяюць ім, другія не, не спрыяюць ім. Кожны хлопец і дзяўчына марыць аб каханні — дзяўчына можа нават больш. Потым усяляк бывае.

Цяжка часамі глядзець, як жывуць тыя, што пажаніліся ад першага кахання. Вытлумачэнне таго даволі простае: каханне нараджаецца ў сувязі з біялагічным развіццём арганізма, у якім узнікае інстынкт, імкненне мужчыны да жанчыны. І наадварот. Філосафы называюць гэта імкненнем да захавання чалавечага роду.

Заўважана не першы раз, што прырода стварае пэўныя павабнасці, якія спрыяюць такому імкненню. Асоба, якую кахаем, выдаецца нам самай добрай і разумнай у свеце. Разам з тым горача жадаем, так сказаць, здабыць гэту асобу — хлопец дзяўчыну або дзяўчына хлопца. Калі адбудзецца цялеснае зблiжэнне і пяройдзе нам першы жар кахання, пачынаем крыху іначай глядзець на каханую асобу. Раптам адкрываем, што не такая яна ўжо разумная і прыгожая. Адбываецца як бы расчараванне. Да жаніцьбы бывае гэта і праходзіць, расчароўваемся, але зараз жа праходзіць нам гэтае расчараванне, зноў кахаем тую асобу. Аднак, пасля жаніцьбы гэтае расчараванне можа быць трывалым і тады няма ўжо жыцця. Найчасцей гэтае расчараванне прыходзіць пад канец мядовага месяца. **Адно другога пачынае абкідаць вiнамі.** Даходзіць да паразумлення толькі час ад часу, раз у тыдзень або ў месяц — і то на каротка. Часта родзіцца ўжо дзіця насуперак волі яго маладых бацькоў і тады трагедыя паглыбляецца. Апека дзіцяці не заўсёды прыемная, аднастайная і мала цікавая яна, асабліва, мужчыне. І ў такіх момантах двое маладых людзей праклінаюць сваё каханне, а дзіця іх вырастае на нервовага, хуліганаватага і не зусім добра развітага чалавека. Атмасфера ў сям'і мае найважнейшы ўплыў на выхаванне дзіцяці і нездарма кажуць: «Якая сям'я, такое і дзіця». Хаця перад вачыма суседзяў такая сям'я, часта, усміхаецца і ходзіць пад руку ў царкву ці ў гасціну. Людзі не заўсёды ведаюць, што так робіцца на паказ. **Найбольш дакладным паказальнікам, ці ў сям'і ёсць добра, гэта дзіця і яго ўчынкі.**

Так бывае, калі людзі паверацць толькі аднаму сляпому каханню.

Бо каханню патрэбна дружба, сяброўства. «Дружба і любоў» — гавораць людзі і маюць рацыю. Спачатку дружба, а



потым каханне, любоў. Няма праўдзівай любоўі без праўдзівай дружбы. Істота, сэнс дружбы не толькі ва ўзаемнай дапамозе, гэта бадай не найважнейшае тут. Найважнейшае ў дружбе, гэта глыбокі давер. У Індыі кажуць аб дружбе: «Ты, гэта я». Трэба верыць сябру так, як самому сабе. **Без даверу дружба фальшывая і зменная.**

Каханне, якое вынікне ў такой дружбе, можа быць трывалым і людскім. А, як кажуць, каханне ад першага погляду трэба праверыць у доўгім часе дружбы. Той, хто адразу выяўляе сваё каханне, робіць калі не ўчціва дык, прынамсі, рызыкоўна. Варта памятаць гэта не толькі хлопцам, але і дзяўчатам.

Жыццё заўсёды поўнае небяспекі і цяжкасцей. І скажам, голас кахання без дружбы як жа часта канчаецца ўзаемнай нянавісцю.

Нянавісць і каханне могуць стацца вельмі падобнымі да сябе, бо нянавісць або каханне, гэта крайнія і выбуховыя пачуцці ў чалавечай натуры.

## З КІТАЙСКІХ ПРЫМАВАК

Мужчына патрапіць збудаваць горад, а жанчына разваліць яго.

Верны міністр у патрэбе абыякава глядзіць у вочы смерці, геройская жанчына небяспеку вітае ўсмешкаю на твары.

Бясконцая прывабнасць дзевіцы, безупынная зайздрасць жонкі.

На дзесяць жанчын, дзевяць — зайздросныя.

## З ФРАНЦУЗСКАГА

Жанчыны надта крайнія, значна лепшыя альбо горшыя ад мужчын.

Найцяжэй вылечыцца з кахання, якое з'явілася неспадзявана.



## 25 ПРОСЬБАЎ СВАЯКА ДА СВАЯКОЎ І ЗНАЁМЫХ

### I

Што праўда ўжо не спатыкаецца маладых людзей, якія танцуюць з папяросаю ў зубах. Не так часта відаць і тое, каб хтосьці падчас курэння пляваў на падлогу. Але можна яшчэ часта ўбачыць — нават і ў горадзе — як сыплюць попел з папяросы на падлогу, а акурат кідаюць у кут. Некультурным з'яўляецца таксама, калі хто курыць на вуліцы.

Калі знаходзімся ў чужым доме, трэба запытаць: «Ці можна курыць?» Калі няма попельніцы, попел асыпай у пудэлачка ад запалак.

### II

Калі ўваходзіш у хату або ў аўтобус, прапусці перш жанчын і старэйшых асоб. Уступі месца старэйшым асобам, інвалідам, жанчыне з дзіцём. Малады павінен уступіць месца дзяўчыне — не гаворачы ўжо аб старэйшай жанчыне.

### III

Не раз бачыцца ў нашых вёсках, як хлопцы некультурна і брыдка вядуць сябе пры дзяўчатах — грубіянскія зачопкі, мацанне і шчыпанне. Брыдка даваць такую волю сваім рукам.

У горадзе такіх выпадкаў вельмі ўжо мала.

### IV

Часта можна напаткаць дзяўчыну вельмі прыгожа адзетую, з манікюрам, з намаляванымі губамі і моднай прычоскай, у добрых панчохах і туфлях на высокім абцасе. Адначасова з гэтым бляскам можна заўважыць, што ў гэтай дзяўчыны брудная шыя, непамытыя вушы і т. д. Не гаворачы ўжо аб бялізне, ці непамытых (непачышчаных) зубах. Называецца гэта — быць напаказ.

### V

Непрыемна глядзець на чалавека, асабліва, узіму, калі ідзе ён па вуліцы з незашпіленымі гузікамі. Гузікі ёсць па тое, каб іх зашпіляць. Вясною і летам дапускаецца тое, што можна быць у расшпіленым летніку або плашчы. Гэта не будзе брыдка, калі вялікая гарачыня.

### VI

Калі ўваходзіш у хату або ў якую-небудзь установу, абавязкова здымі шапку. Здымай шапку, калі напаткаеш пахавальнае шэсце, гэтым ушаноўваеш ты памёршага. А ўвогуле, то мы някепска ведаем, дзе і калі трэба здымаць шапку, толькі не робім так.

VII

Калі гаворыш з кім, не трымай у кішэні рук. Ідучы па вуліцы таксама непрыгожа, калі хто ідзе з абедзьвюма «лапамі» ў кішэні.

VIII

Калі ў вас госці і запрашаеце іх за стол, не пытайце, ці будуць піць і есці. Пытаюць толькі хворых.

Стаўляй усё, што маеш.



IX

Брудэршафт выпіць прапанаваць старэйшай асобе нельга. Запрапанаваць брудэршафт павінна старэйшая асоба. Пасля таго, як вып'ецца брудэршафт, адзін другога называе не на «вы» але на «ты».

X

Не крытыкуй перад сваім дзіцём настаўніка. Не крытыкуй нават тады, калі настаўнік не мае рацыі. Нельга падрываць аўтарытэт настаўніка перад вучнем. Аб тым, што настаўнік не мае рацыі, можна гаварыць толькі ў коле дарослых — або з кіраўніком школы, або з самым настаўнікам.

XI

Не так даўно яшчэ аб жаніцьбе вырашала толькі багацце. Дзяўчына з вялікім пасагам адразу выходзіла замуж. Цяпер інакш. Цяпер маладыя людзі больш зварочваюць увагу на адукацыю, на прыгожасць, на характар, на чалавечасць свайго будучага сябра жыцця. Цяпер найважнейшы голас мае каханне. Калі ты закахаўся ў дзяўчыне, або дзяўчына ў маладым чалавеку — калі адзін другому падабаюцца — дык тады і жэняцца.

Але, нажаль, здараецца яшчэ так і цяпер, што пасватаецца малады кавалер, дзяўчына падабаецца але не падабаецца, што бацька яе мае замала тысяч на пасаг. Вось тады з-за пасагу разыходзяцца. Значыць, пасаг тут даражэйшы за чалавека. Як гэта нізкі і нялюдскі, як гэта подлы і нечалавечы падыход да жаніцьбы!

Глядзі на чалавека з кім будзеш жыць! А жыццё супольна прайсці, гэта не на торг з'ездзіць.

XII

Цяпер не ездзяць у сваты. Знаёмствы адыгрываюць цяпер найважнейшую ролю. Паслуга ў пазнаямленні з кімсь — вельмі патрэбная. Вельмі патрэбнае веданне аб тым, што той кавалер ці дзяўчына маюць намер жаніцца — выходзіць замуж. І пазнаёміць такіх людзей, гэта значыць, зрабіць добры ўчынак.



XIII

Найважнейшае ў выглядзе дзяўчыны гэта чысціня. Многа ёсць прыгажунь-калтыг, і многа ёсць непрыгожых дзяўчат але за тое ў іх чысціня ў хаце, на стале, — чысціня, якую прыемна заўважаеш усюды.

Што лепшае? Дакладней кажучы, якая лепшая? Напэўна, чыстая дзяўчына. З такою жонкаю, якая любіць чысціню, сто разоў лягчэй і прыемней жыць, чым з прыгожай «калтыгай».

XIV

Як пазнаць хлопца ці дзяўчыну, што яна добрая і, што яна любіць чысціню? **Найлепш нечакана наведаць яе хату,** а перад усім — кухню. У жанчын, што не любяць рабіць чысціні ўсюды, толькі адзін пакоік чысты, чыставаты, а ўжо на кухні, ля гаршчкоў, проста багно!

Вельмі часта характар у дзяўчыны такі, якія адносіны

яе да маткі. Калі дачка шануе матку (ці сын), калі гаворыць з маткаю ветліва і без крыкаў, калі стараецца заўсёды дапамагчы ёй, значыць, яна (ён) добры чалавек, значыць, яна і да мужа будзе такой ветлівай і чуллівай.

Дакладна тое самае датычыць і кавалераў. Як кавалер адносіцца да маткі, да бацькі, так будзе ён адносіцца і да сваёй жонкі. Кавалеры, што запіваюцца, гэта безнадзейныя кандыдаты на мужоў. П'яніца ў хаце тое самае, што пажар.

## XV

Часта бывае так, што паміж мужам і жонкаю не ўкладваецца добра жыццё з-за зайздрасці. Зайздрасць тады, калі мужу ці жонцы заўсёды здаецца, што калі няма яе ў хаце, гуляе і здраджвае як толькі можа.

Зайздрасць заўсёды тады, калі няма даверу. У маладых сем'ях давер, гэта галоўная справа, і калі ён гіне, гіне часта і самая сям'я, распадаецца. Сварацца — разводзяцца.

## XVI

Не пляткуй на людзей!

Гэта будзем паўтараць часта і не толькі ў гэтым месцы. Пляткарства найбольш агіднае і «папулярнае» скрыўленне людской душы. Асабліва агідна, калі пляткуем на самых блізкіх нам людзей. Той, перад кім ты пляткуеш на другога, падумае, што перад другім напляткуеш на яго. І так найчасцей бывае. А ўвогуле час навучыцца не слухаць плётак — і гнаць такіх людзей прэч.

## XVII

Не насмейвайся, не «паддзявай» калек, неразвітых людзей і наогул асоб з рознымі відавочнымі хібамі. Брыдка рабіць жарты з чужога калецтва. Лепш падумай, якім ты быў бы у выпадку няшчасця.

## XVIII

У размове ніколі не падкрэслівай свайго «я». Будзь скромны. Калі сам сябе хваліш або даказваеш, што ты вельмі разумны ды вучоны — гэта вельмі брыдка і дурна выглядзіць. Зрэшты, такім самахвалам ніхто не верыць. Самыя людзі найляпей ацэняць, чаго ты варты.

## XIX

Ідучы вуліцаю і мінаючы знаёмых ты заўсёды павінен першым прывітацца са старэйшай асобай (без падавання рукі). Калі разыходзіцца пра жанчын дык гэтых правілаў не прытрымоўваемся — **першым заўсёды вітае яе мужчына без розніцы на век** («добры дзень», «мая пашана», «дзень добры, пані», «чэсць» і т. п.).

## XX

У час выпіўкі не прымушай госця піць, нікому не навязвайся з выпіваннем. Кожны нап'ецца сам у залежнасці ад сваіх магчымасцей, здароўя і гумару, і асабістай культуры. Адзін зап'ецца «як чалавечак», другі «схляе паўкасцёла», трэці вып'е толькі «для гумору», чацвёрты — у меру.

Разумны і культурны чалавек ведае, што быць п'яным, гэта вельмі брыдка і неганарова. Толькі лайдак думае, што той п'яны, хто «багаты».

Трэба так піць, каб не быць п'яным.

## XXI

Калі заходзіш ты ў нейкай справе да ўстановы або да знаёмага на кватэру, хутка гавары, чаго прыйшоў і адыходзь. Ніколі не заседжвайся доўга, не наводзь нуды сваімі, не заўсёды цікавымі другім, размовамі.

Не адбірай людзям часу.

## XXII

Калі цябе хто крытыкуе на сходзе або ў нейкай дзяржаўнай установе — не гарачыся ты, выслухай да канца ўсе закіды супроць цябе. Не перабівай сваімі рэплікамі.

Усё выслухаўшы дай аргументаваны адказ — спакойны і разумны.

## XXIII

Калі сядзіш за сталом у час абеду, не сморкай носам. Не сёрбай стравы, не жуй бы жывёла. Гэта адбірае апетыт другім.

Калі мусіш высмаркаць нос, адыдзі ад стала перапрасіўшы ўсіх («выбачце», «прашу прабачэння» і т. п.).

## XIV

Калі чхаеш, засланяй рот хустачкай, або нават рукою так, каб пырскі не ляцелі на іншых асоб.

## XXV

Жартаўнікоў любяць. Жартаваць часта хочацца амаль усім. Але добрыя толькі тыя жарты, калі яны нікога не абражаюць, калі «не задзяваюць» за жывое.

Хамскіх жартаўнікоў трэба па-просту гнаць, бо яны раз затраціўшы меру, робяцца зусім гідкімі.

**Сваяк**

Нічога людзей так не дзеліць, як неабдуманая сварка.

(З думак Яські Апалоніка)

## РАЗМОВЫ З ДАЧКОЮ І СЫНАМ

З'яўленне першай менструацыі ў дзяўчынкі часамі выклікае ў яе шок, найчасцей, перапалох. Таму кожная разумная маці павінна ўжо загадзя **вытлумачыць** сваёй малой дачушцы, што ў яе хутка будзе менструацыя і — што гэта такое? Менструацыя можа з'явіцца нават у дзесяцігадовай дзяўчынкі.



Калі дзяўчынка аб усім тым ведае, яна не будзе потым **нерваваца,** плакаць, хавацца, думаць невядома што! Нельга дапусціць да таго, калі нам залежыць на здароўі дзіцяці.

Калі дзяўчынка ці хлопчык пытаюць, адкуль яны ўзяліся, нельга перамоўчваць іх запытанняў або расказваць ім пра буслоў. Спакойна і разважліва трэба расказаць, што маці родзіць свае дзеці, што яны вырастаюць **у ёй** на працягу многіх месяцаў. Не трэба гаварыць залішне падрабязна, дзіця яшчэ не разумее ўсяго, яно цікавіцца толькі агульна. Больш трэба яму расказваць у меру патрэбы і веку, тлумачыць толькі тое, аб што яно пытае. І тлумачыць так, каб на яго дзіцячы розум было яму ясна.

Калі мы дзіцяці не захочам выясніць, яно будзе шукаць выяснення ў другіх, не заўсёды разумных людзей. Дзіця пачуе грубіянскія сенсацыі, ад якіх адно здзівіцца і потым пачне непатрэбна саромецца сваіх бацькоў.

Дзіця, якое **паступова даведваецца ўсяго ад сваіх бацькоў** не будзе такое брыдкаслоўнае, не будзе выяўляць залішняй і нездаровай цікавасці. Яго развіццё адбудзецца нармальна.



## УСЁ АБ ЖАНЧЫНАХ

Добры настрой робіць жанчыну прыгожай. Аб добры настрой трэба ўмець змагацца. Перад усім трэба адзвычаіць сябе сварыцца з другімі. Злосць робіць чалавека брыдкім.

**Вясна жанчыны,** гэта яе жыццё паміж 16 і 25 годам. У такім узросце не трэба малявацца, каб выглядаць прыгожа і прывабна. Даволі быць толькі чыстай і мець дагледжаныя валасы, якія трэба добра вычэсваць.

Часта крыху псуюць выгляд, так званыя, пырышчыкі. Што рабіць? Перад усім унікаць цяжкастраўнай яды, вострых прыправаў, чорнай кавы і алкаголяў. Есці многа гародніны. Піць дрожджы, завараныя ў малаку або ў вадзе. А ўвосень праз шэсць тыдняў піць адвар з браткоў. Добра памагаюць вітаміны А і В.

Трэба мыць твар мылам два разы ў дзень.

Добра рабіць напар: да двух літраў кіпеню дадаем 2 дэка сухога рамонку або ліпавага цвету. Усё гэта выліваем у міску і абкруціўшы ручніком галаву нахіляемся над міскай так, каб не выходзіла пара. Такі напар твару павінен цягнуцца не менш, чым 5 мінут. Пасля гэтага можна выціснуць пырышчыкі. Для дэзінфекцыі можна працерці твар спіртным растворам і накласці маску з драждждэй: скрыгелік драждждэй добра размяшаць у малаку і дакладна пашмараваць гэтым твар. Калі маска пацвярдзее, абмыць яе спачатку цёплай вадою, а потым халоднаю. Добра таксама раз у месяц пашмараваць твар бялком яйка. Пырышчыкі, якія загнаіліся, нельга выціскаць. Трэба шмараваць іх спецыяльнай масцяю, купленай ў аптэцы (масць іхтыёлевая). Пырышчыкі прападаюць на сонцы.

**Шануй вочы.** Калі баляць вочы, ідзі да лекара і то чым хутчэй, тым лепш. Трэба прамываць вочы халоднаю вадою. Калі вочы вельмі стомленыя, трэба стасаваць кампрэсы з чаю (гарбаты) — у эсэнцыі намачыць ватку, выціснуць яе і накласці на заплюшчаныя вочы. Калі нешта пішаш увечары, святло павінна асвятляць стол ад левага боку.

**Губы** не будуць лопаць на марозе, калі натлусціім іх крэмам. Ну і трэба мыць зубы, найляпей рана і ўвечары. Дзя-

куючы таму прападзе не толькі «брыдкі пах» але зубы доўга будуць здаровымі.

Фарбаванне валасоў вельмі рызыкоўная справа. Яны будуць хутка высушвацца, крышыцца і марнавацца. Калі хочаш мець яснейшыя валасы, палашчы іх у адвары рамонку, а калі захацелася мець цямнейшыя валасы, трэба паласкаць іх у адвары дубовай кары. Валасы будуць мацнейшыя, калі раз у месяц націраць скуру галавы рыцынавым алеем — галаву трэба закруціць, каб не запэцкаць пасцелі, а рана памыць валасы.

І ў «вясне жыцця» дбай аб ногі. Трэба мыць іх штодзень, а раз у тыдзень мачыць іх у мылінах або ў вадзе з соллю. Калі ногі моцна пацеюць — мачы іх праз 15 мінут у растворы фармаліну (2 лыжкі на 1 літр вады). Добра перасыпаць ногі талькам.

Дзяўчаты і маладыя жанчыны не павінны малявацца. Размаляваная дзяўчына выглядзіць старэй. Ну, калі твар не румяны, а губы бледныя, можна крыху «дапамагчы» прыродзе. Далікатна падмаляваныя губы яснаю памадкаю, злёгку ўружоўленыя шчокі і асцярожна прыщемненыя спецыяльным алоўкам бровы не псуюць прыгожага натуральнага выгляду маладога твару з блішчастымі вачыма.

**Вейкі,** калі штодзень шмараваць іх рыцынавым алеем, цямнеюць вельмі выразна і надоўга. Можна і натушаваць вейкі але тушуецца толькі верхнія, каб не зляпляліся валаскі. Трэба гэта рабіць надзвычай асцярожна, каб не запусціць туш у вока.

**Лета жанчыны** пачынаецца ад 25 года жыцця. Ад гэтага часу трэба пачынаць вайну са старасцю — недапускаць да: выпадвання валасоў, маршчын пад вачыма і на лобе, аслаблення мускулаў.

Калі маеш сухую скуру на твары, трэба мыцца вадою з аўсянымі платкамі — жменю платкаў растварыць густа ў цёплай вадзе і націраць гэтым твар. Потым спаласкаць твар халоднаю вадою. Варта потым намасаваць твар крэмам тлустым. Масуем, уціраючы крэм у скуру, пачынаючы ад сярэдзіны лоба ў кірунку да валасоў — шчокі націраем, пачынаючы ад краю губ у кірунку носа і вушэй, вочы масуем, пачынаючы ад скроней. Калі скура паружавее, значыць, масаж зроблены добра.

Узіму тлусты крэм найляпей стасаваць у вечаровы час, на гадзіну перад спаннем. Крэм, што не ўвайшоў у скуру далікатна абціраем, найляпей, ватаю.

Апрача гэтых штодзённых масажаў крэмам, трэба хаця раз на два тыдні стасаваць маску. Перад тым, як рабіць



маску, неабходна дакладна вымыць твар. Калі скура тлустая, найляпей ачышчаецца твар напарамі або кампрэсамі; калі сухая скура — мыем твар вадою, у якой раствараем так званыя, касметычныя вотруб'і, або аўсяныя платкі. Пасля мыцця сухую скуру крыху натлушчваем, потым робім маску, спакойна лягаем. На вочы накладаем кампрэс з



ваты, намочанай у чайнай эсенцыі — або скрыгельчыкі гатаванай бульбы. Так адпачываем 20 мінут. Затым змываем маску цёплай вадою, палошчам твар спачатку ў летняй, а затым у халоднай вадзе і скуру натлушчваем крэмам.

Маска з жаўтка добрая на скуру шэрую. Маска з мёду, перамешаная з бялком і ячменнай мукою (лыжка мёду,

лыжка мукі, адзін бялок) лагодзіць, так званыя, мяшкі пад вачыма. Маска з ільнянога насення добрая на моцна сухую або палопаўшую скуру (дзве лыжкі насення разварыць у двух шклянках вады). На твар нашмароўваем яго, калі яно яшчэ цёплае. Летам добра стасаваць маскі са свежай гароднінi і садавіны з агуркоў, памідораў, а ўзіму — з квашанай капусты.

Трэба дбаць аб тое, каб магчы глыбока дыхаць. Для гэтага даволі крыху такой гімнастыкі, як глыбокае ўдыханне пры адчыненым акне або ў агародзе і ўстрымоўванне дыхання на 1, 2, 3. Калі паспрабаваць так тры — чатыры разы ў дзень (зойме гэта 5 мінут часу) адразу адчуецца, што дыханне робіцца больш глыбок м і арганізм не так хутка мучыцца.

Замала дбаем аб ногі і таму так часта відаць у жанчын «жылякі». Пакласці ногі вышэй цела хаця на 10 мінут у дзень можа ўратаваць перад «жылякамі». Такі адпачынак жаночым нагам проста неабходны. Ногі, мочаныя ў вадзе з мылінамі або соллю, не так хутка стамляюцца.

Сівыя валасы могуць дадаваць жанчыне нават своеасаблівай прывабнасці, калі яе твар дагледжаны і свежы.

Часта бывае, што ў жанчыны вырастаюць малыя але прыкметныя «вусікі». Тады робім так: бярэм 1 частку (порцыю) 5% тленавай вады, 1 частку аміяку і 10 частак дэстыляванай вады. Такою мяшанкаю шмаруем «вусікі», і чакаем аж высахне. Калі ў нас сухая скура, трэба яе **потым** памазаць крэмам.

Такая мяшанка нішчыць валасы і выбельвае іх, «вусікі» робяцца невідавочнымі.

**Восень жанчыны** можа быць не менш цікавай. Трэба, перад усім, утрымоўваць сябе ў добрым настроі і не дапусціцца да сварлівасці. Для здароўя цела патрэбны шпацыры і масажы. Добра будзе націраць цэлае цела рукавіцай, намочанай у растворы з 1 літра вады, 2 лыжак солі, 2 лыжак воцату.

Калі сама пра сябе не задбаеш, дык ніхто ўжо не задбае.



Перапалоханаму зямля гойдаецца пад нагамі.

(З думак Яські Апалоніка)





## АБ МЫЦЦІ ЯШЧЭ РАЗ

Не заўсёды любім часта мыцца, хаця нам вельмі падабаюцца чыстыя людзі. Схільнасць да бруднага жыцця пачынаецца ўжо ў дзяцінстве і, калі ў час і ў пору не прызвычаім сваё дзіця мыцца штодзень, потым цяжка прызвычаіць яго.



Вядома, што мыццё мае вялікае значэнне для здароўя. Не адзін з нас заўважыў, што памыўшыся добра спіцца. Наш арганізм дыхае таксама і праз шчылінкі скуры. Брудное цела, гэта брудная скура і залепленыя потам шчылінкі. Мыццё вельмі добра робіць на наш настрой і кровазабарот.

Брудная жонка хутка брыдне мужу гэтаксама, як брудны муж жонцы. Запацелыя ногі і пахвіны, гэта прыкрыя запахі. Асабліва, павінна дбаць аб сваю чысціню жанчына. А чаму, яны ўжо самыя найляпей ведаюць.



### Удзячнасць

— Гэта вы выратавалі майго сына, калі ён тапіўся?
— Я.
— А дзе яго шапка?



## СОН

У спальні не павінна быць многа кветак. Кветкі таксама «дыхаюць» і ўначы забіраюць нам кісларод (тлен). Удзень наадварот — выдзяляюць з сябе кісларод.

Найляпей спіцца пры адчыненым акне. Нажаль, гэта амаль немагчымае з увагі на мухі. У нашых вёсках хлявы заблізка хат і адсюль безупынная і амаль безнадзейная вайна з мухамі.



Калі маеш 30 год — 10 з іх ты праспаў. Сон надзвычай важны нашаму арганізму і таму чалавек трэцюю частку свайго жыцця прызначае на сон.

**Не спаць, немагчыма.** Калісьці, ў старыя часы, каталі вязняў такім спосабам, што безустанку будзілі іх і не давалі спаць. Вязень спачатку дурэў, а потым слаб, траціў апетыт і паміраў — слынныя ўжо дасведчанні з сабакамі, якія без яды жывуць доўга, а без сну здыхаюць праз пару дзён.

Сон, гэта падстава адпачынку і здароўя. Многія нервовыя хваробы лечаць сном.



Патрэбы сну ў розных людзей розныя. Старэйшыя спяць менш, маладыя больш, а дзеці яшчэ больш. Маленства спіць 16—20 гадзін у суткі, потым ужо 12—16 гадзін. Дзеці да шасці год спяць 10—11 гадзін, старэйшыя дзеці і моладзь — па 9 або 10 гадзін. Норма сну ў дарослага чалавека не перавышае 7—8 гадзін у суткі. Пасля пяцідзесяці год даволі-5 да 6 гадзін сну ў суткі. Чалавек, які пражыў 60 год, спіць па чатыры - пяць гадзін.

Больш павінны спаць людзі нервовыя. Жанчыны, якія пражылі ўжо сорак год, павінны два - тры разы ў тыдзень падрамаць удзень. Аднак не даўжэй, чым 2 гадзіны.

Неразмерная сонлівасць таксама сведчыць аб нездаровых нервах. І ў такіх выпадках трэба звярнуцца аб параду да лекара. Усялякія хатнія спосабы лячэння нерваў даводзяць да руіны чалавечага здароўя. Адзіны ратунак у лекара і толькі ў лекара.

### Прычына

Адзін другога пытае:

— Ты спіш з ёю кожную ноч. Чаму не ажэнішся?

— Ажаніцца? А куды я тады буду хадзіць спаць?

### На забаве

— Ах, дазвольце мне з'явіцца пані ў сне...

— Калі ласка, вось пану мой адрас.

Часам не важна, што гавораць, але хто гаворыць.

Некаторыя для таго, каб стаць на ўласныя ногі, спачатку поўзаюць.

Грошы ўцякаюць з рук, як вада.

(З думак Яські Апалоніка)

## КАМУ Ў ЧЫМ ПАСУЕ?

Адзенне наша павінна падтрымліваць нашу **натуральную** прыгажосць, бо такая прыгажосць лічыцца перад усім.

Калі маеш брыдкія ногі і прыгожыя валасы, не насі празмерна доўгіх спадніц. Ляпей дбай аб валасы, усе будуць хваліць твае валасы, а на ногі не звернуць увагі.

**Хлопцы** тыпу «Цыганчык» маюць схільнасць да каляровага адзення, гарачых позіркаў, прытворнасці. Трэба адзвычаіць сябе ад такіх паводзін, яны занадта правінцыяльныя і ненатуральныя. Дасканала пасуе такім хлопцам белая кашуля.

Мізэрны бландзін, часта, худы мае схільнасць адзявацца ніякавата, аднастайна («мышка»). Высокім бландзінам добры колер чорны, або, так званы, «гранат». Нізкі бландзін з каранастай фігурай добра выглядзіць у роўных, мяккіх пінджаках (летніках) без роўных плячэй. Бландзінам «пеўням» не варта насіць абутку з грубай падэшвай, якая яшчэ больш адзначае мізэрнасць асобы. Прытым, гэта нямодна. Трэба насіць адзенне больш шырокае, якое прыдасць нашай фігуры пэўнасці. Не насіць капялюшоў — бэрэт або адкрытая галава. Валасы ляпей выглядаюць, калі падстрыгчы іх на «вожыка», чым «прылізаныя» і невідавочныя.

Тоўсты бландзін, званы, «свіны блёнд», які мае найчасцей сінія вочы, чамусьці надта любіць насіць сінія кашулі. Пры такіх кашулях ён выглядае яшчэ больш тоўстым. Не варта таксама насіць кашулі з ядвабнага трыкоту або абціслае адзенне. Адзенне павінна быць шырокае, добры выгляд робіць салідны ваўняны касцюм з камізэлькаю і кароткі плашч з паскам.

А наогул кажучы, таўставатыя хлопцы ляпей падабаюцца дзяўчатам, чым шчуплістыя «сухары». Прытым, хлопцы з вельмі круглым тварам павінны насіць доўгія гальштукі.

**Аб дзяўчатах.** Малая бландзінка «кураня» не павінна насіць такіх рэчаў, якія яе памяншаюць, прыніжваюць яе да зямлі. Калі вялікі капялюшык то і высокія абцасы. Тое ж пры спадаючых на плечы валасах. Малыя дзяўчаты наогул павінны асцерагацца таго, што ў модзе вялікае — вялікія: каўняры, клёшы, плашчы, торбы, матэрыялы з вялікімі ўзорамі.

Але нельга насіць таксама вельмі малых рэчаў. Нядобры выгляд робяць матэрыялы з палосамі — ці то ўздоўж, ці то ўпоперак.



Вялікія брунеткі робяць шэраг тыповых ім памылак. Хочуць быць меншымі, ходзячы на пласкіх абцасах і ў доўгай ды шырокай спадніцы, каб быць смуклявай. У рэзультаце выглядзяць яны цяжкавата. Найляпей насіць боцікі лёгкага фасону на малых абцасіках і простыя, нядоўгія спадніцы. Чамусьці падабаюцца гэтакім дзяўчатам надта абціслыя блузкі і свэтры. У іх яны выглядаюць «каравястымі». Нельга таксама насіць шырокі пасак. Дасканала пасуе белы каўнерык, буйныя каралі (пацёркі), вялікая штучная кветка на сукні, шаль.



Шатэнка або бландзінка сярэдніх размераў мае добры выгляд у спакойных колерах, найляпей, пастэлевых. Затым, белыя пацёркі, ясная кветка. Ясная памадка. Валасоў не фарбаваць, часта мыць і часаць (вычэсваць). Не трэба занадта моцна загараць. Наогул, такім **сярэднім дзяўчатам найляпей адпавядаюць розныя моды,** якія прыходзяць і праходзяць.

Дзяўчаты з хлапцоўскім выглядам павінны ўнікаць усяго таго, што яшчэ мацней магло б адзначыць іх хлапцоўскасць. Хадзіць не так, як жандар, але старацца прызвычаіць сябе да лёгкага кроку. Туфлі з малымі абцасамі. Не горбіцца,

такім спосабам ніхто не выглядаў ніжэй. Не рабіць вялікага дэкальту, не насіць гладкіх фасонаў «пад шыю». Добра ў каўнярах з кляпамі. Добрыя — шырокія паскі, моцна заціснутыя (у таліі) і шырокія спадніцы.

Такія дзяўчыны — «хлапчыцы» непатрэбна пераймаюцца тым, што яны «дошкі». Менавіта, большасць мадыстак у дамах моды, гэта такія ж «дошкі», на якіх наогул усё добра ляжыць. Для «дошкі», пераважна, усё добра пасуе.



**Рыжая** бландзінка не павінна загараць на сонцы, бо робіцца чырвонай. Рыжыя вельмі не любяць рабаціння. Тым часам рабацінне якраз пахарошвае іх. Бровы і вейкі нельга маляваць чорным колерам, можна іх далікатна падцяніць на ясны бронз або на ясную шэрасць. Гэта моцна важнае, калі хочам сімпатычна выглядзець.

Памадка павінна быць ясная, модная, але не чырванаватая. Прыгажосць рыжых дзяўчат у іх каляровасці але нельга перасаліць — не даваць адразу некалькіх вострых колераў, што робіць уражанне прасцяцкасці. Найляпей адзін моцна-ясны колер з чорнымі і белымі дадаткамі. Рыжыя ляпей выглядзяць у колерах аднастайных, без узораў. Прыгожа ім у скромных, простых фасонах. Сукня не павінна рабіць канкурэнцыі з прычоскаю і тварам.

Дзяўчынка — «бочачка» не павінна пераймацца сваёй фігурай. Такая дзяўчына не павінна насіць:
— штаноў
— празрыстых блузак
— моцных дэсэняў
— палосак упоперак
— каўняроў — гольфаў
— шырокіх паскаў
— спадніц з маршчаным клёшам



— плашчоў з клёшам
— не адзявацца бы цыбуля (шмат шматак).

«Бочачка» вельмі добра выглядзіць у касцюміку, гарсонцы, сукенцы з падоўжанай таліяй, значным дэкальтам, у роўным плашчы, туфлях на сярэдніх абцасах.

Таямніца прыгажосці «бочачкі» ў тым, каб стварыць выгляд плоскага жывата і даволі шчуплага стану.

**Маладзёжная,** іначай кажучы, **вучнёўская мода** заўсёды выклікае найбольш сварак з увагі на «выдаткі без заробкаў». Адзенне недарагое але шыкоўнае.

**Дзяўчаты** перад усім, павінны насіць цёплыя спадніцы з запрасаванымі фалдамі. Можа быць узорысты або валахаты матэрыял, калі хочам спадніцу з таўсцейшага матэрыялу. Да спадніцы свэтар але без узораў. Добры выгляд у кашулі, падобнай блузцы з: паплiну, ядвабу, пікі, бавоўны, фланелі, тонкай воўны. Блузку шыем так, як мужчынскую кашулю. Добра будзе прышпіліць да яе белы каўнер, затым даць пасак з шырокай клямраю.

Каб спадніца добра «слізгалася» трэба насіць ядвабную гальку.

Сукню на вечарынкі шыем з бліскучага, брокатавага матэрыялу. Фасон: без рукавоў, дэкальт, сцісла дапасаваная угары, з шырокім штыбным паскам з гэтага самога матэрыялу, ніз моцна шырокі, моцна падапхнуты (падпёрты) штыбнай галькаю з накрахмаленага палатна — накшталт дугі. Сукня павінна быць кароткай да каленяў. Туфлі, рукавічкі (найляпей, доўгія да локця), пацёркі, кукардка ў валасах.

Штаны носім як найбольш абціслыя (гавару аб вучаніцах!). Да штаноў заўсёды пласкі абцас. Вельмі модныя шорты, блузка з такога самога матэрыялу.

Валасы заўсёды павінны быць крыху «ўспульхненымі» наперадзе, прычоска «кок». Вейкі малюем зялёным колерам але не замоцна, губы ясна - чырвоныя.

**Хлопцу** наймадней у касцюме «на тры гузікі» — трэці заўсёды расшпілены. Малыя кляпы, мяккія плечы (без ваты). Белая кашуля, цёмны гладкі гальштук.

Зусім чорны касцюм на свята яшчэ не пасуе такому хлопцу. Ляпей, калі нейкі цёмны матэрыял, скажам, у ёлачкі.

Найлепшым адзеннем на штодзень, гэта цёмнашэрыя фланелевыя штаны і пінджак (лятнік) з твэду — шэры, сіні, зялёны, бэжавы, бронзавы. Чорны гальштук і каляровы «пульвэрак».

Уся элегантнасць хлопца залежыць ад добра пашытых штаноў.

## ЦІ ПРЫГОЖАЯ ТЫ?

Можаш пераканацца аб тым на падставе ніжэй друкаванай табліцы. Калі паданыя там лічбы сапраўды адпавядаюць размерам Твайго цела альбо вельмі блізкія да гэтых лікаў — можаш ганарыцца. Калі, аднак, у Цябе больш сантыметраў, чым трэба, спрабуй стасаваць гімнастыку штодзень па 10 мінут, і пры адчыненым акне. Асабліва патрэбна гімнастыка ў зімовы час, калі нарастае, так званае, «сала». Але адна гімнастыка няшмат паможа, калі будзем ласуніцца пернікамі, цукеркамі, тлустымі абедамі і вострымі стравамі. Толькі яда ў меру можа дапамагчы Табе захаваць прыгожы выгляд цела.

Размеры падаем у залежнасці ад вышыні — у сантыметрах.

| Вышыня | 156 | 158 | 160 | 162 | 164 | 166 | 168 | 170 | 172 | 174 | 176 | 178 | 180 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Акружнасць грудзей | 81 | 82 | 83,2 | 84 | 85 | 86 | 87 | 88 | 89 | 90 | 91 | 92 | 93 |
| Таўшчыня шыі | 32,2 | 32,6 | 33 | 33,4 | 33,8 | 34,2 | 34,6 | 35 | 35,4 | 35,8 | 36,2 | 36,6 | 37 |
| Стан | 63 | 64 | 65,2 | 66 | 67 | 68 | 69 | 70 | 71 | 71,9 | 72,7 | 73,5 | 74,4 |
| Акружнасць клубоў у найбольш шырокім месцы | 88 | 89 | 90,5 | 91,5 | 92 | 93 | 94 | 95 | 96 | 97 | 98 | 99 | 100 |
| Кульша | 47 | 47,6 | 48,5 | 49 | 49,6 | 50,3 | 51 | 51,6 | 52,3 | 52,9 | 53,5 | 54,1 | 55 |
| Лытка | 32,2 | 32,6 | 33 | 33,4 | 33,8 | 34,2 | 34,6 | 35 | 35,4 | 35,8 | 36,2 | 36,8 | 37 |
| Плячо (рамяно) | 26 | 26,2 | 26,7 | 27 | 27,3 | 27,6 | 28 | 28,5 | 28,8 | 29,1 | 29,5 | 29,8 | 30 |





## ЯК І ДЗЕ?

Жанчына амаль ад першых дзён вяселля пачынае бараніцца перад старасцю. Дапамагаюць ёй у гэтым сотні вучоных, якія працуюць над выпускам штораз лепшых сродкаў для барацьбы са старасцю. Французы падлічылі, што жанчыны ад 20 да 43 год штодзень прастойваюць перад люстрам 99 мінут. Адно і тое пытанне: «Ці прыгожая я?».

Ужо ў старажытным Егіпце, Грэцыі ці Рыме жанчыны ўжывалі мноства розных сродкаў, каб прыхарашыць сябе. Цяпер на свеце ёсць розныя моды і густы. Асноўным варункам прыгожасці гэта чысціня. Жанчыны на палінезійскіх астравах (Пацыфік) купаюцца па некалькі разоў у дзень, ужываючы моцнапеннага і пахучага мыла з кокасавых пальмаў. А зноў афрыканскія прыгажуні некаторых плямёнаў не мыюцца зусім. Усё цела абвязваюць цынкавым дротам, дзе поўна бруду, алеяў і поту. У Бірме не мае права жонка купацца, калі няма ў хаце мужа і г. д. Розных звычаяў — добрых і дрэнных — без ліку.

**Заляцанкі** таксама розныя і дзіўныя. У адной правінцыі Італіі захаваўся звычай «задатку кахання». Закаханы хлопец, як хоча ажаніцца, прыносіць уначы драўляны пень пад дзверы хаты, дзе жыве каханая. Калі назаўтра дзяўчына пяройдзе абыякава каля пня, значыць, яна не хоча яго. Калі, аднак, дзяўчына завалачэ пень у хату і паможа ёй у гэтым маці і бацька, значыць, яна хоча выйсці за яго замуж. У Індыі дзяўчына ў сям'і гэта няшчасце. Таму стараюцца выдаць яе чым хутчэй. Урад Індыі забараніў выдаваць дзяўчат замуж перад 14 годам жыцця. А зноў у арабаў, у Йемене, дзяўчына каштуе і то надта дорага. За 14-гадовую дзевіцу трэба заплаціць 50 таляраў, а калі паходзіць з багатай сям'і, цана аўтаматычна расце да 300 таляраў, а нават і больш. Прытым, той хто купляе, можа пабачыць сваю будучую жонку толькі падчас шлюбу. Гэта купля «ката ў мяшку». Таму ў Йемене часта разводы. Вельмі лёгка здабыць жонку ў афрыканскіх масайяў. Там даволі закінуць дзяўчыне на шыю пас і сказаць: «будзеш маёю жонкаю». У некаторых народаў Паўночнага В'етнаму мужчына, які хоча ажаніцца, павінен адпрацоўваць 5 год на гаспадарцы бацькоў дзяўчыны. Пасля 5 год бацькі часамі не згаджаюцца, каб ён быў мужам іх дачкі, і мужчына адыходзіць з нічым. Больш энергічныя, не могучы пагадзіцца з гэтакай несправядлівасцю, крадуць дзяўчыну і ўцякаюць да сваіх бацькоў.

**Ажаніцца найлягчэй** у Англіі. Там могуць даць шлюб нават на падставе кніжачкі ПКО, ці легітымацыі БГКТ. Абы было імя і прозвішча, і год нараджэння. Таму нічога дзіўнага, што ў Англіі многія маюць па некалькі жонак, а жонкі па некалькі мужоў. Нядаўна судзілі аднаго матроса, які ажаніўся 21 разоў.

У арабаў, каб атрымаць развод, даволі сказаць тры разы «Выганяю цябе». Арабы ахвотна карыстаюць з такога права, пазбываючыся сварлівых і скупых жонак.

**Якія найбольш частыя прычыны разводаў?** 44 працэнты разводаў адбываецца з прычыны нявернасці, 29 працэнтаў з прычыны п'янства, 12 працэнтаў — з прычыны матэрыяльных цяжкасцей, 9 працэнтаў сем'яў разбіваюць цёшчы.

У Францыі кожная пятая пара разводзіцца, у Амерыцы — штоцвёртая пара разводзіцца, у Польшчы разводзіцца кожная дванаццатая пара. Так, што ў нашай Польшчы яшчэ зусім добра.

У Індыі толькі ад 1955 года жанчыны маюць права падаць на развод. Раней мелі такое права толькі мужчыны. У Індыі нявернасць караецца, як крымінальнае злачынства, з той розніцай, што ўся віна падае на мужчыну. Індыйскія суды лічаць, што жанчына, як слабое стварэнне, не мае магчымасці супрацівіцца і таму яна не можа быць вінаватай.



У Францыі забаронены аборты. Звязана гэта з малым натуральным прыростам у Францыі. Французскія забароны суровыя. Нядаўна памерла адна жанчына, якая нарадзіла 23-яе дзіцё, і хаця лекар ведаў, чым закончацца для гэтай жанчыны 23-ія роды, аднак не рашыўся зрабіць ёй нелегальны аборт.

Як свет светам людзі заўсёды думалі, каб не мець многа дзяцей. Напрыклад, жанчыны першабытных плямёнаў на Новай Гвінэі стараюцца ў першых гадах пасля вяселля не мець дзяцей. У гэтых плямёнаў сфармаваліся дасканалыя спосабы ўнікання цяжарнасці. Перад вяселлем матка вучыць дачку, як гэта рабіць. Калі родзіцца дзіця муж не можа знаходзіцца паблізу. **Могуць бачыць гэта толькі малыя дзеці,** якія дзякуючы таму ўжо ад маленства абзнаёмлены з таямніцамі жыцця і ніхто іх не ашукоўвае «буслам».

А ў нашых вёсках нават цяпер некаторыя маццяркі «не маюць адвагі» гаварыць аб гэтых справах са сваімі дочкамі, ці сынамі.

### Ад маці і да маці

Сустрэліся на вуліцы дзве знаёмыя.

— Адкуль ты ідзеш?

— У маці была. Напякла яна пірагоў, варэння мне наварыла.

— Добра табе — усё ад маці ды ад маці. А да маці нічога не носіш?

— Як гэта, не нашу!? Кожны тыдзень нашу да яе бялізну, каб памыла.

Жанчына наогул трывожыцца за сваю будучыню так доўга, пакуль не выйдзе замуж. Мужчына не трывожыцца пра сваю будучыню так доўга, пакуль не ажэніцца.

(З думак Яські Апалоніка)

## ДОБРА ВЕДАЦЬ

**Як чысціць дыван?** Дыван у хаце гэта каштоўны выдатак і варта ведаць, як яго даглядаць. Найляпей чысціць дыван адпылячам — але купля адпыляча гэта таксама каштоўны выдатак. Застаецца толькі замятаць добрай густой шчоткай і сціраць пыл крыху сырой шматкай але не мокрай, бо дыван можа «зацвісці». У ніякім выпадку нельга класці дыван на невысушаную падлогу.

Трапаць дыван можна не часцей чым 2 да 3 разоў у год. Калі будзем трапаць яго часцей, ён хутка абнішчэе. Старыя плямы на дыване надта цяжка выцерці. Наогул, плямы на дыване чысцім пры дапамозе вадкасці «трі» і хімічнага пеннага сродка да чышчэння. Нельга чысціць дывана бензінам або мылам. Нельга таксама чысціць аміякам, які нішчыць колеры.

**Як маляваць кватэру?** Трэба ведаць, што ад таго, як намалявана наша кватэра, залежыць у значнай меры наш настрой, значыць, і здароўе. Не заўсёды ўсведамляем сабе гэту праўду.

Колеры аднолькавыя і пастэлевыя не толькі прыгожыя але, і здаровыя нашым вачам, і нервам. Многія людзі малююць сцены сваіх кватэр markoзнымі ўзорамі, кветкамі або выкрутасамі — «каб не пэцкаліся сцены». Аднак, пры такіх сценах кепска выглядаюць мэблі, кветкі і людзі.

Пры мэблях яснага колеру лепш намаляваць сцены, так званым, халодным колерам. Мэблі цямнейшага колеру, з «полыскам», патрабуюць яснейшых сцен або зусім ясных. Што такое халодныя колеры? Гэта такія, у якіх няма жоўтага колеру (або з вельмі малою дамешкаю) — сіні, фіялетавы, бураковы, марскі і т. п. Цёплыя колеры гэта: жоўты, сэледынавы, чырванаваты і т. п. Каб чырвань была слабейшай, дадаем зялёнай фарбы і наадварот.

Можна рабіць розныя камбінацыі перамешваючы рознакаляровыя фарбы.

Чырвань пабуджае актыўнасць чалавека; сінь супакойвае, астуджае; жоўты або падобны колер дае пачуццё цяплыні і ўтульнасці. Найлепшымі колерамі людскому арганізму, яго нервам, з'яўляюцца колеры — зялёны, сэледынавы, разэдавы, марскі, і т. п.

Ад таго, якім колерам мы намалюем сцены будзе залежыць выгляд нашай кватэры. Ясныя сцены ствараюць ураженне, што наша кватэра як бы большая. Калі хочам, каб кватэра выглядала як бы вышэйшай, сцены малюем цямнейшым колерам, а столь (полап) — яснейшым колерам. І наадварот, цямнейшая столь стварае ўражанне, так сказаць, нізкасці кватэры.

Уся кватэра выглядае большай, калі сцены кватэры па-





маляваны адным колерам — ва ўсіх пакоях.

У змроку гаснуць колеры цёплыя — жоўтыя і чырвоныя. Свецяцца блакітныя колеры.

**Як мець прыгожую падлогу?** У гарадской кватэры шкада псаваць яе маляваннем на чырвань ці іншы колер.

Найляпей зрабіць так: сухую і чыстую падлогу дакладна пашмараваць гарачым ільняным пакостам. Калі высахне, шмаруем яшчэ два разы. Калі за трэцім разам пад-



ўдаецца гэта наогул лёгка але падлога з дошак у вясковай хаце ўжо не адной гаспадыні надакучыла як сто чарцей! Цяпер людзі малююць падлогі, асабліва, у пакоях. Але маляваная падлога, да таго чырванаватым колерам, выглядае даволі брыдка або і зусім брыдка. Можна дапусціць да малявання падлогі, калі ў ёй старыя, пашчэрбленыя і няроўныя дошкі. Аднак, калі ў нашай хаце прыгожая падлога з роўных і гладкіх дошак, лога ўжо высахне трэба купіць бясколернай пасты да падлогаў і добра выпаставаць. Тады падлога будзе мець прыгожы і натуральны заласцісты колер, і бляск. Усялякі бруд тады лёгка прыпратаць сырою шматаю. Суседзі будуць зайздросціць нам такой гожай і заўсёды чыстай падлогі.

**Як доўга можа быць у халадзільніку?**

Некаторыя маюць халадзільнікі (лядоўкі). Як доўга і што можа знаходзіцца ў халадзільніку? Гэта важна ведаць, бо некаторыя разумеюць, што халадзільнік поўнасцю забяспечвае прадукты. Не, халадзільнік толькі дае магчымасць даўжэй захаваць прадукты. І так: сырое мяса можа ляжаць у халадзільніку не даўжэй, чым 5 дзён. Потым яно «засмярдае». Гатаванае мяса — да 6 дзён, рыбы — да 3 дзён, печаная рыба — да 4 дзён. Куры, качкі — да 5 дзён, малако, смятана — да 5 дзён, потым закісае. Яйкі, сыр — да 14 дзён, масла — да 8 дзён, каўбаса — да 10, гародніна — да 5 , а садавіна можа знаходзіцца ў халадзільніку да 10 дзён. Яблыкі нават больш.

У халадзільніку найцяплей унізе і найхаладней угары, каля халадзільнай апаратуры. Мяса, рыбы, яйкі найляпей размяшчаць угары халадзільніка, паблізу халадзільнай апаратуры. Масла, сыр, садавіна лёгка «набіраюцца» паху мяса і іншых прадуктаў. Таму найляпей загарнуць іх, прынамсі, у нейкую паперу.

**Як змыць пляму ад чарніла?**

Найляпей яны змываюцца адразу, гэта ясна. Але добрыя вынікі дае спосаб, які зводзіцца да таго, што паплямленае чарнілам месца трэба мачыць у кіслым малаку, некалькі разоў змяняючы малако. Потым ужо звычайна мыем у цёплай вадзе з мылам.

Бялізну са штучных матэрыялаў найляпей мыць у цёплай вадзе пры дапамозе такіх парашкоў, як. Kokosal, Alkilo, FF. Пры мыцці белых рэчаў ужываем Oxydion або Helio. Пасля мыцця трэба вельмі дакладна выпаласкаць бялізну.

**Як захаваць ахвоту да працы?** Справа на-просту ў тым, што пад вясну людзі чуюцца вялымі. Звязана гэта з недахопам вітамінаў у людскім арганізме і тады людзі найчасцей хварэюць, выбухаюць эпідэміі грыпу і г. д.

Добрая гаспадыня дбае аб тое, каб сям'я спажывала вітаміны, якіх многа ў гародніне. З гародніны можна рабіць простыя і смачныя дадаткі да абеду. Напрыклад, з пасечанай цыбулі і квашаных агуркоў, пасечанай кіслай капусты і морквы. Асабліва многа карысных вітамін у кіслай капусце.

Калі гатуем кіслую капусту, не можна часта здымаць пакрыўкі з гаршчка, бо разам з параю «вылятаюць» і вітаміны. Здорава піць расол ад квашаных агуркоў або капусты. Сыры расол можна заліваць да стравы перад ядою, перагатаваны расол ужо не мае ніякай вартасці нашаму арганізму.

**Фіранкі** крэмавага колеру будуць выглядаць ляпей, калі прапаласкаем іх у вадзе з дадаткам эсенцыі чаю.

**У гаршчках алюміневых** нельга трымаць малако, кіс-

лую страву (капуста) ці гародніну. Прычына ў тым, што ў гэтакіх гаршчках усё хутчэй псуецца.

**Яйкі,** якія купляем у гарадскіх крамах, як вядома, не першай свежыні. Аднак, яны могуць быць смачнейшымі,



калі перад выкарыстаннем патрымаць іх пару гадзін у халоднай свежай вадзе.

**Караеды знішчаюць мэблю.** Малюсенькія дзірачкі ў мэблях і пылок каля іх сведчыць аб тым, што загняздзіліся караеды. Можна даволі лёгка пазбыцца караедаў упырскваючы лекарскай іголкай раствор «Азатоксу» і заляпляючы дзіркі воскам. Трэба так зрабіць некалькі разоў. Калі больш не паявіцца пылок каля дзірак гэта будзе азначаць, што караеды вынішчаны.

**Прынялася думка, што нафталін знішчае молі.** Гэта няпраўда. Нафталін толькі не дапускае да размнажэння моляў, але найлепшым сродкам у знішчэнні іх з'яўляецца хімікат «Molina» і «Molotox». Даволі пакласці ў куфар ці чамадан 5—8 таблетак гэтага хімікату і молі будуць вынішчаны.

**Маргарыну** трэба трымаць у прахладным і цёмным месцы.

**Артыліёнавыя плашчы і курткі** можна добра вымыць у цёплым (летнім) растворы сродка «Kokosal», «FF» або «Pianon». Плашч трэба раскласці на стале, і намочанай у растворы губкай дакладна выціраць месца за месцам. Плашч палошчам у вялікай колькасці летняй вады, потым вешаем яго для прасушкі.

**Увага!** Артыліёнаў не можна выкручваць пасля паласкання.

**Як прасаваць?** Як не дзіўна, але шмат дзяўчат — не гаворачы ўжо аб хлопцах — не ўмее прасаваць. Вось некалькі ўказак для прасуючых: простыні, абрусы, падпінкі фіранкі трэба прасаваць намочанымі — і ўздоўж простай лініі (мачыць лёгка, не за моцна). Фіранкі з цюлі і сеткі ўвогуле нельга прасаваць, распінаем іх на падлозе для прасушкі; мужскія кашулі прасуем пачынаючы ад рукавоў, потым каўнер (пачынаючы ад ражочкаў) далей манжэты — і рэшту. Ваўняныя вырабы заўсёды трэба прасаваць на левы бок, праз шматку. Адзенне са штучных матэрыялаў не можна прасаваць гарачым прасам.

Кепска папрасаваныя «блішчучыя» штаны, спадніцы, можна паправіць, прасуючы іх праз шматку моцна намочаную ў вадзе з воцатам.

**Шчотка** да падлогі не так хутка змарнуецца, калі будзем яе вешаць, а не стаўляць. Такім чынам даўжэй захавае яна простыя валасы.

**Скураныя тэчкі і торбачкі** можна аднавіць хатнім спосабам. Тлустыя плямы найляпей чысцяцца бензінам, іншыя плямы вадою з аміякам ў прапорцыі — 4 лыжкі вады, 1 чайная лыжачка аміяку. Змыўшы пляму чысцім торбу добрай тлустай ваксай ад абутку адпаведнага колеру — ніколі цямнейшай, чым колер тэчкі ці торбы.

**Тэчкі, торбачкі** і чамаданы са свіной скуры мыем вадою з мылам і пасля прасушкі напастоўваем белай ваксаю (бясколернай).

**Іржавыя ключы, замкі, вінты,** найляпей чысціць паклаўшы іх на некалькі дзён у нафту або аліву.

**Ператомленасць ног** часта здараецца ў гаспадынь, якія працуюць, пераважна, стоячы. Першы спосаб на ратунак ног гэта масаж лытак і ступняў, жвавае расціранне іх на працягу некалькіх мінут. Добрыя вынікі дае мачэнне ног у гарачай вадзе з дадаткам да яе 2 лыжак кухоннай солі. Добра мачыць ногі ў адвары рамонку.

**Праўдзівым няшчасцем жаночых ног** з'яўляюцца гумовыя падвязкі, якія пераціскаюць мускулы і гамуюць кроваабарот.

**Тэлевізар** глядзяць усе. Нельга сядаць блізка тэлевізара, бо гэта шкодзіць нашым вачам.

Найлепшай адлегласцю, якая можа быць тут, гэта паўтара — два метры. Тэлевізар ставім так, каб на яго экран не падаў бляск ад акон. Прытым, павінна гэта быць сухое месца. Даволі, каб нейкая кропля вады ўпала на лямпы, якія моцна гарачыя, і тэлевізар можа разарвацца бы граната.

Дзеці могуць глядзець тэлевізар не больш, чым адну гадзіну часу.

## ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕТАЎ ПЕШАХОДАМ

Чвэрць усіх нешчаслівых выпадкаў на дарогах мае месца па віне пешаходаў. Але не варта капацца ў людской лёгкадумнасці і рызыканцтве. Яго дурната і так відавочная.

А вось, так сказаць, дзесяць запаветаў пешаходам.

**Па-першае,** на нашых дарогах усе машыны абавязаны ехаць **правым бокам** шашы. Можна ім уязджаць на левы бок толькі тады, калі мінаюцца, аб'язджае (апярэджвае) адна другую. Пешаход павінен ісці на абочыне шашы але **левым бокам,** каб бачыў над'язджаючыя машыны.

**Па-другое,** пешаход у горадзе, ідучы па тратуары, павінен трымацца правага боку.

**Па-трэцяе,** забаронена перабягаць цераз вуліцу ці шашу, калі на ёй многа машын. Пераходзіць на другі бок толькі тады, калі няма паблізу машыны.





**Па-чацвёртае,** — пераходзім цераз вуліцу толькі ў абазначаных месцах, або на скрыжаванні. Шашу пераходзім у тым месцы, дзе найменшы рух.

**Па-пятае,** нельга пераходзіць на другі бок **на паваротах** шашы ці вуліцы, адкуль можа неспадзявана наехаць машына.

**Па-шостае,** дзеці **да сёмага года жыцця** не могуць самыя пераходзіць на другі бок вуліцы, шашы.

**Па-сёмае,** пешаход павінен ведаць некалькі важнейшых дарожных знакаў. Напрыклад, ці па якіх вуліцах машыны ездзяць у адным кірунку, ці ў двух кірунках (круглы чырвоны знак з белаю палоскаю абазначае, што па гэтай вуліцы едуць машыны толькі ў адным кірунку).

**Восьмае,** гэта безумоўная патрэба ведаць, як абазначаны пераходы на вуліцах (напісы або бела-чорная «зэбра» на асфальце). Многія памылкова думаюць, што гэтыя знакі даюць першынство пешаходу перад машынамі. Няпраўда.

**Дзявятае,** гэта веданне светавых сігналаў. З'яўленне чырвонага сігналу абазначае забарону пераходу, хаця вуліца можа быць зусім пустая. Жоўты сігнал абазначае перасцярогу. Той, хто ўвайшоў на вуліцу павінен хутка перайсці яе. Зялёны сігнал — можна пераходзіць праз вуліцу, **машыны спыняюцца.**

**І дзесяты запавет** — варта ведаць, як кіруе вулічным рухам міліцыянт. Калі стаіць ён да цябе перадам або задам, значыць забаронены пераход. Калі стаіць ён бокам — можна ісці. Паднятая ўгору рука значыць, што будзе зменены напрамак вулічнага руху і ўваходзіць на асфальт забаронена.

**ПА-БЕЛАРУСКУ ГАВОРЫМ:**

— не толькі ў сям'і,

— але таксама на вуліцы,

забаве і вяселлі.

Той, хто не шануе роднай мовы беларускай, не шануе сам сябе.

# КУЛІНАРЫЯ

## АБ ЯДЗЕ І ПРЫСМАКАХ

Наша кухня павінна быць не толькі здаровая але і смачная. Нясмачная яда, хаця і здаровая, не дае столькі карысці нашаму арганізму.

На пачатак варта расказаць аб некаторых спосабах прыгатавання, так званых, халодных блюд і закусак. Пачнем ад салатаў, якія з'яўляюцца лёгкай, карыснай і смачнай ядою. Іх можна прыгатовіць з сырой гародніны і садавіны, а таксама з дадаткам мясных або рыбных прадуктаў (напрыклад, селядцоў). Салаты з дадаткам мясных або рыбных прадуктаў падаем толькі як закуску, упачатку абеду або вячэры.

Вось некалькі спосабаў прыгатавання салатаў.

**Салат са смятанай і яйкам.** Абмыты і абсушаны салат парэзаць і скласці ў міску. Цвёрда згатаванае яйка нарэзаць тонкімі скрыгельчыкамі і перамяшаць іх з соўсам са смятаны і воцату. Перад самай ядою заправіць салат смятанавым соўсам з яйкам, укласці ўсё ў талерку або салатнік, аблажыць кружочкамі свежых агуркоў і пасыпаць дробна парэзаным кропам або зялёнаю пятрушкаю. Гэтакі салат добры да мясной яды.

Доза: на 30 дэка салату — 1 яйка, 1 свежы агурок, паўшклянкі соўсу са смятаны і воцату. Воцат даем для смаку.

Салат, званы, **«Здароўе».** Агуркі, морква і яблыкі парэзаць тонкімі скрыгельчыкамі, а лісце салату рэзаць на 3—4 часткі кожны. Усё гэта добра вымяшаць і заправіць смятанаю. Добра дадаць лімонавага соку. Солі і цукру даем для смаку. Зверху салат упрыгожыць памідорамі, парэзанымі кружочкамі.

Доза: на 2 свежыя агуркі — 2 сырыя морквы, 2 яблыкі, 2 памідоры, 10 дэкаў зялёнага салату, паўшклянкі смятаны, чвэртку лімона.

**Салат са свежых агуркоў у смятане.** Парэзаныя агуркі солім, пасыпаем перцам і паліваем смятанаю з дадаткам крыху солі і воцату. Зверху пасыпаем усё кропам. Такі салат адпаведны да мясной яды або рыбнай.

Доза: на 3 агуркі — чвэрць шклянкі смятаны і паўлыжкі воцату.

**Салат з радыскі са смятанаю.** Згатаваны цвёрды жаўток яйка расціраем у місцы, дадаем смятаны і солі. У гэта ўкладаем парэзаную радыску і тонка парэзаны бялок яйка. Усё разам добра перамяшаць.

Доза: на 2—3 пучкі радыскі — адно яйка, паўшклянкі смятаны.

**Салат са свежых памідораў і агуркоў.** Памідоры і агуркі, тонка парэзаныя, пасыпаем соллю і перцам. Воцатам паліваем перад самай ядою. Добра пасыпаць усё кропам або зялёнай пятрушкаю. Калі хто любіць, можна дадаць цыбулі. Гэты салат дасканалы пры мясной ядзе, можа быць таксама асобным блюдам.

Доза: на 5—6 памідораў 2 — 3 агуркі, 3—4 лыжкі воцату.

**Салат з буракоў.** Нагатаваць або напячы буракоў, пачысціць іх, парэзаць далікатнымі скрыгелькамі, пакласці ўсё ў міску, пасаліць, пасыпаць перцам, не пашкодзіць даць алівы. Паліць воцатам і пасыпаць зверху кропам або пятрушкаю. Такі салат адпаведны да печанага мяса і іншай смажаніны. Можна зрабіць салат з буракоў і бульбы. Тады даем палову буракоў і палову бульбы, вядома, згатаванай бульбы з лупінамі, якія пасля трэба аблупіць.

Доза: на 2—3 буракі — 2 лыжкі масла, гэта значыць, алівы; чвэрць шклянкі воцату.

**Салат з бульбы.** Згатаваную з лупінамі бульбу лупім, чысцім, рэжам тонкімі скрыгельчыкамі, кладзем у міску, солім, пасыпаем перцам, перамешваем з воцатам і алівай. Добра, калі такі салат пасыпаць кропам або крышанай зялёнай цыбуляй. Такі салат добры да гарачага і да халоднага мяса, асабліва, калі паспеем есці яго, пакуль не астыне бульба.

Доза: на паўкіля бульбы — 5 дэка зялёнай цыбулі, 2 лыжкі алівы, чвэрць шклянкі воцату.

**Салат з капусты.** Ачышчаем яе, рэжам тонкімі скрыгельчыкамі, крыху солім і пераціраем усё рукамі, каб капуста памякчэла. Сок трэба зліць і капусту яшчэ раз выціснуць. Пасля заліваем яе воцатам, перамешаным з цукрам, і пакідаем на 30—40 мінут.

Да капусты добра дадаць алівы. Салат з капусты можна прыгатовіць і іншым спосабам. Крышым капусту, кладзем у каструлю, дадаем солі, воцату і, безустанку мяшаючы падаграваем да таго часу, пакуль капуста не асядзе і не зробіцца мяккай. Пасля таго капусту астудзіць і падправіць цукрам ды аліваю.

Доза: на паўкіля капусты — чвэрць шклянкі воцату, паўлыжкі цукру.

**Салат з квашанай капусты.** Квашаную капусту перамяшаць з цукрам і раслінным маслам (аліва). Можна дадаць свежых яблык, дробна парэзаных.

Доза: на паўкіля капусты — 1 лыжку расліннага масла, 1—2 лыжкі цукру.

Салат, званы, **«Вясна».** Парэзаць абмыты і падсушаны зялёны салат і ўкласці яго горкаю ў пасуду. Вакол салату размясціць кружочкі морквы, памідораў, гатаванай бульбы, радыскі, агуркоў, а таксама зялёнай цыбулі. На самай горцы размясціць кружочкі цвёрда гатаванага яйка або некалькіх яек. З смятаны, воцату і цукру прыгатовіць соўс. Падаючы на стол салат трэба крыху пасаліць, а соўс падаць у асобнай пасудзіне.

Доза: на 10 дэка зялёнага салату — 2 яйкі, 2 свежых агуркоў, 1 пучок чырвонай радыскі, 1 гатаваную моркву, 2—3 штукі гатаванай бульбы, 2 памідоры, 5 дэка зялёнай цыбулі, больш паўшклянкі смятаны, 1 лыжку воцату, паўлыжачкі молатага цукру.

**Салат з рыбы і памідораў.** Гатаваную рыбу парэзаць маленькімі кавалачкамі, дадаем лупленую бульбу, дробна парэзаную, свежыя агуркі таксама, карнішоны і памідоры, і салат. Усё разам кладзем у міску. Перад паданнем на стол трэба крыху прысаліць і перамяшаць з соўсам майянэз, з дадаткам воцату. Салат кладзем горкаю ў пасудзіне, у цэнтры размяшчаем прыгожыя цэлыя лісці зялёнага салату, а навокал кружкі памідораў і агуркоў. Да салату можна дадаць яшчэ 5 дэка зялёнай цыбулі.

Доза: на 20 дэка філетаў рыбы — 1 памідор, 1 свежы агурок, 3 штукі гатаванай бульбы, 75 грам зялёнага салату, 75 грам карнішонаў або аднаго кіслага агурка, паўшклянкі соўсу майянэз, 1 лыжку воцату.

Увага! Трэба ўжыць філетаў бялугі або падобнай рыбы але не траскі (доршаў).

**Салат з селядцом.** Ачышчаныя селядцы парэзаць дробнымі кавалачкамі, а гародніну і яблыкі — тонкімі скрыгельчыкамі. **Гатовім соўс:** жаўток цвёрда гатаванага яйка расціраем з соллю, гарчыцай (муштардай) і алівай, прытым аліву даліваем памалу невялікімі порцыямі, каб соўс быў густы. Потым дадаем воцату. Перад тым, як падаць на стол, нарэзаныя прадукты мяшаем з соўсам і дробна накрышанай цыбуляю, пятрушкаю або кропам. Салат на стале можна ўпрыгожыць скрыгельчыкамі гатаваных буракоў, кавалачкамі селядцоў і бялком яек (гатаваных яек).

Доза: на 1 селядзец сярэдніх размераў трэба дзве лупленыя бульбы, 1 яблык, 1 кіслы агурок, 1 галоўку цыбулі, 1 гатаваны бурак, 1—2



яйкі, тры лыжкі алівы, 2 лыжкі воцату, 1 чайную лыжачку муштарды.

**Салат з фасолі.** Гатаваную фасолю астудзіць. У тым жа часе трэба нагатаваць морквы, якую рэжам кубікамі, дадаем зялёнага салату і ўсё разам перамешваем і кладзем у пасудзіну.



У пасудзіне ўжо павінна быць муштарда, соль, цукар, аліва, воцат, усё расцёртае і вымяшанае. Салат вымешваем у гэтак прыгатоўленай пасудзіне, фармуем яго накшталт горкі, якую можна ўпрыгожыць цэлымі лісцямі салату, скрыгельчыкамі морквы або яблык.

Доза: на 1 шклянку фасолі — 2 або тры морквы, 75 грам сельдэру, 200 грам салату, 2 сталовыя лыжкі расліннага масла, гэта значыць, алівы; муштарду, воцат, цукар даем паводле нашага ці гасцей смаку.

**Як рабіць соўс майянэз?** У высокую пасудзіну ўліваем сырыя жаўткі яек, солім і мяшаем. Затым уліваем невялікімі порцыямі расліннае масла (аліву) за кожным разам добра перамешваючы яе з жаўткамі. Калі аліва і жаўткі зробяцца падобнымі да густой і аднастайнай масы, дадаем воцату. Калі соўс занадта густы можна дадаць лыжку цёплай вады. Для больш вострага смаку можна дадаць чвэрць чайной лыжачкі муштарды, якую трэба добра ўмяшаць у жаўткі яшчэ перад тым, як пачнем

дадаваць аліву і рабіць цэлы гэты майянэз.

Майянэз дасканала смакуе пры мясе. З такога майянэзу можна рабіць іншыя майянэзы — са смятанай, карнішонамі і т. д.

Доза: на паўшклянкі алівы — 1 жаўток і 1 лыжка воцату.

**Майянэз са смятанай:** чвэрць шклянкі майянэзу і чвэрць шклянкі густой смятаны, 1 лыжка воцату.

**Майянэз з карнішонамі:** паўшклянкі майянэзу і 5—6 карнішонаў, дробна парэзаных. Можна спрабаваць зрабіць гэта з кіслымі агуркамі, калі яны невялікія і цвёрдыя.

**Мясны булён.** Мяса абмываем халоднаю вадою, кладзем у каструлю і заліваем яго таксама халоднаю вадою. Гатаваць на моцным агні, каб вада хутка закіпела, а затым гатаваць так, каб вада не выкіпала. Пену трэба знімаць. Добра таксама знімаць і накіпеўшы тлушч, які ад доўгага гатавання мае смак сала. Солім не раней, чым праз гадзіну пасля таго, як закіпіць вада. Усялякія прадукты і прыправы трэба класці ў каструлю не раней, як закіпіць вада.

**Свежая капуста.** Гатуючы свежую капусту прыправы даем перад самым канцом (бабкоў ліст, перац, соль). Калі хочам нагатаваць капусты з бульбаю (лянівай капусты), бульбу ўкідаем праз 15 мінут пасля капусты, а разрэзаныя свежыя памідоры так, як і прыправы — перад канцом гатавання.

**Квашаная капуста,** калі вельмі кіслая, трэба яе выціснуць. Прыправы да яе ўкідаем таксама пры канцы гатавання.

**Булён з клёцкамі.** Заварыць мясны ці курыны булён і адначасова прыгатовіць цеста на клёцкі з мукі ці маннай крупы. На два літры булёну прыгатовіць клёцкі з паўшклянкі мукі. **Клёцкі гатовім так:** у талерку ўліваем чвэрць шклянкі булёну, даем масла, яйка, усыпаем муку, соль і замешваем. На паўшклянкі мукі — 1 яйка, паўлыжкі масла.

Можна такім жа спосабам рабіць клёцкі з бульбы. Гатаваную бульбу мяшаем з сырымі жаўткамі яек, потым дадаем збітых бялкоў і зноў мяшаем. На 3 бульбы патрэбна 3—4 лыжкі мукі і 2 яйкі.

Клёцкі гатуем у булёне.

**Суп з вішань і рысам.** Дастаць костачкі з вішань, заліць іх 4—5 шклянкамі гарачай вады, даць цукар, заварыць і працадзіць. У адвар засыпаем рыс і гатуем на працягу 30 мінут. На пяць мінут перад канцом гатавання ўсыпаем адцэджаныя вішні.

На 30 дэка вішань патрэба 4—5 лыжак рысу, паўшклянкі цукру.

**Гуляш.** Мяса рэжам кубікамі, пасыпаем соллю, перцам і падсмажваем. Дадаем дробна нарэзанай цыбулі, пасыпаем мукою і ўсё гэта яшчэ раз падсмажваем. Потым кладзем усё ў каструлю, заліваем 2—3 шклянкамі булёну або вады, дадаем бабковага лісту, накрываем і тушым паўтары гадзіны. Гуляш трэба есці з гатаванай бульбай, якую для апетыту пасыпаем пятрушкаю або кропам, дробна нарэзаным.

**Зразы з цяляціны.** Цяляціну рэжам тонкімі кавалкамі, велічынёю як далонь і асцярожна адбіваем (хаця б валкам). Тым часам трэба падсмажыць цыбулі, дробна накрышанай, намачыць чорствага хлеба ў малаку і выціснуўшы, змяшаць хлеб з цыбуляю, крыху падсаліць, даць перцу, добра вымяшаць і падсмажваць на слабым агні. На кожны кавалак мяса накласці па лыжцы гэтай падсмажанай мешаніны, звінуць у трубачку, перавязаць ніткаю і пасаліць. Затым пакласці мяса на патэльню і на моцным агні хутка падсмажыць так, каб набрала яно апетычнага выгляду. Пасля таго змяншаем агонь, даем шклянку булёну або вады і тушым на патэльні 40—50 мінут. На стол падаем зразы без нітак і паліваем іх сокам з патэльні.

Доза: на паўкіля мяса 1 галоўка цыбулі, 10 дэкаў чорствага хлеба без скарынак, паўшклянкі малака.

**Гуляш з лёгкіх.** Прамытыя лёгкія пакласці ў гарачую ваду і гатаваць на слабым агні паўтары да двух гадзін. Пасля парэзаць лёгкія кубікамі, пасыпаць перцам, соллю, абсмажыць на патэльні ў гарачым тлушчы, пасыпаць мукою, дадаць дробна накрышанай цыбулі і смажыць так яшчэ некалькі хвілін.

Абсмажаныя лёгкія кладзем у каструлю, даем дзве з паловаю шклянкі вады, у якой яны гатаваліся, бабкоў ліст і гатуем 10—15 мінут. Лёгкія трэба есці з гатаванай або смажанай бульбай.

Доза: на паўкіля лёгкіх 1 галоўка цыбулі, 1 лыжка мукі, ну, і тлушч.

**Соўс з хрэнам.** Лыжку мукі злёгку падсмажыць, растварыць шклянкай гарачага булёну з адвару мяса, дадаць смятаны і гатаваць на слабым агню праз 5—10 мінут. Адначасова падрыхтаваць хрэн: у малую каструлю або на патэльню пакласці па дзве лыжкі масла і цёртага хрэну, і злёгку падсмажыць. Затым уліць 1—2 лыжкі воцату і столькі ж вады з адвару, дадаць бабковага ліста, 5—8 гарошкаў чорнага перцу і паставіць на агонь па тое, каб выпарыць вадкасць. Перагатаваны хрэн змяшаць з прыгатоўленым соўсам, заварыць, і зняўшы з агню, пасаліць, дадаць кавалачак масла і размяшаць.

На 1 лыжку мукі патрэбна 2 лыжкі нацёртага хрэну, паўшклянкі смятаны, 2 лыжкі воцату і 2 лыжкі масла.

**Соўс са смятаны.** Лыжку мукі крыху падсмажыць, вядома, на масле і дадаць адну шклянку мяснога адвару (булёну, як гэта фахова называецца). Затым даем смятану і гатуем на слабым агню каля 5—10 мінут. Пасля гатавання солім, кідаем кавалачак масла і размешваем.

Доза: на паўшклянкі смятаны па адной лыжцы мукі і масла.

**Увага!** Гаворачы аб часе гатавання, разумеецца час ад моманту, калі закіпіць.

**Печаныя кураняты.** Прыгатаваць тушку, ачысціць, пасаліць і абсмажыць з усіх бакоў на разагрэтай патэльні або ў неглыбокай каструлі з маслам. Затым уставіць кураня ў духоўку.

Калі няма іншай магчымасці пячы, можна гэта зрабіць на патэльні, у якую ўліваем 1—2 лыжкі вады, накрываем пакрыўкай і смажым на слабым агню не менш, чым 20 мінут і не больш, чым паўгадзіны.

Спечанае кураня разбіраем на часці, укладаем на талерцы, паліваем сокам з патэльні і прыхарошваем яго зялёным салатам або пятрушкаю. Такім жа спосабам можна спячы маладую курыцу.

На адно кураня трэба дзве лыжкі масла.

**Смажаная бульба** смачнейшая, калі смажым яе сырую, хаця патрабуе гэта крыху больш часу.

Калі **смажым гатаваную бульбу** трэба парэзаць яе тонкімі скрыгелікамі, укласці некалькімі слаямі на разагрэтай патэльні з маслам, дадаць солі і мяшаючы смажыць на моцным агню 5—10 мінут. Усмажаную бульбу добра пасыпаць накрышаным кропам або пятрушкаю.

**Сырую бульбу смажым** падобным спосабам з тым, што можна смажыць яе і ў гарачым тлушчы. Сырую бульбу, парэзаную скрыгельчыкамі, кладзем у гарачы тлушч на патэльні і смажым, варочаючы яе да таго часу, пакуль не паявіцца смакавіты ружовы колер. Трывае гэта, пераважна, 10—12 мінут. Саліць трэба не ў патэльні але непасрэдна перад ядою.

Бульба добрая на снеданне або вячэру — з агуркамі, памідорамі ці рыбаю.

**Бульбяныя катлеты** робім з гатаванай бульбы. Калі бульба згатуецца, трэба яе не толькі адцадзіць але і пакінуць у гаршчку на дзесяць мінут, каб прасохла. Потым таўчэм яе, дадаем лыжку масла, жаўткі яек, добра размешваем і робім катлеты. Катлеты трэба абкачаць у муцэ або сухой булцы, а затым звычайна пасмажыць на масле.

На 1 кг бульбы патрэбна 2 яйкі, паўшклянкі мукі, 4 лыжкі масла.

**Бульбяныя піражкі з грыбамі.** Бульбу рыхтуем гэтаксама, як і для бульбяных катлетаў. Сухія грыбы трэба прамыць, згатаваць, дробна пасячы іх і падсмажыць на масле, затым дадаць дробна пакрышанай і падсмажанай цыбулі, солі, перцу і замяшаць. Бульбяную масу раздзяляем накшталт малых ляпёшак, пасярэдзіне якіх кладзем прыгатаваныя грыбы, завіваем на падабенства паўмесяца. Піражкі мочым яйкам, абкочваем у сухой булцы і смажым на разагрэтым масле.

Доза: на 1 кг бульбы патрэба 10 дэкаў сухіх грыбоў, 2 галоўкі цыбулі, 2 яйкі, паўшклянкі сухой булкі (тоўчанай), 4 лыжкі масла.

**Бульба тушаная са свежымі грыбамі.** Ачышчаныя і прамытыя грыбы апякаем кіпенем, рэжам і смажым на патэльні разам з цыбуляю. Бульбу таксама падсмажваем і потым разам з падсмажанымі грыбамі ўкідаем у каструлю, заліваем вадою да верхняга слою, дадаем солі, укідаем бабкоў ліст, перац, 1—2 галінкі пятрушкі і, накрыўшы каструлю пакрыўкай, тушым на агні 25—30 мінут. У бульбу можна пакласці 1—2 лыжкі смятаны.

Тушонку можна зрабіць і з сушанымі грыбамі. Грыбы трэба згатаваць, парэзаць і абсмажыць разам з цыбуляю. Частку грыбнога адвару можна выкарыстаць для тушонкі.

Доза: на 75 дэкаў бульбы патрэбна 50 дэкаў свежых грыбоў (сушаных адпаведна менш), 1—2 галоўкі цыбулі, паўшклянкі смятаны, 3 лыжкі масла.

**Тушаная капуста.** Накладаем каструлю капусты, даем лыжку масла, паўшклянкі вады або яшчэ ляпей, адвару з мяса, і тушым 40 мінут. Затым дадаем падсмажаную цыбулю, воцат, цукар, бабкоў ліст, перац і тушым яшчэ дзесяць мінут. Калі капуста гатовая, даем падсмажаную з маслам муку, размешваем усё і заварваем.

Свежую капусту можна замяніць квашанай, тады не трэба даваць воцату.

На 1 кг капусты — 2 галоўкі цыбулі, добра даць 2 лыжкі тамату, 1 лыжку воцату, 1 лыжку цукру, 1 лыжку мукі і 3 лыжкі масла.

**Грыбы ў смятане** робім так: прамываем іх і апарваем кіпенем. Калі сцячэ вада, рэжам, солім і падсмажваем на масле. Пад канец смажання добра даць чайную лыжачку мукі і перамяшаць. Затым даем смятану, пракіпаем, пасыпаем цёртым сырам і запякаем.

Падаючы іх на стол трэба пасыпаць зелянінай, найляпей кропам або пятрушкаю.

Можна запячы ў смятане і кансерваваныя грыбы, якія трэба прапаласкаць, парэзаць і пасмажыць. Далей робіцца гэтаксама.

Доза: на паўкілё свежых грыбоў — паўшклянкі смятаны, 25 грамаў сыру, 1 чайную лыжачку мукі і 2 лыжкі масла.

**Грыбы смажаныя,** белыя — рыжыкі ці шампіньёны — чысцім, прамываем, апарваем гарачай вадою і сушым. Потым рэжам, солім і абсмажваем з абодвух бакоў. Смажым на масле. Пасля таго грыбы пасыпаем мукою і яшчэ раз смажым. Даем іх на стол у патэльні.

На паўкілё грыбоў трэба 3—4 лыжкі мукі, 2—3 лыжкі масла.

**Тушаныя грыбы,** як: ліскі, апенькі, сыраежкі — чысцім, прамываем і заварваем у падсоленай вадзе. Адцадзіўшы, кладзем іх у кастрюлю з разагрэтым маслам, дадаем 2—3 лыжкі мяснога адвару, накрываем пакрыўкай і тушым, прыкладна, каля 30 мінут. Грыбы вельмі добра есці, калі яны пасыпаны накрышанай зелянінай — кропам або пятрушкаю.

**Украінскія галушкі.** Муку прасеяць, зрабіць у ёй ямачку, у якую уліваем паўшклянкі вады, 2 сталовыя лыжкі растопленага масла і 2 яйкі, размешаныя з няпоўнай чайной лыжачкай солі. Усё гэта мяшаем разам з мукою, пакуль не будзе гладкае і не вельмі густое цеста.

Цеста развалкаваць роўным слоем таўшчынёю паўсантыметра і парэзаць на невялікія кавалкі.

Кавалкі цеста (галушкі) укідаем у падсолены кіпень і гатуем на слабым агню каля 10 мінут. Гатовыя галушкі выплываюць наверх, ловім іх і кладзем у друшляк, каб сцякла вада з іх. Тым часам у каструлі або на патэльні разаграваем масла, кладзем туды галушкі, крыху падсмажваем, варочаючы іх, і можам ужо есці.

Галушкі можна заправіць смятанаю.

Калі няма масла, можна ўжыць тлушчу, а галушкі заправіць скваркамі.

Доза: на дзве з паловаю шклянкі пшанічнай мукі даем 2 яйкі, паўшклянкі смятаны, 10 дэкаў масла.

**Наліснікі з тварагом.** Цеста і тварогавую мешаніну рыхтуем гэтаксама, як пры блінах. Робім тонкія блінчыкі, у якія кладзем тварог і загортваем яго накшталт каўбасак. Так падрыхтаваныя наліснікі трэба намачыць сырым яйкам, абкачаць у сухой булцы і падсмажыць на патэльні. Замест масла можа быць шмалец. Наліснікі трэба есці ў смятане або з канфітурамі (варэннем).

**Кампот са свежых яблыкаў або груш.** Ачышчаныя яблыкі разрэзваем на 6—8 частак, вырэзваем сэрцавіну. Каб ачышчаныя яблыкі не пацямнелі, перад гатаваннем укідаем іх у халодную ваду; добра, калі гэту ваду падквасім цытрынавым парашком. Тым часам у кастрюлю сыплем цукар, уліваем дзве шклянкі гарачай вады, тады кладзем яблыкі і на малым агню гатуем 10—15 мінут, пакуль не зробяцца мяккімі.



Калі кампот робім са спелых антонавак, не трэба залішне пераварваць — даволі, калі толькі закіпіць.

Кампот са свежых груш рыхтуем гэтаксама. Калі грушы вельмі спелыя, даволі толькі, калі вада закіпіць. Піць кампот найляпей, калі ён халодны.

На 50 дэкаў яблык або груш патрэбна няцэлую шклянку цукру, а пры салодкіх гатунках — нават менш трэба цукру.

**Кампот з сушанай садавіны.** Сушаную садавіну дватры разы прамываем у цёплай вадзе, заліваем 4 шклянкамі халоднай вады і на малым агню гатуем не больш, як паўгадзіны часу.

Цукру даем каля паўшклянкі на 20 дэкаў сушанкі.

**Крэм са смятаны.** Смятану ўліваем у кастрюлю, усыпаем цукар, ванілію, ставім на лёд або ў халодную ваду і спружынаю б'ем пену, пакуль маса смятаны не павялічыцца **ўдвая.** Затым у гэту смятану ўліваем, безупынна мяшаючы, раствораны жэлацін. Жэлацін трэба ліць асцярожна, тонкім струменьчыкам. Потым добра вымешваем і зараз жа разліваем у формы для ахалоды.

Крэм можна прыгатовіць ужываючы таксама расціснутых малін, трускалак і іншых ягад. Напрыклад, малінавую масу ўліваем ва ўспененую смятану яшчэ перад тым, як будзем уліваць жэлацін. Гэтаксама і з другімі ягадамі.

На 1 шклянку смятаны патрэбна паўшклянкі молатага цукру і 10 грамаў жэлаціну.

Падобны спосаб вырабу і іншых крэмаў. Пена, якую робім, павінна быць настолькі густая, каб трымалася спружыны (якой звычайна карыстаюцца нашы гаспадыні). Можна карыстацца і спецыяльным жалезным венічкам, некаторым удаецца зрабіць пену працуючы самай звычайнай сталовай лыжкай.

**Малінавы напой.** У шклянку малака даем 2 лыжкі малінавага соку, паўлыжкі цукру, мяшаем, даліваем вады і падаем на стол тады, калі добра настыне ў халодным месцы.

**Вішнёвы напой.** Замяшаць чвэрць шклянкі вішнёвага і паўлыжкі цытрынавага соку, дадаць няцэлую лыжку цукру, крыху солі, падварыць на слабым агню не больш, чым 5 мінут, потым астудзіць.

Так прыгатоўлены сырап змяшаць з малаком (няцэлую шклянку) і добра замяшаць. Падаваць гасцям толькі халодны.

**Хлебны квас.** Насушыць у печы хлеба, зважаючы, каб не прыгарэў. Такія сухары кладзем у кастрюлю або бочачку, заліваем іх кіпенем, закрываем, адстаўляем на 3—4 гадзіны. Потым настой

цэдзім, даем дрожджы, цукар, мяту. Накрываем сурвэткаю і адстаўляем на 5—6 гадзін. Калі квас пачынае пеніцца, трэба яго яшчэ раз працадзіць і разліць у бутэлькі, у якія можна ўкінуць па некалькі разынак. І моцна закаркаваць.

Перад каркаваннем коркі добра намачыць у гарачай вадзе, каб былі мякчэйшымі. Бутэлькі стаўляем у халодным месцы, найляпей пакласці іх на баку. Праз два-тры дні квас гатовы.

На 10—12 бутэлек квасу патрэбна 1 кг разовага хлеба, 25 грамаў дражджэй, 20 дэка цукру, 20 грамаў мяты і 50 грамаў разынак.

**Варэнне** можна зрабіць з кожных ягад і садавіны. Ягады або садавіна павінны быць неперaспелыя.

На кожны кілаграм садавіны або ягад трэба браць 1 кілаграм цукру. Гэта дае магчымасць атрымаць дастатковую колькасць сырапу падчас гатавання варэння. У такім сырапе ягады і садавіна дасканала захоўваюцца і не псуюцца. Гатаваць варэнне можна не толькі на цукры, але і на мёдзе, даючы столькі мёду, колькі цукру (1 кг садавіны і 1 кг мёду). Альбо можна даваць палову мёду і палову цукру.

У міску кладзем ачышчаную садавіну, засыпаем цукрам і т. д. Гэтак мы, перавaжна, робім. Ёсць іншы спосаб прыгатаўлення варэння. Заварваем ваду, у якой раствараецца патрэбная колькасць цукру. Калі цукар поўнасцю растворыцца, знімаем раствор з агню, кладзем у гэты гарачы раствор падрыхтаваную і ачышчаную садавіну ці ягады, зноў ставім пасудзіну на агонь, каб закіпела на моцным агню. Зважаем, каб садавіна не пачала нам прыгараць. Калі варэнне даварваецца, трэба зняць з яго пенку і лёгка скалануць пасудзінаю. Вельмі важна ведаць, калі варэнне гатовае, бо ад таго залежыць будзе яго якасць і трываласць.

Ці варэнне ўжо гатовае можна акрэсліць наступным спосабам: калі кропля сырапу, налітая на сподачак і астыўшая, не расплываецца, застаецца такою самаю, значыць, варэнне гатовае. Апрача таго ў гатовым варэнні садавіна або ягады не выплываюць наверх, але раўнамерна размяшчаюцца па цэлай пасудзіне. Прытым, пераважна, робяцца яны празрыстымі.

Гатовае варэнне студзім, знімаем з яго пенку, разліваем па слоіках, якія найляпей абвязаць пасля пергамінавым паперам і шпагатам. Варэнне трэба трымаць у сухім прахладным месцы.

**Варэнне (канфітуры) з трускалак.** Падрыхтаваныя, ачышчаныя трускалкі ўкідаем у завараны сырап цукру з вадою, зважаючы, каб ніводная трускалка не выставала з раствору, інaчай кажучы, сырапу. Гатаваць на слабым агню.

Калі трускалкі надта сочныя, трэба раней засыпаць іх палавінай цукру, прызначанага для варэння, і паставіць на 5—6 гадзін у прахладнае



месца. Пасля зліць нацёкшы сок, дадаць рэшту цукру і гатаваць іх не даючы вады.

На 1 кг трускалак — 1 кг цукру і паўшклянкі вады. Да сочных трускалак не даем вады.

**Варэнне з маліны.** Падрыхтаваныя маліны засыпаем палавінай цукру, прызначанага ім і адстаўляем іх на 5—6 гадзін у прахладнае месца. З нацёкшага цукру варым сырап, дадаючы другую палову цукру. Калі сырап зварыцца, крыху студзім яго і потым кладзем маліны, пасудзіну злёгку падтрасаем, каб маліны добра аселі, і зноў ставім на агонь.

1 кг малін і 1 кг цукру.

**Варэнне з вішань.** Заварваем сырап з вады і цукру. У гэты гарачы сырап усыпаем вішні і гатуем.

На 1 кг вішань трэба паўтара кілаграма цукру і няцэлую шклянку вады (на сырап з цукру).

**Варэнне з агрэсту.** Прамыты і ачышчаны агрэст усыпаем у міску, апырскваем яго гарэлкаю або раствораным спіртам і адстаўляем у халоднае месца на 5—6 гадзін. Далей гэтаксама як пры варэнні з вішань.

**Варэнне з яблык.** Для такога варэння найляпей падыходзяць салодкія гатункі яблыкаў. Яблыкі ачысціць ад сэрцавіны. Рыхтуем сырап, у які кладзем яблыкі і гатуем іх да таго часу, пакуль не зробяцца яны празрыстымі. Калі частка яблык будзе гатовай раней ад рэшты, іх трэба асцярожна дастаць лыжкаю, перакласці ў міску, а

рэшту гатаваць да поўнай гатоўнасці.

Для арамату можна дадаць крыху ванілії або іншых пахучых прыправаў.

Доза: на 1 кг яблык патрэбна 1 кг цукру і няцэлую шклянку вады для заваркі сырапу.

**Варэнне з груш.** Цвёрдыя, неперасpелыя грушы ачысціць ад скуркі, парэзаць, вырэзаць сэрцавіну, пакласці ў каструлю, заліць халоднаю вадою так, каб яна пакрыла толькі грушы, і гатаваць, пакуль яны не зробяцца мяккімі. У пасудзіну, у якой будзем гатаваць варэнне, усыпаць цукар, заліць яго дзвюма шклянкамі адвару з груш, размяшаць і заварыць. У гарачы сырап з цукру і адвару ўкідаем грушы, і гатуем з іх варэнне на малым агню.

Доза: на 1 кг груш патрэбна паўтара кілаграма цукру.

**Павідла з яблык і сліў.** Яблыкі, парэзаныя і ачышчаныя, і слівы без костачак, кладзем у каструлю, заліваем вадою, накрываем пакрыўкай і гатуем да мяккасці. Затым, не даючы астыць, праціраем іх праз сіта. Потым дадаем цукру, дакладна мяшаем і гатуем зноў, часта памешваючы на слабым агню да патрэбнай густаты. Трэба гатаваць каля паўтары гадзіны.

На 1 кг яблык і 1 кг сліў дадаем 1 кг цукру і 1 шклянку вады.

**Марынады** можна прыгатовіць з рознай садавіны, гародніны, ягад і грыбоў. Якасць марынадаў у значнай меры залежыць ад гатунку воцату. Калі воцат моцны (6-ціпрацэнтавы), дык трэба яго растварыць вадою напалову, потым дадаць солі, цукру, перцу, гваздзікаў, бабковага ліста, заварыць і астудзіць.

Падрыхтаваныя фрукты, ягады ці гародніну кладзем у слоікі і заліваем прыгатоўленым астыўшым воцатам. Каб марынады не псаваліся, можна заліць іх зверху тонкім слоем алівы (расліннага масла). Трымаць марынады трэба ў сухім і прахладным месцы.

**Марынаваныя агуркі.** Невялікія і цвёрдыя агуркі абмываем, палошчам кіпенем, кладзем радамі ў слоік, дадаем галоўку часнаку і стручок чырвонага перцу. І так заліваем іх прыгатоўленым воцатам. Слоікі дакладна закрываем. Праз нейкі час трэба зноў даліць воцату, бо агуркі ўбіраюць яго ў сябе.

На 1 кг агуркоў — 2 шклянкі прыгатоўленага воцату і 1 лыжка солі.

**Марынаваныя памідоры.** Трэба падабраць невялікія і цвёрдыя, неперасpелыя памідоры. Найляпей выбіраць памідоры слівападобнага выгляду. Абмываем іх і кладзем у слоік ці іншую нейкую пасудзіну (шчыльную).

На кожную шклянку воцату, які хочам прыгатовіць для марынаду, трэба дадаць адну шклянку вады, чвэрць шклянкі цукру, паўлыжачкі чайнай солі — і прыправаў. Усё гэта заварыць, астудзіць і заліць памідоры. Калі праз 2—3 дні воцат зробіцца мутным, яго трэба зліць у каструлю, яшчэ раз перагатаваць, даць астыць і зноў заліць ім памідоры.

**Маласольныя агуркі.** Абмываем і кладзем у банку (слой) агуркі, перакладаючы прыправамі — кропам, часнаком. Заліваем агуркі халодным расолам — на 1 літр вады перагатаванай — 2 або 3 лыжкі солі. Агуркі будуць гатовы праз 2 дні.

Можна прыгатовіць маласольныя агуркі на працягу некалькіх гадзін. Для гэтага трэба абрэзаць верхавінкі агуркоў і заліць іх гарачым расолам.

**Засол агуркоў.** Для засолу агуркоў трэба выбраць невялікія штукі, з тонкай скурачкай і свежыя.

Пажаўцеўшыя агуркі трэба адкінуць. Рэшту абмываем халоднай вадою. Дно драўлянай кадушкі трэба выслаць абмытымі дубовымі лісцямі, могуць быць лісці чорных парэчак або вішні. Затым кладзем кроп, хрэн, часнок. На ўсё гэта ўкладаем шчыльна агуркі, найляпей, насамі ўніз. Пад кожны новы слой агуркоў трэба даць лісці і прыправы, потым шчыльна закрыць кадушку. Праз дзірку ўліць расол і заткнуць.

Агуркі можна засаліць і ў кадцы. Заліўшы іх расолам трэба прыцiснуць іх нейкім гладкім (і чыстым) каменем але так, каб ён не падушыў агуркоў. Добра падкласці пад камень шырокую дошчачку. Расол павінен пакрываць агуркі не менш, чым на чатыры - пяць сантыметраў. Кадку паставіць у прахладным месцы.

На вядро вады даем 60 дэкаў солі, 50 грамаў кропу, паўстручка чырвонага перцу, 1 галоўку часнаку, паўкораня хрэну.

**Кіслая капуста.** Невялікую колькасць капусты (5—10 кг) можна квасіць у слоях або ў гліняных гаршчках.

На 10 кг капусты даем 25 дэкаў солі.

Дно кадушкі трэба чыста вымыць, пасыпаць тонкім слоем разовай мукі, пакрыць цэлымі лісцямі капусты і моцна ўтаўчы капусту, прыкрыўшы яе зверху цэлымі лісцямі капусты. Для смаку і арамату можна дадаць да капусты цэлай або нарэзанай морквы, і антонаўскіх яблык (антонавак). Рэшту ведаем як рабіць (патрэбны камень, дошчачка пад камень).

Калі пена перастане паяўляцца, значыць, капуста закісла. Падчас закісання капусты трэба некалькі разоў пратыкаць яе навылет бярозавым кіём, каб даць выйсце газам. У выпадку, калі паявіцца плесня, трэба асцярож-

на зняць камень і дошчачку, і абмыць іх кіпенем.

**Мочаныя яблыкі.** Найляпей прыдатныя тут антонаўкі. Дно кадушкі высцілаем лісцямі чорнай парэчкі або вішні. На лісці кладзем некалькі радоў яблык, хвосцікамі ўгору. Потым прыкрываем іх новым слоем лісцяў, на які зноў кладзем яблыкі. Такім чынам запоўнім усю кадушку, прыкрыўшы яе зверху слоем лісцяў.

Заліваць яблыкі трэба спецыяльна прыгатоўленай салодкай вадою. **Робіцца яе так:** разовую муку заліваем кіпенем, солім, добра размешваем, даем адстаяцца і потым працэджваем. На 10 літраў вады трэба ўзяць 20 дэкаў разовай мукі і 2 лыжкі солі, а таксама 40 дэкаў цукру або 60 дэкаў мёду, дадаючы потым яшчэ 3 лыжкі солі. Усё гэта заварыць і астудзіць.

Кадушку з яблыкамі трэба паставіць у халодным месцы, яблыкі прыкрыць дошчачкай, на якую кладзем камень.

У першыя 3—4 дні яблыкі будуць уцягваць многа вільгаці, таму ў кадушку трэба даліваць салодкай вады або звычайнай халоднай вады. Вады ў кадушцы павінна быць на 3—4 сантыметры вышэй дошчачкі з каменем (камень павінен выставаць з вады). Праз 30—40 дзён яблыкі гатовы.

**Засол грыбоў.** Для халоднага засолу прыдатныя рыжыкі, сыраежкі, грыбы званыя валовымі языкамі. Трэба пакласці іх на 5—6 гадзін у халодную ваду, а рыжыкі толькі прамыць.

Прыгатоўленыя так грыбы кладзем у кадушачку абслой і перасыпаем соллю. На 1 кг грыбоў патрэбна 50 грамаў солі, а сыраежкам і валовым языкам хопіць па 40 грамаў солі. Затым прыкрываем іх і кладзем нейкі камень (чысты). Калі яны асядуць, дабаўляем яшчэ грыбоў, каб запоўніць цэлую пасудзіну. Праз 5—6 дзён трэба спраўдзіць, ці ёсць у грыбах расол. Калі расолу мала, трэба накласці на іх большы камень. Яны будуць гатовы праз адзін - паўтара месяца.

Так званы **гарачы засол грыбоў** робіцца так: грыбы, вядома, чысцім і сартуем. У белых грыбоў, падбярозавікаў і падасінавікаў абрэзваем карэнні, якія можна засаліць асобна. Большыя грыбы можна разрэзаць на 2—3 часткі. На 1 кг прыгатоўленых грыбоў бярэм: 2 лыжкі солі, адзін бабкоў ліст, тры гарошвінкі перцу, 3 гваздзікі, 5 грамаў кропу, 2 лісці чорнай парэчкі. У каструлю ўліваем паўшклянкі вады, усыпаем соль і ставім на агонь. Калі вада заварыцца, кладзем туды грыбы. Трэба іх далікатна мяшаць, каб не прыгарэлі. Калі вада закіпіць, дакладна зняць з яе пену, потым укінуць перац, бабкоў ліст, іншыя прыправы і гатаваць мяшаючы. Белыя грыбы ад моманту, калі закіпіць вада, павінны гатавацца: падбярозавікі 20—25 мінут, валовыя языкі 10—15 мінут. Грыбы згатаваныя тады, калі пачнуць асядаць на дно, а расол робіцца празрыстым. Згатаваныя грыбы старанліва перакладаем у шырокую пасудзіну, каб маглі хутка астыць. Астыўшыя грыбы кладзем для засолу ў слой ці кадушачку разам з расолам. Расолу не даваць больш, чым пятая частка вагі грыбоў. Грыбы гатовы праз 40—45 дзён.

**Марынаванне грыбоў.** Трэба марынаваць кожны гатунак асобна, нельга мяшаць усіх грыбоў разам. Гатуем грыбы.

У каструлю ўліваем паўшклянкі вады на 1 кг прыгатоўленых грыбоў, дадаем воцату і пачынаем гатаваць іх. Калі вада закіпіць, зняць пенку, пакласці прыправы — бабкоў ліст, перац, гваздзікі, кроп, — і гатаваць яшчэ 20 — 25 мінут. Прычым, грыбы ўвесь час трэба асцярожна мяшаць, тады яны больш раўнамерна пераварваюцца.

Калі грыбы асядуць на дно, значыць гатовы. Каструлю здымаем з агню і студзім, затым перакладаем у слоікі.

На 1 кг грыбоў бярэм паўтары лыжкі солі, паўшклянкі воцату, 1 бабкоў ліст, перац, гваздзікі, 2—3 грамаў кропу. Такая патрэбна доза.

На заканчэнне варта сказаць, што адной з асноўных прычын розных няўдач з'яўляецца бруд і нядбайнасць.



**Як ляпей?**

Спыталі гультая:
— Што ляпей, есці ці ляжаць?
Гультай адказаў:
— Ляпей за ўсё есці лежачы.

**Не ты**

— Зноў хіба сынок падабраў у мяне грошы!
— А можа гэта я ўзяла?! — дапякла мужу жонка.
— Не, не ты. У партфелі засталося яшчэ крыху грошай.



Хулігана не трэба шукаць, ён сам кідаецца ў вочы.

(З думак Яські Апалоніка)

# Польшча і Беларусь—айчына славянаў

Вядома, што беларуская мова захавала ў сабе найбольш падабенстваў да старажытнаславянскай мовы, а беларусы з'яўляюцца найбольш славянскім народам — было гэта заўважана ўжо ў мінулым стагоддзі м. ін. вялікім польскім этнографам Міхалам Фэдароўскім. Сталася так у выніку працяглай ізаляцыі Беларусі ад агульнаславянскага і еўрапейскага развіцця. Але не толькі Беларусі.

Польскі вучоны Казімеж Тымянецкі лічыць, услед за іншымі вучонымі, што назва Мінска — дaславянская г. зн. балта - славянская, калі балцкія і славянскія плямёны з'яўляліся яшчэ адным цэлым у сэнсе мовы і побыту, і яшчэ не распаліся яны на дзве розныя ад сябе племенна-моўныя групы, што адбылося каля паўтары тысячы год да нашай эры (каля трох з паловаю тысяч год таму назад). Старая назва Мінска - Менеск, Менск (астатняя афіцыйна ўжывалася ў беларускай адміністрацыі да 30-тых гадоў). Даславянскае або балта-славянскае слова «меня» абазначала: мінацца, мяняцца, абменьвацца, вандраваць.

Разам з тым характэрнае тое, што літоўская мова з'яўляецца адной з найбольш архаічных індаеўрапейскіх моў, у ёй шмат падабенстваў да стараіндыйскай мовы санскрыт (тры тыс. год назад). З другога боку, суседняя ёй беларуская мова належыць да найбольш архаічных моў Славяншчыны. Даславянскае слова «скаті» абазначала: круціць, накручваць, пакручваць. На Сакольшчыне, напрыклад, у Крынках кажуць у форме праклёну: «Каб цібе скаціло!»

Назва стараіндыйскіх кніжак **«веда»** мімавольна нагадвае беларускае слова «ведаеш» («ведаю», «ведаць» і г. д.), таксама «веды», «веда» — напрыклад, навуковыя веды і т. д. І польскае слова «веш» («вем», «ведзець»), таксама «ведза» — напрыклад, «ведза лекарска, тэхнічна» і т. д.

Старажытны грэцкі гісторык Герадот (V. ст. да н. э.) упершыню ўспомніў пра славянскія плямёны неўраў і будынаў, што засялялі тэрыторыі цяперашняй Польшчы і Беларусі. Будыны жылі ў ваколіцы сярэдняга і верхняга Дняпра. Паводле Герадота, былі гэта людзі русавалосыя, сінявокія, высокія. Займаліся яны не толькі сельскай гаспадаркай але і лоўляй рыб, баброў, выдраў, што выразна насоўвае думку аб Палессі. Насоўваецца прыраўнанне: **будыны** — і старaславянскае слова — **буда** — потым беларускае — **будыніна — будынак** (хата). Суседзі будынаў — паляўнічыя фіны, і качэўныя скіфы на стэпах цяперашняй Украіны — не будавалі сяліб, вялі вандроўны спосаб жыцця (паводле Тацыта).

Вучоныя наогул згодныя, што даўняй айчынай славянаў з'яўляюцца польскія і беларускія землі — апрача цяперашніх паўночна-ўсходніх тэрыторыяў Польшчы і паўночна-заходніх тэрыторыяў Беларусі, якія засялялі балцкія плямёны прусаў, ятвягаў, літоўцаў і, магчыма, іншых яшчэ, невядомых гістарычнай навуцы. Масавая славянская каланізацыя за Карпатамі, на Балканах і над Чорным морам, а таксама на ўсходніх тэрыторыях Еўропы пачалася значна пазней, ужо ў часы нашай эры — і асімілявала пражываючыя там народы. Зрэшты, працэс славянізацыі ўсходніх прастораў Еўразіі адбываецца па сённяшні дзень.

На заканчэнне варта дадаць, што гіпотэзы некаторых вучоных, што быццам бы беларусы сфармаваліся ў выніку асіміляцыі балтаў славянамі аказваюцца мала пераканаўчымі. Гэтыя гіпотэзы апіраюцца найчасцей на дакументацыі адносна балта-літоўскіх уплываў на Беларусі: — між іншым, на слоўнік і акцэнт беларускай мовы, а таксама на археалагічных слядах адносна матэрыяльнай культуры, ў даным выпадку на Беларусі, што наогул ніколі не адпавядае этнічным рубяжам.



**нашых вёсак і вёсачак, складзеная Уладзімірам Паўлючуком для ведама старым і маленькім**

**Альхоўка** — узнікла каля 1757 года з мэтай аховы пушчанскага звяр'я дрымучай Белавежы.

**Арэшкава** — вёска, якая ўзнікла ў XVI ст. з мэтай сцеражэння Бельскай пушчы.

**Белавежа** — узнікла паміж 1670 а 1696 гадамі, як малюсенькая 25-цімарговая асада (паселішча).

**Бельск-Падляшскі** — гарадзішча існавала яшчэ ў XI ст. Правы горада атрымлівае Бельск у 1430 годзе. У 1576 г. у Бельску было 557 дамоў, 57 корчмаў піўных і 8 корчмаў мядовых.

**Боцькі** — узніклі ў першай палове XVI ст., пасля 1508 года, калі боцькаўская аколіца сталася ўласнасцю беларускага магнацкага роду Сапегаў. У 1577 г. да Боцькаў належаць фальваркі: Кнарыды, Дубна і вёскі: Старая Вёска, Кнарыды, Мокра, Рамашкі, Краснае Сяло, Дыдулі, Дубна, Нурэц, Малочкі, Пятроўшчына і Шэшылы.

**Войшкі** — даўней называліся Войснямі. У XVI ст. да вёскі гэтай належыў мост на Нарве. Дакумент ад 1576 г. адзначае, што мост гэты папсаваны, але мае быць адбудаваны ў 1577 годзе. У XIX ст. праз вёску праходзіў важны для Расійскай імперыі паштовы шлях. У Войшках была адзіная паміж Беластокам і Бельскам паштовая станцыя, на якой працавалі мясцовыя сяляне - ямшчыкі.

**Габяты** — вёска ўзнікла ў XV ст. Тут пасяліліся дробныя літоўскія баяры (шляхта).

**Гарадок** — заснаваны ў 1533 годзе на зямлі беларускага магната Хадкевіча.

**Гарасімавічы** — вёска заснавана недзе каля 1578 года.

**Гаркавічы** — вёска ўзнікла каля 1560 года і называлася — Уснар. Жылі тут, так званыя, путнікі, якія разносілі па аколіцы распараджэнні ўлад.

**Дубіны** — заснаваны каля 1670 года з мэтай сцеражэння Бельскай пушчы, уласціва кажучы, Белавежскай пушчы.

**Жукі** — у старых дакументах гаворыцца, што ў месцы дзе цяпер вёска, у канцы XV ст. пасяліўся нейкі Жук з братамі.

**Заблудава** — заснаванае ў 1558 годзе на землях беларуска-літоўскага магната Хадкевіча.

**Збуч** — заснаваны ў палове XVI ст. падчас валочных перамераў каралевы Боны. За вёскаю знаходзіцца старажытны курган, які яшчэ не абследваны вучонымі.





Даўняя капліца ў Кляшчэлях — помнік старой архітэктуры.

**Іванкі** — пачатак вёсцы даў нейкі Іванец Мікашэвіч, які пасяліўся тут у канцы XV стагоддзя.

**Камень** — вёска заснаваная ў палове XVI стагоддзя ў выніку, так званай, «валочнай меры» (перамераў).

**Канюкі** — вёска калісь называлася Рыбаловы. У дакуменце ад 1576 года запісана, што вёсцы гэтай дараваны

ўсе як чынны з прычыны вялікага градападу.

**Карыціск** — вёска, якая заснавана ў XVI ст. падчас, так званай, «валочнай меры», якую праводзіла каралева Бона.

**Кнышэвічы** — вёска, якая заснавана асочнікамі Ахрымам і Марцінам Кнышэвічамі. Яны ў 1553 годзе за 2 капы і 22 літоўскія грашы купілі ад Сцяпана Амеляновіча і П. Лясковіча пчаліныя борці ў Крынскай пушчы, і тут жа пасяліліся.

**Лянева** — узнікла ў першай палове XVI ст. Раней быў тут адзін двор, у якім жыў нейкі Жук Ляновіч з племяннікамі і сябрам Маскам Юсіпавічам Брыкнічам. Стаяла тут таксама нейкая пакінутая хата якогасьці селяніна. Вёска ўзнікла пасля таго, як вялікі літоўскі князь надзяліў гэтай зямлёю бельскага ўрадніка Афанаса Тэрэховіча.

**Масева** — раней было тут толькі ўрочышча Масева ў Белавежскай пушчы. У дру-



**Козлікі** — назва паходзіць ад прозвішча Арана Казловіча, які пасяліўся тут у канцы XV ст.

**Крушыняны** — вёска, якая заснавана каля 1560 года.

**Кудрычы** — пасяліўся тут пасля 1483 года нейкі Міхно Кудравы, які даў пачатак вёскі.

**Курашава** — заснаванае ў палове XVI ст. падчас «валочнай меры».

гой палове XVIII ст. пабудавана тут фабрыку «патасовых» (?) соляў. Выраблялася іх з попелу спаленых пушчанскіх дрэў. Попел гэты выпальвалі буднікі ў Будах і Тэрэмісках. Калі ў 1792 годзе фабрыку ліквідавана, масеўскія хімікі часткова выехалі ў Польшчу, рэшта засталася гаспадарыць на карчавісках, што засталіся вакол былой фабрыкі. У сувязі з тым, што





Даўняя вежа былога манастыра ў Супраслі — і рэканструяваныя рэшткі старажытнай царквы.

не змаглі яны ўсяго заараць ды пераараць, створана фальварак Масева, да якога прыпісана вёску Бабіну Гару і Альхоўку.

**Махнатае** — заснавалася ў палове XVI ст. падчас «валочнай меры» каралевы Боны.

**Міхалова** — у палове міну-

лага стагоддзя існавала тут суконная фабрыка Северына Міхалоўскага, якая працавала на 298 машынах. Машыны пускаліся ў рух коньмі або рукамі. Фабрыка выраблялa да 240 тысяч аршынаў сукна ў год і перараблялa каля 10 100 пудоў воўны. Міхалова яшчэ і цяпер носіць падвойную назву Міхалова - Нязбодка (спіс тэлефонаў). Міхалова называлася — Нязбодка.

**Мора** — заснаванае ў палове XVI ст. Астафеем Малецкім.

**Навасады** каля Гайнаўкі — заснаваныя ў 1763 годзе з мэтай паляпшэння аховы Белавежскай пушчы.

**Нараўка** — заснаваная ў 1639 годзе праз нейкага Выдру з ліўскага староства.

**Нарва** — гарадскія правы Нарва атрымала ў 1514 годзе, пазбаўлена яе гэтых правоў у 1932 г. У 1576 годзе ў Нарве налічвалася 178 дамоў. Жыло тут 47 рамеснікаў, у тым ліку: піўных карчмароў 12, мядовых карчмароў 2, пекараў 5, мяснікоў 2, калёснікаў (?) 12, кавалёў 2, адзін бочачнік (?), гандляроў 2, рыбакоў 7. Усе гэтыя рамеснікі плацілі ад свайго рамяства падатак па 1-ым грашу літоўскім у год.

**Орля** — узнікла ў 1507 годзе. У 1529 годзе ў склад маёмасці асады Орлі ўваходзілі вёскі Тапчыкалы і Кашэлевічы, а таксама паселішча баяр Пашкі (цяпер Пашкаўшчына). У 1577 г. да Орлі належылі вёскі: Кашалі, Шэрні, Тапчыкалы, Клузькі, Вэрвэчкі, Тапарова, Крывая Воля (сёння Крывяцічы), Рудолты (цяпер Рудуты).

**Палічная** — у 1791 г. вёску гэту атрымаў на 50 год Міхал Пальхоўскі, які працаваў пры памеры пушчы. У 1797 г. царскі ўрад аднак адабраў Пальхоўскаму Палічную і перадаў княгіні Гагарынавай, а Пальхоўскаму ўзамен даў вёску Панасюкі.

**Піражкі** — вёска, якая засновалася каля 1560 года і заселена Крынкаўскімі агароднікамі.

**Плебанаўцы** (Клябаншчына). У 1522 годзе заснавана ў Крынках каталіцкі прыход, а плебану гэтага прыходу перадана 5 пакінутых сялянскіх земляў, якія мелі назву: Лідоўшчына, Крыстэлёўшчына, Дзеразоўшчына, Мічэйкоўшчына, Будзьвіцоўшчына. Гэтыя назвы паходзілі ад прозвішчаў гаспадароў, якія раней жылі на гэтых землях. Плебан заснаваў вёску, якую назвалі Плебаноўшчынай.

**Пратасы** — назва паходзіць ад нейкага Пратаса, які пасяліўся тут у канцы XV стагоддзя.

**Райск** — у 1567 годзе ў вёсцы гэтай было зямлі 51 валака, у тым ліку адна валака на царкву, адна валака на каралеўскага карліка Міхала і на войта 2 валакі. З зямлі гэтай сяляне плацілі, між іншым, чынш: амаль 79 бочак аўса, амаль 40 вазоў сена.



**Рэпнікі** — пасяліўся тут у канцы XV ст. Мартын Рэпнікавіч, які даў пачатак вёсцы.

**Рыбалы** — калісь называліся Антановічамі. У 1576 годзе зарэгістравана ў гэтай вёсцы млын на рацэ Нарва, з дзвюма коламі. За гэты млын мясцовы войт плаціў падатак у размеры 4 коп літоўскіх грашоў, а таксама падатак за фолюш да біцця сукна ў размеры 43 літоўскіх грашоў.

**Сакі** — узніклі ў канцы XV ст., калі прыбыў сюды падданы Бельскага гарадзішча нейкі Сак з братам.

**Сальнікі** — у канцы XV ст. пасяліўся тут Станко і Марко Сальнікі, якія далі пачатак вёсцы.

**Скупава** — назва вёскі ўспамінаецца ў адным дакуменце ад 1592 года. Потым, аднак, нічога не чуваць аб Скупаве ў вядомых старых спісах вёсак. Невядома, што далей было з вёскаю. Яе назва з'яўляецца толькі ў XIX ст.

**Стары Корнін** — вёска, якая ўзнікла падчас «валочнай меры» ў канцы XVI ст.

**Харошча** (Хорашч) — узнікла ў 1507 годзе і адразу была заселена людзьмі беларускага і мазавецкага паходжання.

**Эйсманты** — вёска, якая ўзнікла ў XV ст. і заселена літоўскімі баярамі, якія ў сутыкненні з мясцовым людам хутка абеларусіліся.

### Сакрэт

— Кожная жанчына трымае сакрэт да пэўнага часу.
— Так, пакуль каго не сустрэне на вуліцы.

### Ведае

— Гавораць, што ты на Сцяпана ў суд падаў. Гэта праўда?
— Праўда.
— А за што?
— Ён пры ўсіх абазваў мяне аслом.
— Ну і што? Я ж цябе заўсёды аслом заву, але ты не абражаешся.
— Так. Але ты мяне даўно ведаеш.

### Адкуль

— Адкуль у цябе гуз на галаве і сіняк пад вокам?
— Гуз з'явіўся пасля таго, як жонка даведалася, што ў мяне ёсць другая жанчына, а сіняк — калі гэта жанчына даведалася, што ў мяне ёсць жонка.

## БІТВЫ Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Войнаў і бітваў у Белавежскай пушчы было многа, пачынаючы ад крывавых войнаў з ятвягамі і войнаў паміж рускімі, мазавецкімі і літоўскімі княствамі. Усіх іх не пералічым. Тут успомнім толькі аб бітвах, звязаных з навейшай гісторыяй. У меншай ці большай ступені краналі яны ўсіх жыхароў пушчы.

У 1812 годзе ў час шэсця Напалеона на Маскву ў Белавежскай пушчы мелі месца доўгія і крывавыя ваенныя дзеянні, якія трывалі чатыры з паловаю месяцаў. Загінула тады многа людзей і... белавежскіх зуброў. Частка зуброў уцякала ў Свіслацкую пушчу, стаючыся ўласнасцю яе ўладальніка, графа Тышкевіча.

У 1831 годзе падчас лістападаўскага паўстання пушчанская страж пад кіраўніцтвам Фарстмейстра дэ Ранко, па нацыянальнасці швейцарца, а таксама пушчанскія сяляне, асочнікі і лоўчыя перайшлі на бок паўстання. На падмогу белавежскім паўстанцам прыбыў уласнік Свіслацкай пушчы, былы сенатар і генерал Тадэуш Тышкевіч. У пушчы адбылося некалькі бітваў, царскае войска аднак знянацку акружыла паўстанчы штаб ва ўрочышчы Падцаркоўе і разбіла яго. Падчас Студзенскага паўстання ў 1863 годзе ў Белавежскай пушчы знаходзіліся параўнальна вялікія сілы паўстанцаў. Лета тады было гарачае і сухое, што дапамагло паўстанцам хавацца ў балоцістых пушчанскіх зараслях. Царскае рэгулярнае войска пасля нейкага часу знішчыла аднак сілы паўстанцаў.

Падчас другой сусветнай вайны ў Белавежскай пушчы дзейнічалі сілы савецкіх партызан, якім мясцовыя сяляне няслі актыўную падтрымку.

---

### Запасны

Прыйшоў адзін у аптэку і кажа:

— Дайце мне той масці, што раны гоіць.

— А вялікая ў вас рана? — пытае аптэкар.

— Хто яго ведае, якая будзе? Я ж толькі яшчэ іду на вяселле.

---

За песімізмам часта хаваецца звычайная абыякавасць.

(З думак Яські Апалоніка)

---



## ПАГОНЯ

У раёне чыгункі Беласток — Ваўкавыск скінута на парашутах дыверсійную групу спецыяльнага батальёна I Арміі Войска Польскага. У складзе групы знаходзяцца: капітан Ян Яркевіч, паручнік Вацлаў Клярэвіч і немка-антыфашыстка Гільда Фіш. Усе маюць адпаведныя дакументы і мундзіры: Яркевіч выступае ў ролі гаўптштурмфюрэра СС Ганса Шрэдэра, Клярэвіч — гэта ўнтэрштурмфюрэр СС Гельмут фон Клорэнц, Гільда выступае ў ролі вайсковай медсястры. Аб іх піша ў сваёй новай сенсацыйнай кніжцы Станіслаў Міцкевіч.

✲

У невялікай пачакальні станцыі Галынка зазвычай пуста. Нават, калі хтосьці купіў білет да Беластока або Ваўкавыска, лічыў бяспечнейшым пачакаць на поезд недзе паблізу станцыі, чым спатыкацца з мясцовымі чыгуначнымі жандарамі, якія мелі звычай правяраць дакументы амаль кожнай асобы напатканай у пачакальні...

Яркевіч паглядзеў з зайздрасцю на Клярэвіча, які сядзеў побач дзвярэй і апетычна заядаў бутэрброд, і сам захацеў паесці. Хвілю глядзеў на яго і, калі намерыўся ўстаць, каб падысці да Клярэвіча, пачуў, як хтосьці бяжыць па перону, грукаціць падкаванымі абцасамі. Пакуль паспеў што-небудзь прыдумаць, дзверы гвалтоўна расчыніліся і на парозе паявіўся высокі жандар. Моўчкі абгледзеў пачакальню, падцягнуў аўтамат і выбег назад, на перон.

— Кагосьці шукае, — сцвердзіў Клярэвіч паспешліва глытаючы апошні кавалак, — будзем чакаць Гільды?

Неспадзявана недзе блізка зароў матор і да станцыі пад'ехаў шэры «Мерседэс» з рэгістрацыйнымі нумарамі ваўкавыскага гестапа.

Машына раптоўна затрымалася насупроць дзвярэй. Выскачыў з яе даўганогі гестапавец, падобны да Грубера, а за ім Гільда.

Убачыўшы ўсмешку на вуснах дзяўчыны капітан уздыхнуў з палёгкай.

— Спазнілася, прабачце, — сказала Гільда, — а гэта наш сябра.

— Едзем, — паганяў Яркевіч, вітаючыся мімаходам з незнаёмым.

Сядаючы ў машыну Яркевіч зірнуў у вокны станцыі і ўздрыгануў. У адным акне заўважыў насцярожаныя сляпнякі жандара, які раптам адвярнуўся задам да акна, штосьці выкрыкнуў і знік.

— Хутчэй, — крыкнуў Яркевіч, вымоўна кіўнуўшы галавою ў бок станцыйнага будынка.

Шафёру не трэба было два разы паўтараць. Машына ірванулася наперад і вокаімгненна знікла ў вузкім закавулку. У той жа момант, калі машына хавалася за рагом, на станцыю выбеглі жандары і закрычалі на цэлае горла:

— Хальт! Хальт!

...На палавіне дарогі паміж лесам і мястэчкам Яркевіч штурхануў локцем шафёра і ціха працадзіў скрозь зубы:

— Гоняць нас тры матацыклы.

— Бачу, — адказаў шафёр, — трэба згубіць след.

Як меў гэта зрабіць, сам не ведаў, аднак Яркевіч верыў яму, што патрапіць змануць пагоню.

Ад таго моманту ніхто не адзываўся, машына гналася з хуткасцю звыш ста кіламетраў на гадзіну... У лесе, на скрыжаванні дарог, раптам павярнулі на ўсход. Колы глыбока зарыліся ў пяску, гэтакі след мог заўважыць нават сляпы. Калі машына праехала ад скрыжавання добрых дзвесце метраў і выбралася на цвярдзейшы грунт, шафёр гвалтоўна затармазіў «Мерседэса» і па сваіх каляінах памалу рушыў заднім ходам да скрыжавання.

— Хутка вылазь, — крыкнуў шафёр да Клярэвіча, — зрубай галіну і ліквідуй сляды машыны, дагоніш нас пехатою.

Клярэвіч, прывыклы да неадкладнага выканвання загадаў, на хаду выскачыў з машыны. Упаў, схапіўся на ногі і пабег да бярозкі, якую сцяў некалькімі ўдарамі нажа. Бярозкаю пачаў замятаць каляіны машыны ў пяску...

Гул матацыклаў пагоні паволі нарастаў, набліжаўся да скрыжавання дарог, потым пачаў аддаляцца.

— Удалося, — уцешылася Гільда.

Праз некаторы час, ідучы слядамі машыны, Клярэвіч апынуўся на палянцы, дзе ўбачыў «Мерседэса» і мімаволі адступіў у кусты. Замест шэрай машыны, убачыў ён на палянцы чорную, бліскучую лімузіну з асляпляючай рэгістрацыйнай нікелеванай таблічкай. У акенцах віселі фіранкі. Непадалёку, на пяньку, сядзеў высокі афіцэр гестапа, які спакойна курыў люльку, пускаючы свавольныя клубы дыму. Побач яго маладая брунетка, якая канчае макіяж твару. Толькі адна асоба заставалася такой самай, як і раней: гэта шафёр.

Клярэвіча агарнуў дзікі рогат, які супакойваў напружаныя нервы. Усе паглядзелі на яго са спачуваннем.

— Перамаляваў машыну?

— Каму там хацелася б перамалёўваць машыну, — адказаў шафёр, — змыў з яе акварэльную фарбу, і бліпічыць. Ты таксама можаш змяніць сваю скуру. У багажніку ляжыць для цябе мундзір гестапаўца, дакументы знойдзеш у кішэні.

— Добрыя? — перапытаў Клярэвіч з нечаканай падазронасцю.

— От, такія «на пяць мінут» — шафёр махнуў рукою і дадаў, — вясковаму паліцыянту хопіць.

— Паедзем у Мядухоўскі лес праз Галынку, — сказаў Яркевіч.

Такой прапановы ніхто не спадзяваўся. Шафёр пачасаў пяцярнёю патыліцу.

— Едзем проста ў логава ільва, — пажартавала Гільда.

— Так, проста ў логава ільва, — засмяяўся Яркевіч, — яны, напэўна, не будуць нас спадзявацца на той самай дарозе. І так, едзем у Галынку, бо пагоня на матацыклах можа вярнуцца і гэта пагоршыць нашу сітуацыю.

Шафёр без дыскусіі вывеў зграбна машыну з кустоў, асцярожна выехаў на скрыжаванне дарог і з месца пусціў машыну поўным ходам.

## ВЫЛАЗІЦЬ ШЫЛА З МЯШКА

Давайце ўспомнім, што адбывалася ў апошнія месяцы вайны. Берлін, вуліца Прынц - Альбрэхтштрасе, штаб - кватэра гестапа. Ззяюць гарачыя печы. Гараць у іх даносы, на падставе якіх выслана ў канцлагеры або расстрэлена дзесяткі тысяч антыфашыстаў; гараць матэрыялы аб, так званым, «канчатковым вырашэнні яўрэйскай праблемы». Гараць дас'е разведвальных служб, справы імперскай канцылярыі. Фашысты ліхаманкава замятаюць сляды, аднак нішчаць далёка не ўсё.

Паспешліва фатаграфуюць справы агентуры і сабраныя за доўгія годы сакрэтныя інфармацыі. Упэўнены яны, што фатакопіі гэтых матэрыялаў забяспечаць ім пасля разгрому Германіі прыхільнасць у ворагаў.

Начамі на апусцелых станцыях, абкружаных патрулямі, пад брэх сабак цяжкія жалезныя скрыні з надпісамі «Гехейме рэйхсзахе» — «дзяржаўныя сакрэты», перагружалі ў машыны. Затым едуць яны ў горы, да загадзя падрыхтаваных дзікіх штольняў; машыны едуць таксама і да глыбокіх азёр у гарах.

Раён, дзе зыходзяцца граніцы Аўстрыі, Чэхаславакіі і Германіі, стаў велізарным сховішчам сакрэтаў фашыстоўскай Германіі.

Настаў ліпень 1964 года. На старонках газет свету паявіліся назвы мала каму вядомых Шумаўскіх азёр — Чорнага і Чор-

тавага. Працаўнікі чэхаславацкай тэлевізіі прыехалі сюды здымаць фільм аб шумаўскіх легендах. У падводных здымках дапамагалі ім вадалазы - аматары. Але замест карагодаў вясёлых русалак убачылі яны прывіды апошняй вайны — замінаваныя скрыні. Пасля падрабязнага абследвання частку знойдзеных дакументаў прадстаўлена да публічнага ведама. Гэта пісьмы, падпісаныя кіраўнікамі гітлераўскай разведкі, даносы агентаў, аналізы і інфармацыі.

Не так даўно большасць італьянскіх газет выйшла з сенсацыйнымі загалоўкамі. «Нацысты не верылі Мусаліні і Чыяна, лічылі іх шызафрэнікамі і шпіёнілі за імі». Так, аказалася, што ў скрынях знойдзеных на дне Чорнага возера знаходзілася вялікая колькасць матэрыялаў шпіёнскай дзейнасці немцаў супраць свайго італьянскага саюзніка.

Вядома, што на падставе саюзных дагавораў паміж Германіяй і Італіяй было забаронена праводзіць разведвальную дзейнасць на тэрыторыі саюзніка. Але, што значыць для нямецкай разведкі саюзны дагавор, калі гітлераўцы не верылі Мусаліні і яго кліцы.

Германская разведка вяла інтэнсіўныя назіранні і за міністрам замежных спраў графам Чыяна. У дакуменце аддзела бяспекі, што знаходзіўся паблізу італьянскай граніцы ў Клагенфурце, агент пад нумарам 11725 паведамляе (дакумент датаваны ад 25 верасня 1940 года): ...«Італьянскі міністр замежных спраў граф Чыяна ў сваім акружэнні быццам вельмі зняважліва і зласліва гаворыць аб германскай імперыі»... У канцы наступнага дакумента ад 14 кастрычніка таго ж года ёсць аднатацыя: III. Z. dA. VI E11 (PA Ciano). Гэта значыць — трэці экземпляр дакумента для матэрыялаў аддзела VI E, у дас'е на Чыяна.

Трэба сказаць, што сярод знойдзеных у Чорным возеры дакументаў знаходзяцца матэрыялы аб агентах і супрацоўніках гітлераўскай разведкі і гестапа. Гэтыя дакументы пакуль што не могуць быць апублікаваны. Зрэшты, былым гітлераўскім агентам і так няма чаго зайздросціць: дрыжаць яны на самую дагадку, што могуць гэта быць якраз яго анкеты і даносы, якія трапілі цяпер у рукі камуністычных органаў бяспекі.

## ПАДВОДНАЯ ВАЙНА НЕРВАЎ

У адзін снежаньскі дзень 1942 года ў музычным магазіне пры вуліцы Ф-стрыт у Вашынгтоне паявіўся службовец амерыканскага ваенна - марскога флоту і папрасіў аб пласцінку з уверцюрай да оперы Вагнера «Лятучы галандзец». Толькі пяць асоб ведала, што гэта пласцінка патрэбна тайнаму аддзелу ваенна - марскога флоту зашыфраванаму пад назвай ОП-16-В. Гэты аддзел пачынаў псіхалагічную вайну супроць гітлераўскага флоту — Крыгсмарыне. Некалькі тактаў уверцюры дасканала вядомай немцам оперы Вагнера мела паслужыць сігналам рэгулярных радыёперадач.



Радыёперадачу перадавана тры разы ў тыдзень па сем разоў у адзін дзень праз усе радыёстанцыі, якія знаходзіліся ў распараджэнні кіраўніцтва ваеннай інфармацыі ў ЗША, Паўночнай Афрыцы і Англіі. Апрача таго, аддзел падрыхтаваў праграму: «Пошта ваеннапалоннага», у якой нямецкія і італьянскія ваеннапалонныя, што знаходзіліся ў Амерыцы, маглі перасылаць прывет сваім сем'ям і сябрам на радзіме. «Нямецкім» дыктарам усіх гэтых радыёперадач быў капітан Альбрэхт. Ён выступаў па радыё пад псеўданімам «Роберт Лі Нордэн, камандар — паручнік ваенна - марскога флоту ЗША». У апрацоўцы радыёперадач выкарыстоўвана сакрэтныя матэрыялы разведкі, каб такім чынам узнікла ў немцаў уражанне, што амерыканцы ўсё ведаюць. Архівы аддзела ОП-16-В раслі ад штораз новых матэрыялаў. Сабірана інфармацыі аб розных непаладках сярод персанала Крыгсмарыне, распазнавана ўсякія супярэчнасці, звесткі пра малыя і вялікія скандалы. Аддзел ОП-16-В дасканала ведаў падрабязнасці непаразуменняў у сямейным жыцці адмірала Дэніца, камандзіра гітлераўскай Крыгсмарыне, атрымоўвана інфармацыі пра каханкі нямецкіх афіцэраў у Францыі, аб тэхнічных недахопах падводных лодак і многіх другіх фактах, здавалася б, мала істотных, але як жа важных для прапаганды па радыё.

У кожнай радыёперадачы камандар Нордэн гаварыў аб няпраўдзівых данясеннях камандзіраў нямецкіх падводных лодак. Аддзел ОП-16-В апублікаваў спісак дзесяці такіх камандзіраў, слаўных сваім ілгарствам і прадставіў факты, лічбы, якія давалі довады, што караблі — нібы затопленыя немцамі — ёсць цэлымі і актыўна давозяць боепрыпасы для армій на ўсіх франтах сусветнай вайны.

Пад канец месяца лютага 1943 г. немцы пачалі даваць адпор на акцыю Нордэна. Перадавалі, напрыклад, паведамленні, у якіх камандзіры падводных лодак яшчэ раз пацвярджалі, што яны напраўду затапілі той-а-той карабель! Сталася ясным, што немцы перайшлі да псіхалагічнай абароны, іх вера ва ўласную прапаганду пахіснулася.

Апрача таго, яшчэ адзін факт паказаў, як вялікі ўплыў мацець радыёперадачы Нордэна. Звычайна, камандзірам падводных лодак, якія асабліва вылучаліся ў бязлітаснай вайне на моры, прызнавана рыцарскія крыжы — высокая ўзнагарода ў гітлераўскай сістэме ўзнагарод. Аддзел ОП-16-В даведаўся цераз разведку, што сярод падафіцэраў такую ўзнагароду атрымала ўсяго адна асоба. У сувязі з гэтым пачалася кампанія крытыкі адмірала Дэніца за дыскрымінацыю падафіцэраў пры ўзнагародзе рыцарскім крыжам.

На рэзультаты гэтакай кампаніі не прыйшлося доўга чакаць. Пасля трэцяй радыёперадачы Нордэна, Крыгсмарыне ўзнагародзіла рыцарскім крыжам двух падафіцэраў флоту. Аб гэтым факце хутка даведаўся аддзел ОП-16-В і камандар Нордэн павіншаваў па радыё ўзнагароджаных падафіцэраў. Сказаў тады: «Аднак у тэксце афіцыйнага паведамлення знайшлася малая памылка. Гэтыя падафіцэры былі ўзнагароджаны не па прапанове адмірала Дэніца, але па прапанове ваенна-марскога флоту Злучаных Штатаў».

З часам Нордэна ўсе ведалі ў нямецкім флоце. Разведка паведамляла, што нямецкія слухачы завуць яго проста — «Боб». Аднойчы малады нямецкі афіцэр, узяты ў палон пасля знішчэння яго падводнай лодкі, запрапанаваў, каб змяніць час радыёперадач Нордэна, бо збежныя яны з часам змены варты, што не дазваляе слухаць іх усім ахвотным. Аднаго разу знішчана падводную лодку пад камандваннем Хайнца Э. Мюлера, які заўзята абараняўся і толькі, калі не было ўжо ніякай надзеі на ратунак, цяжка паранены, пакінуў свой падводны карабель. Паручніка Мюлера і групу матросаў вылаўлена з мора. У бальніцы, калі Мюлер крыху ачуняў, першым яго запытаннем было: «Ці магу гаварыць з камандарам Нордэнам?».



Яго просьба выклікала замяшанне, ніхто не чуў пра камандара Нордэна?! Здзіўлены лекары пыталі: «Хто гэта такі, камандар Нордэн?»

Аперацыя вядзення псіхалагічнай вайны адбывалася ў такой таямніцы, што фактычна ніхто, апрача аддзела ОП-16-В не ведаў Альбрэхта — «Роберта Лі Нордэна, камандара — паручніка ваенна-марскога флоту ЗША». У канцы аднак дайшло да сустрэчы паміж «Нордэнам» і Мюлерам. Яшчэ раз пацвердзілася, як ахвотна слухалі ў гітлераўскай Крыгсмарыне «Боба».

## ДЗІЎНЫ ЛЁТЧЫК З МАЙАМІ

Пасля правядзення дзяржаўных замахаў у Гватэмалі і Іране амерыканская СІА ўзялася за новую тайную аперацыю: пачалася арганізацыя вялікага нападу на Кубу.

Пагодную тропікавую ноччу з 14 на 15 красавіка 1961 года з маскаванага аэрадрома ў Пуэрта-Кабесас у Нікарагуі падняўся ў паветра двухматоравы бамбардзіроўшчык тыпу Б-26. У кабіне лётчыка знаходзіўся толькі адзін чалавек: 35-гадовы Марыё Зуніга. Машына мела эмблемы кубінскай вайсковай авіяцыі: чорныя літары ФАР, а таксама нумар 933. Але Зуніга не быў лётчыкам ФАР. Быў кубінскім эмігрантам у службе амерыканскай разведкі. Ляцеў самалётам СІА ў тайнай місіі СІА.

Перад тым, як падняўся ў паветра, людзі СІА пастараліся аб належны выгляд самалёта. Абстралялі яго з кулямётаў. На корпусе машыны было відаць знакі ад куляў. Зуніга адпаведна пераадзеўся, у кішэні меў пачатую пачку кубінскіх папяросаў. Ведаў напамяць падыктаваную яму інструкцыю СІА. Ляцеў у міжнародны авіяпорт у Майамі, што на Фларыдзе, у ЗША. Чакаў яго чатырохгадзінавы палёт. Ад удачы гэтага палёту і даручанай для Зунігі місіі залежыла ўдача адной з найбольшых аперацый, якія калі-небудзь праводзіла СІА.

Зуніга павінен быў сесці ў Майамі пасля бамбёжкі кубінскіх аэрадромаў кубінскімі контррэвалюцыянерамі. Зуніга меў заданне паведаміць свет аб тым, што ён і яго сябры нібы лётчыкі ФАР, збунтаваліся супроць урада Фідэля Кастра, захапілі самалёты ды збамбілі кубінскія аэрадромы.

У 8 гадз. 21 мінуту Зуніга прызямліўся ў Майамі. Расказы Зунігі былі дакладнай копіяй таго, чаго навучыла яго СІА. Значыць, ён нібы разам з другімі лётчыкамі планаваў уцёкі з Кубы. Але западозрылі аднаго свайго калегу ў тым, што ён у змове з кубінскай службай бяспекі. Баючыся хуткага арыш-

ту пастаноўлена зараз жа ўцякаць. Прытым адпомсціліся за здраду калегі, які нібы хацеў іх «прадаць» кубінскай бяспецы і збамбілі аэрадромы.

Да Зунігі не дапускалі амерыканскіх рэпарцёраў, з увагі, як гаварылася — «на бяспечнасць сям'і, якая засталася на Кубе». У сапраўднасці жонка і дзеці Зунігі жылі ў Маямі, пры ўсім вядомай вуліцы Сют Вест 20 Авеню. Адначасова ў Нью Йорку др Хосе Міра Кардона, старшыня эмігранцкай «Кубінскай рэвалюцыйнай рады» заявіў, што лётчыкі, якія бамбілі кубінскія аэрадромы, былі непасрэдна павязаны з «радай». Гэта заява Кардоны прычыніла шмат палітычных турбот амерыканскаму ўраду.




На здымку: таемны самалёт «933».

Вашынгтон моцна занепакоіўся фактам вялікай шуміхі, якую ўзнялі газеты ў сувязі з налётамі на Кубу і дзіўным лётчыкам Зуніга, які сеў у Маямі. Большасць газет апублікавала афіцыяльную заяву Зунігі, ягоны расказ. Аднак некаторыя газеты пачалі шукаць дадатковых інфармацый. Карэспандэнт «Нью Йорк Таймса» выкрыў шматлікія супярэчнасці ў расказе Зунігі. Карэспандэнт пытаў таксама, адкуль кубінскія эміграцыйныя дзеячы, прыкладна, др Кардона ведаў аб дэзерцыі Зунігі, калі разгалошаныя ўцёкі мелі месца літаральна ў апошнія мінуты (нібы, каб не паспела арыштаваць кубінская служба бяспекі). Карэспандэнт гэтай газеты ў Гаване таксама пісаў аб сваіх сумненнях. Чаму адразу не выяўлена прозвішча Зунігі, гэтага таемнага лётчыка з Маямі? Ясна, што кубінскія ўлады без асаблівых цяжкасцей разбяруцца, хто быў дэзерцірам, уцёкшым на самалёце нумар 933. Гэтакі намёк карэспандэнта моцна ўгнявіў афіцыяльных прадстаўнікоў урада ЗША.

Але найбольш турбот уладам прычыніў адзін рухавы рэпарцёр з Маямі, які дакладна абгледзеў той таемны самалёт «933». Перад усім, заўважыў ён, што ў бамбавых люках ёсць пыл і старыя шматы. З гэтых люкаў, відаць, даўно не кідалі бомбаў. Гэтаксама не былі ўжыванымі і кулямёты, якія не былі нават зараджанымі, а электрычная інсталяцыя — паіржавелая. Затым, гэты жа самы рэпарцёр упэўніўся, што самалёт «933» мае шмат канструктарскіх асаблівасцей, якіх няма ў бамбардзіроўшчыках Б-26, купленых кубінскім урадам. Самалёт «933» напэўна іншай серыі, і ён ніколі не лётаў у кубінскай вайсковай авіяцыі. Рэпарцёр назваў расказ Зунігі — байкаю для маленькіх!

Тым часам у Вашынгтоне, Бісель, шэф аперацыйнага аддзела СІА, аналізаваў вынікі бамбёжкі Кубы. Наогул быў задаволены імі. Бісель лічыў, што наступны налёт дарэшты знішчыць ав'яцыю Кастра. Гэты другі налёт назначыў ён на панядзелак, 17 красавіка на світанні.

Бісель не ўлічыў аднаго: расказ Зунігі газеты выставілі на пасмешышча. У такой сітуацыі прэзідэнт Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі (ЗША) не мог далей гаварыць свету аб нейкай дэзерцыі кубінскіх лётчыкаў. Ніхто ўжо не верыў у гэта. У панядзелак, 17 красавіка нельга было б гаварыць, што гэта другая група кубінскіх лётчыкаў уцякла з Кубы.

Прэзідэнт Кенедзі не мог згадзіцца на такую рызыку. Ранкам, 16 красавіка Бісель атрымаў загад адлажыць планаваны налёт. Бісель пратэставаў супроць такога загаду, пратэставаў таксама намеснік шэфа СІА ген. Кабела. Але іх пратэсты не памаглі.

Тым часам караблі з кубінскімі контррэвалюцыянерамі на барту плылі ўжо да берагоў Кубы. У СІА паспешліва арганізавалі паветраную заслону для дэсанта на берагах рэвалюцыйнай Кубы.

Як вядома нам, гэты дэсант быў мамантальна разбіты войскамі Кастра.

## НА ГРАНІЦЫ

Амерыканскі мільярдэр — назавем яго Смітам — часта ездзіў у СССР і заўсёды, калі толькі работнікі тамажні браліся праверыць яго багаж, адчыняў адзін са сваіх чамаданаў і выцягваў адтуль пачку здымкаў, на якіх быў ён сфатаграфаваны разам з прэзідэнтам Кенедзі. — Мае дарагія, — гаварыў ён. — Ці не хочаце ўзяць сабе на памятку?

Тамажнікі не хацелі, але Сміта перасталі «трасці». Нядаўна Сміт ізноў выбраўся ў падарожжа па Савецкім Саюзе. Тым разам фатаграфій у яго было больш чымсьці раней, і яны былі вялікіх размераў: на цэлую пакрыўку чамадана. Гэта ўжо дарэшты здзівіла тамажнікаў. Вырашана прагледзець багажы амерыканца. І, вось знойдзена 80 сектанцкіх кніжак, і 100 пласцінак з наігранымі пропаведзямі.

Падобным спосабам некаторыя кітайскія таварышы завозяць і засылаюць у СССР брашуры друкаваныя на рускай мове ў Пекіне. Глянеш на такі чамадан або перасылку і, здаецца, нічога тут асаблівага няма — чай ды рыс, але пад другім, падвойным дном — брашуры.

На граніцы безустанку адбываецца ціхая барацьба не толькі супроць варожай прапаганды, але перад усім, супроць кантрабанды і шпіянажу. Незадоўга пасля апошняй змены цэн у СССР, з Масквы выязджала сімпатычная французская турыстка. У падкладцы яе футра знойдзена шэсць тысяч новых савецкіх рублёў. — Не ведаю, як усё гэта трапіла да мяне, — дзівавала нават не пачырванеўшы. Ясна, што яна добра ведала пра грошы бо скупляла іх па заданню разведкі. Заходнім разведачным службам пастаянна патрэбны рублі...

У работнікаў тамажні паўстаюць навыкі: яны ведаюць, з якімі пасажырамі і як трэба гаварыць; каго трэба прагледзець, а каго і так прапусціць. Аднойчы, у Брэсце, праверана багаж аднаго чалавека, які выязджаў заграніцу. Звычайна, людзі бяруць з сабою крыху яды але ў яго — ні крышкі. Тады адбылася паміж ім і тамажнікам такая размова:

— Ёсць у вас савецкая валюта?

— Ні капейкі.

— А заграмічная?

— Не, няма.

— Мабыць, дзе-небудзь засталося ў вас пару капеек? Прыпомніце...

— Ах, так, — кажа пасажыр, — недзе валяецца пяцёрка.

— Пакажыце.



Тамажніка цікавіла, як пасажыр будзе вымаць тую «пяцёрку»? Бачыць — пашныпрыў чалавек у адной кішэні — другой кішэні, і незнарокам выняў адразу сто рублёў! Зараз жа павялі яго на рэвізію і знайшлі пры ім яшчэ не адну сотню рублёў, якія хацеў прагандляваць за граніцаю.

Прыляцеў самалётам арабскі турыст. Пагода была настолькі цёплая, што самі тамажнікі хадзілі ў адных кашулях, але гэты чалавек не скідаў з сябе паліто, хаця пот сыпаўся з яго градам. Сталі гаварыць з ім. «Не, нічога не вязу». Правялі агляд і выкрылі пояс з залатымі манетамі. «Гэта ўсё, — кажа чужаземец, — болей нічога няма». Папрасілі разбуцца. Штосьці надта цяжкія чаравікі?! Паміж усцілкамі і падноскамі знойдзена залітыя клейкай масаю падобныя манеты. Найчасцей, золата правозяць у абцасах, аднак у гэтага араба абцасы аказаліся «чыстымі». Вопытныя кантрабандысты не паўтараюць хітрасцей адкрытых ужо тамажнікамі, камбінуюць новыя. Напрыклад, прыклейваюць манеты пластырам да пят. Стаіць перад тамажнікам такі чалавек, стаіць літаральна на золаце. Неяк у будынку тамажні вельмі доўга сядзела на начным гаршчку дзіцё чужаземнага турыста. Тамажнікаў зацікавіла гэта сцэна і даволі было ўзяць прадмет у рукі, як усё стала ясным: так цяжкіх гаршчкоў не бывае. Аказалася, што быў гэта залаты начны гаршчок царыцы Екацерыны II. Украў яго з музея нейкі злодзей і прадаў таму чужаземцу. На дадатак, яшчэ адна, амаль анекдатычная гісторыя. У адной сям'і бацька быў заслужаны чалавек, ваяваў, не шкадуючы жыцця, і меў многа ордэнаў. Сын пачаў прадаваць бацькоўскія ордэны заграмічным турыстам. Гандаль ішоў шпарка: за ордэн — пачка жавальнай гумы. Каб не тамажнікі, якія «напароліся» на гэтыя ордэны ў турысцкіх багажах, той бацька страціў бы ўсе ордэны, і што найстрашней — сына.

### Калі пачаў?

Бацька: — Сынок, у твае годы я ніколі не лгаў.
Сын: — А, калі ты пачаў, тату?

### Пацешыў

— Маю пяць сыноў і толькі адну нявестку.
— Цешся! Я маю аднаго сына але пяць нявестак!

## КАЛЯНДАР І ПРАВАСЛАЎНЫЯ СВЯТКАВАННІ

Часта ад праваслаўных жыхараў Польшчы чуецца нецярплівыя пытанні: калі ўрэшце зробяць, каб праваслаўныя і каталіцкія (у большасці выпадкаў гэта і дзяржаўныя) святы святкаваліся разам. Праваслаўныя веруючыя перакананы прытым, што святкаванне гэтае павінна адбывацца паводле старога каляндарнага стылю, так, як каляндар гэты з'яўляецца адзіным «справядлівым календаром». На праваслаўныя святы, маўляў, лепшая пагода, ясней свеціць сонца, збываюцца народныя прыкметы, прыгажэй цвітуць кветкі і т. д. Не буду разглядаць гэтых «доказаў». А для цікаўлячыхся «каляндарнай» праблемай хачу падаць асноўныя звесткі аб прычыне сучаснай сітуацыі ў святкаванні рэлігійных святаў.

Стары каляндарны стыль, паводле якога адбываюцца праваслаўныя святкаванні, званы інакш Юльянскім календаром устаноўлены быў у 325 годзе на Нікейскім царкоўным саборы. Вясенняе **зраўнанне дня і ночы** адбывалася тады паводле наваўстаноўленага календара 21 сакавіка. Звычайны год, паводле гэтага календара мае 365 дзён, а пераступны — штогатыры гады — 366 дзён. У выніку — сярэдняя даўжыня года па Юльянскаму календару раўняецца 365 дням і 6 гадзінам. Год гэты з'яўляецца даўжэйшым ад астранамічнага года — гэта значыць ад часу, які патрэбны на тое, каб Зямля абляцела навокал сонца — на 11 мінут і 14 секунд. У практыцы дало гэта такі вынік, што зараз вясенняе зраўнанне дня і ночы маем не 21 сакавіка, як гэта было ўстаноўлена на Нікейскім царкоўным саборы, але 8 сакавіка. З уплывам часу даты Юльянскага календара апозніваюцца, перасоўваюцца ўзад у параўнанні з фактычнымі гадавымі пераменамі.

З'ява гэта заўважана была яшчэ ў сярэдневякоўі і сталася прадметам доўгіх і заўзятых тэалагічных спрэчак. У канцы 1382 года ў каталіцкіх краінах уведзена, так званы, Грэгарыянскі каляндар (ад імя папы Грыгора XIII), які выпраўляў хібы Юльянскага календара. Грэгарыянскі каляндар вярнуў дату вясенняга зраўнання на 21 сакавіка. Каб перасоўванне датаў больш не паўтаралася ўстаноўлена, што гады, парадкавы лік якіх дзеліцца на 100, будуць лічыцца пераноснымі толькі ў тым выпадку, калі колькасць соцен у іх дзеліцца на 4.

Праваслаўная царква не прыняла каляндарнай рэформы. Такім чынам існавалі два каляндарныя стылі: юльянскі і грэгарыянскі (новы стыль), абапёрты на навуковых вылічэннях.



Аздобны крыж.

Ужо ў дарэвалюцыйныя гады ліберальныя колы Расіі выказваліся аб патрэбе замены старога каляндарнага стылю новым. Было гэта зроблена пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Падобныя замены Юльянскага календара Грэгарыянскім — мелі месца пасля I сусветнай вайны ў іншых праваслаўных краінах. Такім чынам праваслаўная царква знайшлася ў каляндарных адносінах у даволі нявыгаднай сітуацыі і царкоўны каляндар нідзе не адпавядаў афіцыйнаму дзяржаўнаму календару. У сувязі з тым пачалася паміж паасобнымі цэрквамі перапіска адносна замены каляндарнага стылю. У пера-



пісцы гэтай сцвярджалася, што праблема календара не з'яўляецца праблемай дагматычнага характару, гэта значыць, стары каляндарны стыль не з'яўляецца нейкай праваслаўнай святасцю, прадметам веры. Тым не менш сцверджана, што замена яго патрабуе глыбейшага абмеркавання і згоды ўсіх праваслаўных цэркваў.

Каляндарная справа некалькі разоў абмяркоўвалася ў Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі. Увядзення Грэгарыянскага календара патрабавалі ад праваслаўнай царквы польскія дзяржаўныя ўлады. Мітраполія не адважылася аднак пайсці на гэты крок да часу вырашэння гэтай праблемы праз Усяленскі Канстантынапальскі патрыярхат. На пачатку 1924 г. Канстантынапальскі патрыярхат разаслаў усім праваслаўным цэрквам пасланне, у якім паведамляў, што пастаноўлена перайсці ў царкоўным вылічэнні часу на Грэгарыянскі каляндар. Патрыярхат прапанаваў дату 10 сакавіка 1924 года ва ўсіх цэрквах лічыць як дату 21 сакавіка. Пад пасланнем віднелі подпісы патрыярха і 9 мітрапалітаў.

Сабор епіскапаў праваслаўнай мітраполіі ў Польшчы пастановаю ад 12 красавіка 1924 года вырашыў увесці Грэгарыянскі каляндар у чэрвені 1924 года. Пастаноўлена, што дзень 9 чэрвеня будзе лічыўся днём 22 чэрвеня, а памяць святых, якіх адзначалася паміж 9 і 22 чэрвеня будзе адзначана разам 22 чэрвеня.

У пазнейшых пастановах рашэнне гэтае тлумачылася з аднаго боку «сыноннай паслушнасцю Усяленскаму патрыярхату» а з другога боку — ахвотай аблягчыць нявыгадную сітуацыю праваслаўных людзей, працуючых у дзяржаўных установах і прыватных — каталіцкіх прадпрыемствах ды ўстановах.

Рэакцыя праваслаўнага насельніцтва на гэтакае вырашэнне была для царквы нечаканасцю. Праваслаўныя вернуючыя не пайшлі ў царкву на святы паводле новага стылю, а на традыцыйныя праваслаўныя святы сілком прымушалі святароў да багаслужэнняў. Акт замены календара трактавалася як здраду праваслаўя, у канфлікт хутка ўмяшаліся польскія адміністрацыйныя ўлады, паліцыя пачала арыштоўваць праваслаўных, стаяўшых у абароне каляндарнай традыцыі, разганяць веруючых, што збіраліся святкаваць паводле традыцыйнага Юльянскага календара і т.д. Канфлікт хутка выкарыстала ўсялякая апазіцыя, якая трактавала ўсё як вынік грубага ўмяшання польскіх улад у справы праваслаўнай царквы.

Апазіцыйныя арганізацыі пачалі распаўсюджваць сярод праваслаўнага насельніцтва адозвы, пратэстуючыя супраць насілля паліцыі, паслы Сейма і сенатары меншасных клубаў апрацавалі ў гэтай справе мемарандум, заварушыліся апа-

зіцыйныя ў адносінах да мітрапаліі епіскапы, адасобленыя ў праваслаўных манастырах краіны.

У такой сітуацыі праваслаўнае духавенства вымушана было пайсці на кампраміс. 12 жніўня 1924 года адбыўся наступны сабор епіскапаў, на якім дазволена духавенству ў мясцовасцях, дзе патрабуюць таго веруючыя, вялікія і мясцовыя святы святкаваць паводле старога стылю. У практыцы, аднак, духавенства на прыходах вярнулася да старога стылю, паводле якога адбываюцца святкаванні па сённяшні дзень.

Няўдача з увядзеннем новага каляндарнага стылю насоўвае некаторыя агульныя рэфлексіі. Безумоўна, адной з прычын гэтай няўдачы быў спосаб каляндарнай рэформы: адбывалася яна, як мы ўжо заўважылі, пры грубым націску польскай адміністрацыі, пры ўдзеле паліцыі і паліцыйных палак. Справу вырашана без якога-небудзь удзелу штацкіх дзейнікаў, без улічэння грамадскай думкі і т. д. Тым не менш востры пратэст праваслаўных веруючых супраць каляндарнай рэформы сведчыць аб характары праваслаўнай рэлігійнасці, аб характары адносін праваслаўных веруючых да свайго веравызнання. Як было ўжо вышэй сказана, праваслаўная царква не лічыць каляндарнай праблемы праблемай дагматычнай, каляндар паводле афіцыйнага становішча царквы не акрэслівае характару, спецыфікі праваслаўнай рэлігіі. З'яўляецца ён (каляндар) справай другараднай. Змяняючы каляндар ні ў чым не змяняецца характару, істоты праваслаўя і яго самабытнасці ў адносінах да каталіцызму.

Зусім інакш справа выглядае з пункту гледжання праваслаўных веруючых — асабліва, традыцыйных праваслаўных сялян. Каляндар з'яўляецца найбольш відавочным, найбольш выразным праявам іншасці праваслаўнага абрадавага быту. Увядзенне новага каляндарнага стылю праваслаўнае духавенства тлумачыла, між іншым, ахвотаю спрыяць інтэграцыі ўсяго насельніцтва Польшчы. Але праваслаўнаму насельніцтву зусім не залежыла на інтэграцыі. Наадварот, залежыла яму на ўтрыманні культурнай і абрадавай самабытнасці, іншасці ў адносінах да каталіцкага, польскага насельніцтва краіны. Абарона гэтай іншасці і самабытнасці была для насельніцтва значна важнейшай, чымсьці абарона абстрактных царкоўных догмаў, за якія змагалася духавенства.

**Мгр УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК**



## ЦІ ТОЛЬКІ МЫ АДНЫ?

Ці па-за Зямлёю жывуць людзі? Вось пытанне, якое цікавіць усіх.

Зямная куля гэта пылінка ў вялізным Сусвеце, які не мае ні пачатку, ні канца. Людзі гэта разумныя стварэнні і можна гаварыць толькі аб тым, ці існуюць яшчэ дзе ў Сусвеце разумныя стварэнні, якія аднак могуць быць зусім непадобнымі да нас, людзей. Нажаль, вучоныя яшчэ не могуць сказаць з усёй пэўнасцю, ці існуюць недзе ў Сусвеце разумныя стварэнні? Але і не могуць цвярдзіць, што не існуюць, бо Сусвет ёсць так вялікі і бясконцы, што немагчыма пагадзіцца з думкаю, што адно на нашай Зямлі існуюць разумныя стварэнні (людзі).



За парусот год людзі на Зямлі будуць мець магчымасці дабрацца ў вельмі далёкія закуткі Сусвету. Навука і тэхніка развіваюцца надта хутка. Скажам для прыкладу, што ў 1915 годзе ў Нямеччыне пабудавана першы самалёт жалезнай канструкцыі, а ўжо ў 1922 годзе сканструявана першы верталёт (гэлікаптэр). Першая радыёперадача адбылася ў 1923 годзе, а ўжо ў 1926 годзе праведзена ў Англіі першыя выпрабаванні з тэлевізіяй. У 1957 годзе Савецкі Саюз сканструяваў і ўдачна запусціў першага «спутніка». Старыя людзі ківаюць галовамі: што будзе далей?

Пакуль што адзіным рэальным спосабам вышукоўвання другіх «людзей» у Сусвеце, гэта выкрыванне радыёсігналаў з далёкага космасу. Магчыма, недзе ў бясконцым Сусвеце нейкія «людзі» хочуць навязаць з намі кантакт і шлюць радыёсігналы, якія разыходзяцца з хуткасцю 300 тысяч кіламетраў у секунду.

З такой жа хуткасцю разыходзіцца і святло (бляск). Адлегласць да зорак, якія бачым на небе, трэба мерацць не ў кіламетрах, а ў светавых годах — такі год **абазначае адлегласць,** якую праходзіць святло за год часу (калі хто хоча, хай спрабуе палічыць гэта ў кіламетрах: 300 000 км у секунду, 60 секунд гэта мінута, 60 мінут гэта гадзіна і г. д.). Бачаныя намі зоркі, адлеглыя ад нашай Зямлі на тысячы і дзесяткі - сотні тысяч светавых год. Магчыма, многія з гэтых зорак ужо не існуюць, а мы, людзі Зямлі, усё яшчэ іх бачым і доўга будзем бачыць. Магчыма, існуюць новыя зоркі, якія яшчэ не бачым. Наш зямны год выдаецца так малюсенькім кавалкам часу, што нават узнікненне нашай зямной кулі выдаецца малюсенькай хвілінкай у маштабах Сусвету. Магчыма, што атрымаем радыёсігналы ад нейкіх разумных стварэнняў з бяздоння Сусвету, якія ўжо даўно перасталі існаваць у выніку нейкай катастрофы планет і г. д.

Часта гаворыцца аб марсіянах. Але на блізкай нам планеце Марс амаль няма кіслароду і вады, гэтых двух першых варункаў існавання якога - небудзь жыцця, хаця б раслін

## ПРА ДЗІЎНЫЯ РЭЧЫ

Бадай, кожны з нас можа расказаць аб дзіўных здарэннях, часта нават нязначных але дзіўных. Напрыклад, прыглядаемся да кагосьці ззаду і той паварочваецца. Альбо моцна думаем аб чымсьці і здзіўляемся, што хтосьці другі якраз загаварыў аб тым жа самым. Нярэдка бывае так, што двух сяброў піша да сябе пісьмо ў адзін і той жа дзень і адзін выясняе ў пісьме другому якраз тое, аб чым той другі сябра думаў.

Называецца гэта **перадачай думак на адлегласць,** а навуковая назва гэтай з'явы, — так званая, **тэлепатыя.**

З'ява тэлепатыі даўно заўважана. Рускі пагромшчык ільвоў, Дураў, заўважыў, што гэтыя страшныя драпежнікі, калі добра прывучаныя, выконваюць загады нават толькі падуманыя.

Спачатку Дураву не паверылі... Потым праведзена падобныя выпрабаванні з сабакамі. Добра прывучанаму сабаку не трэба гаварыць, што ён мае зрабіць у даны момант. Справа ў тым, што мозг высылае і прымае электрычныя хвалі, скажам па-просту, радыёхвалі. У гэтым уся таямніца слынных варажбеяў, што адгадваюць імя і прозвішча, і думкі чалавека.

Мозг асабліва чуллівы на такія хвалі, калі чалавек у злосці, страху або ў вялікай радасці. Тэлепатыя часта выступае сярод закаханых, добрых знаёмых або паміж бацькамі і дзяцьмі. Вельмі часта бывае ў блізнюкоў.

Радасць, гнеў, перапалох прычыняюцца да таго, што мозг раптоўна вытварае электрычнасць, а затым і электрычныя хвалі настолькі моцныя, што другі мозг даволі лёгка прымае іх — даведваецца аб думках.



Тэлепатыя — зусім натуральная з'ява ў жывых арганізмах. Асабліва моцная яна ў звяроў, у чалавека тэлепатычныя здольнасці занікаюць у меру таго, як пашыраецца і развіваецца тэхніка. Па-просту, перастае яна быць патрэбнай.

Вучоныя мяркуюць, што ў будучыні можна будзе прымаць мазгавыя хвалі пры дапамозе тэхнічных сродкаў, спецыяльна чуллівай апаратуры — моц мазгавых хваль надта невялікая. Несумненна, што калісьці дойдзе да канструкцыі аж так чуллівай апаратуры. Тады можна будзе аднатаваць усе людскія думкі. Кожная думка ў мозгу вылучаецца нейкім характэрным «зігзагам» электрахвалі.

**Страшна падумаць,** што калісьці нехта будзе ведаць усе тваe думкі без патрэбы падслухоўвання размоў або фаховай правакацыі. Можна ўявіць сабе, як дзяўчаты і жонкі пачнуць

збіраць грошы на куплю такой апаратуры! Можна толькі пацяшацца, што станецца гэта не так хутка — у кожным разе, не пры нашым жыцці.

## МОЗГ

Мозг з'ўляецца адной з найбольшых таямніц. Ведаем аб ім вельмі мала. Першыя паважнейшыя доследы мозга вёў вялікі рускі вучоны Іван Паўлаў.

Доследы праводзяцца на звярах. Вучоныя здаўна марылі аб магчымасці даследвання мозга жывога але аддзеленага ад арганізма. Такі жывы мозг, без чуцця болю, мог бы шмат чаго выясніць аб сабе пад спраўнымі рукамі і вачыма вучоных. Удалося гэта зрабіць у Варшаве. У выніку надзвычай далікатнай і ўмелай аперацыі ўдалося аддзяліць ад ката яго мозг. Гэты мозг пражыў так больш месяца часу.

З'явілася гэта вялікім дасягненнем навукі на цэлым свеце. Як гэта выглядала. Вось у невялікай зале аднаго з варшаўскіх навуковых інстытутаў, дзе поўна ўсякай апаратуры і дроцікаў — відаць невялікі шэры камячок. Гэта жывы кашэчы мозг. З арганізмам ката злучае яго некалькі ледзь відавочных ніткачак — гэта жылкі і два нервы зроку і нюху. Дзякуючы ім мозг можа бачыць і адчуваць запахі, а кроў, што даходзіць да яго жылкамі «корміць» мозг.

Мозг, як і кот, які корміць свой аддзелены мозг, зусім не адчуваюць болю. Старанліва перарэзана ўсе нервы, якія выклікалі боль. Аднак не ўсёй кашэчы мозг аддзелены ад ката. Пэўная частка мозгу засталася на месцы для кіравання дыханнем ката, яго кроваабаротам і г. д. Адкрыта ўжо даўно, што мозг дзеліцца на розныя, скажам, кіраўнічыя цэнтры (часткі мозгу), як: дыхання, зроку, кроваабароту і г. д.

Варшаўскае дасведчанне з мазгом ката дае магчымасці даследвання таямніц мозга і лячэння яго хвароб. Славутая «валянтова» або падучка, на якую хварэюць у Польшчы дзесяткі тысяч людзей, магчыма, станецца ўжо вылечальнай хваробаю. Дагэтуль лекары ведаюць усяго некалькі рэцэптаў яе залечвання але без гарантыі на ўдачу. Часамі добра лечыць электрычнасць, што звязана, так сказаць, з электрычным характарам усіх з'яў, якія адбываюцца ў мозгу (у нервах даўно заўважана электрычны ток).

Але не толькі хваробы мозга можна будзе лячыць. Можна будзе таксама пазнаваць механіку чалавечых думак, іх паўставанне і зніканне. Не трэба хіба дадаваць, што такія таямніцы мозга ў руках злачынцаў могуць аказацца пагібельнымі ўсяму чалавецтву — як цяперашняя нуклеарная вайна.





## ЗЯМЛЯ НЕВЯДОМАЯ

Аказваецца, што больш ведаем аб далёкіх касмічных прасторах, чым аб нашай зямной кулі. На паверхні Зямлі ўжо адкрыта ўсе выспы і затокі але амаль зусім не ведаем, што дзеецца ўсярэдзіне яе. Вучоныя ўдакладнілі, што таўшчыня абалонкі зямной кулі даходзіць да 50 кіламетраў пад кантынентамі і да 10 км пад Пацыфікам (Ціхім акіянам). Далей адкрыта скальны плашч. Пад гэтым скальным плашчом не вельмі вядома, што ёсць. А яшчэ далей — таемнае гарачае нутро Зямлі.

Нутро Зямлі выклікае найбольшае зацікаўленне. Праўдападобна знаходзяцца там масы жалеза і нікелю. Але, ці гэтае жалеза і нікель расплаўленае, ці нерасплаўленае — невядома яшчэ. Вучоныя вымушаны толькі здагадвацца. Няма практычных спосабаў дастацца да нутра нашай зямной кулі.

Значна лягчэй даследваць абалонку Зямлі. Ужо існуюць тэхнічныя спосабы прабіцца праз усю зямную абалонку. Ужо праведзена бурэнні да глыбіні 8 км. Як вядома, найбольш глыбокія капальні — гэта два з паловаю кіламетраў. (У Японіі існуюць капальні пад акіянам).

Найбольш актыўнымі ў доследах глыбіняў зямной абалонкі з'яўляюцца амерыканцы. Амерыканскі фізік др Эдэмс прапануе стасаваць, так званую, «атамную іголку», якая вытвараючы гарачыню да звыш 1 100 градусаў, растапляла б перад сабою шматкіламетравыя паклады скалаў, і змагла б такім чынам прабіцца ўглыб да 32 кіламетраў.

Пазнанне нутра Зямлі справа надта пільная. Канчаюцца запасы руд, трэба шукаць іх штораз глыбей. Там яны ёсць. Вучоныя і дзяржавы ўсяго свету аб'ядноўваюцца ў гэтых намаганнях.

### Вялікае каханне

– Я кахаю вас больш за жыццё і хачу, каб аб нашым каханні ведаў увесь свет... апрача маёй жонкі.



Чалавек павінен заўсёды думаць пра тое, што гаворыць.
Асабліва тады, калі гаворыць не тое, што думае.

(З думак Яські Апалоніка)







## ЯК НАПІСАЦЬ ПІСЬМО?

Пісьмо, гэта наш візіт, наш прыезд, наша размова, пры пасрэдніцтве пошты. Пісьмы, як і размовы не павінны быць доўгімі, і нуднымі, і частымі. Пісаць трэба старанліва так, як старанліва адзяваемся, ідучы да кагосьці.

Як адрасаваць? Думаю, што час ужо прызвычайваць нашу пошту да адрасаў на беларускай мове. Гэта дазволіць чуцца, як у сябе ў хаце. Вядома, маю тут на ўвазе пісьмы ў вёску. У гарадах, дзе большасць польскага насельніцтва, такі адрас можа быць незразумелым — хаця лісты з СССР таксама не гінуць.

Нельга ў пісьмах крэсліць слоў, бо падобнае гэта на няшчырасць. Так, як бы ты пачаў штосьці гаварыць і не дакончыў... Не трэба пісаць алоўкам, бо падобнае гэта на тое, што не шануеш адрасата. Важнейшыя пісьмы добра напісаць спачатку на чарнавіку, а потым перапісаць іх.

Ці трэба абавязкова запісаць усю картку паперы? Не, не абавязкова. Аднак, у пісьмах любоўных ляпей, калі ўся картка паперы будзе запісанай, робіць гэта ўражанне многасці пачуццяў, якіх немагчыма змясціць, выказаць, на картках паперы...

Дзе пісаць дату? Угары, з правага боку карткі, па-над словамі — «Дарагая Марыся»!

Калі пішам пісьмо да асобы, якой хочам аказаць сваю пашану, асабліва, да старэйшых асоб, тады пісьмо можам пачаць, напрыклад, так: Усімipаважаная Марыя Анісімовіч! — або — Глыбокапаважаны Пане Трахімчык!

Да асоб, якіх добра ведаем, пішам: Сябра Янак! — або — Здароў, Сяргей! — або — Мой Сябра! — або — Паважаны Уладзімір Іванюк! — або — Паважаная Анна Навіцкая!

Так пішам да асоб, якія добра ведаюць нас, або да маладшых ад нас.

А да сяброў пішам больш непасрэдна, крыху з бесцырымонным гумарам. — Бамбіза Ты! Даўно не бачыў пісьма ад Цябе... (Словы «Ты», «Цябе» пішам з вялікіх літар). І далей: — Мілы махляр! — або — Мая Вера! — або — Стары казёл! — або — Сцёпка! Дзе Ты прападаеш, валакіта!

Найтрапнейшым пераказам чуласці з'яўляюцца такія пачаткі пісьмаў, як: — Дарагая!, Дарагі!, Каханая!

Так трэба пачынаць пісьмы, у якіх выкладаем паважныя нашы пачуцці да другой асобы.

Пачынаць пісьмы ад слова: — Мілая! — або — Мілы! — гэта крыху не на месцы, непрыемна ў важных любоўных пісьмах.

Канчаем пісьмы па рознаму! — З пашанай да Вас! — або — З глыбокай пашанай да Вас! — або — З прывітаннем!

Смешна пісаць: — З глыбокай пашанай да Цябе!...

Так сказаць, менш «службовыя» пісьмы канчаем так: — Мой прывет! — або — З прыветам! — або — Цалую Цябе! — або — Твой Шурка — або —Твая Марыся. (У двух апошніх варыянтах выклічнікаў не стаўляем).

У пісьмах да сям'і трэба вылічаць усіх: — Мой паклон Табе, Мама, і Тата! Перадайце ад мяне паклон для Бабулі, цёткі Марыі і дзядзькі Валодзі. Цалую моцна Толіка, Валю і Грышу!

Непрыгожа канчаць пісьмы, так званымі, вершыкамі: — Чакаю атвета, як пташка лета! — або — Я ўночы і ўдзень бачу Твой цень! — або — Маё Ты серабро, напішы мне пісьмо!

Такія вершыкі некаторым падабаюцца і бачаць у іх праяву нейкай асаблівай чуласці. Аднак, яны смешныя, надуманыя і няшчырыя. Проста, брыдкія. Магчыма, цяжка гэта выкараніць, бо як кажуць — беларусы гэта народ паэтаў.

Пісьмы трэба пісаць выразна. Ужо ў першым сказе мы павінны выказаць тое, аб што нам разыходзіцца. Добра напісаны ліст чытаецца лёгка і з прыемнасцю. Кожнае пісьмо цікавае нам, але як жа рэдка лёгкае яно ў чытанні. Часамі прачытаем ужо паўпісьма і не ведаем, у чым справа? Трэба памятаць, што не кожнаму хапае ахвоты дачытаць пісьмо да канца. Таму трэба ў першых сказах перадаць найважнейшае, а потым ужо пісаць аб здароўі і пытаць аб здароўе.

Як пачаць пісаць?

Калі пішам да сябры ў нейкай справе:

Дарагі Юрак! Маю да Цябе просьбу. Калі можаш, давedайся ў кіраўніка, ці наш заказ ужо прыняты...

Калі дзякуем:

Шаноўны Сябра! Шчыра дзякую Вам (Табе) за падручнік, які быў так патрэбны мне. Перашлю яго Вам у канцы чэрвеня...

Дапамінанне аб зварот грошай:

Іван! Не гневайся за тое, што прыпамінаю тыя 500 зл., якія Ты пазычыў у мяне. Цяпер мне якраз надта патрэбны грошы, куплю касцюм, і вымушаны прасіць Цябе, каб Ты звярнуў мне іх...

Імянінавыя віншаванні:

Усімipаважаная Люба Рамантоўская! З нагоды Імянінаў дасылаю Вам шчырыя пажаданні шчасця, здароўя, удачы ў жыцці і працы. З глыбокай пашанай да Вас! Юрак Сцяпанюк.

Або: — Усімішанаваная Ніна... дасылаю Табе... і г. д. (гэтак да блізкай знаёмай).

«Мая мова не з пышных салонаў,
І не з заімшэлых старых томаў кніг,
Мая мова — шум вішань і клёнаў,
Над затоннем вазёраў маіх».

**КАЙКА**
Шчэцін

## ЯКУЮ ВЫБРАЦЬ ШКОЛУ?

Вельмі важная і нялёгкая справа. Бо ж гэта будучыня. Трэба вучыцца, а потым працаваць. І працаваць цэлае жыццё са сваёй прафесіяй. Таму пакуль выбраць сабе прафесію, трэба доўга і сур'ёзна падумаць.

Хочам прыйсці з дапамогай моладзі вёсак, якая ў бягучым годзе скончыць пачатковую школу, і перад якой ужо на многа раней стала нялёгкае пытанне: якую выбраць школу?

Ніжэй падаем адрасы сярэдніх і «засадніčых» прафесіянальных школ, а таксама пэўную звестку аб іх.

### Сельскагаспадарчыя прафесіянальныя школы

Навука ў гэтых школах працягваецца 2 гады. Прыймаецца моладзь ад 15 год, па сканчэнні пачатковай школы. Да школ рахунковасці — ад 16 год. Пры ўсіх гэтых школах ёсць інтэрнаты. За харчаванне ў інтэрнатах трэба плаціць. Калі вучань добра вучыцца і добра сябе паводзіць, можа старацца аб стыпендыю.





## АДРАСЫ:

**OSTROŻANY, pow. Siemiatycze, st. kol. Bielsk-Podl.**
**ZASADNICZA SZKOŁA ROLNICZA (internat)**
**— прафесія: rolnik**

**RUDKA, pow. i st. kol. Bielsk-Podlaski**
**ZASADNICZA SZKOŁA RACHUNKOWOŚCI ROLNEJ**
**(internat)**
**— pracownik administracyjno-biurowy**

### ШКОЛЫ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ПАДРЫХТОЎКІ

СПР-ы — гэта школы для вясковай моладзі, якая мае намер астацца ў вёсцы і працаваць на гаспадарцы. Навука — 2 гады. Прыгатоўваюць яны да прафесіі земляроба, а таксама даюць агульныя веды, каб можна было вучыцца далей у 3-гадовых тэхнікумах сельскагаспадарчых і прафесіянальных.

Прыймаецца моладзь ад 15—18 год, без уступнага экзамену. СПР-ы не маюць інтэрнатаў і прыймаюць толькі моладзь са сваёй аколіцы. Аб адрасах гэтых школ інфармуюць кіраўнікі пачатковых школ.

**Увага!**

Па сканчэнні «засадніčай» сельскагаспадарчай школы і СПР-у можна паступіць у наступныя сярэднія школы:

**CZARTAJEW, pow. Siemiatycze**
**TECHNIKUM ROLNICZE**
**(internat)**
**— rolnictwo**

**RÓŻANYSTOK, poczta Różanystok, pow. Dąbrowa, st. kol. Dąbrowa**
**TECHNIKUM ROLNICZE**
**(internat)**
**— rolnictwo**

Толькі па СПР-ах прыймаюць:

**BIELSK-PODLASKI, ul. Widowska 3**
**TECHNIKUM EKONOMICZNE**
**— wiejski obrót towarowy**

**SOKÓŁKA, ul. T. Kościuszki 38/40**
**TECHNIKUM BUDOWLANE**
**(internat)**
**— budownictwo wiejskie**

Навука ў вышэй пададзеных тэхнікумах працягваецца 3 гады. Прымаецца кандыдатаў, якія не маюць больш 19 год. Уступныя экзамены з польскай мовы і арыфметыкі (пісьмовы і вусны).

3-хгадовыя тэхнікумы, да якіх прымаецца па сканчэнні СПР і 2-хгадовых «засаднічых» сельскагаспадарчых школ, прыгатаўляюць моладзь у наступных напрамках:

1) сельскагаспадарчым,

2) эканамічным
**(specjalność: wiejski obrót towarowy, administracja terenowa),**

3) будаўляным
**(specjalność: budownictwo wiejskie),**

4) механічным
**(specjalność: budowa i naprawa ciągników, samochodów, maszyn rolniczych oraz urządzeń mechanizacji rolnictwa).**

### Прафесіянальныя школы

Прыгатаўляюць кваліфікаваных рабочых будаўніцтва, прамыслу, транспарту, сельскай гаспадаркі, гандлю, рамяства і ўслуг. Навука працягваецца 2—3 гады.

**Прадметы:** польская мова, грамадзянскае выхаванне, фізкультура, прафесіянальныя прадметы і практычнае вывучэнне прафесіі, якое адбываецца ў фабрыках, на будовах, прадпрыемствах і т. д.

Прымаецца кандыдатаў, якія скончылі 15 год жыцця (не больш чым 18). Да некаторых прафесій трэба мець 16 або 17 год. Некаторыя школы маюць інтэрнаты. За харчаванне трэба аплачваць, ёсць магчымасць старацца аб стыпендыю.

Да «засаднічых» прафесіянальных школ уступных экзаменаў няма. У выпадку, калі больш кандыдатаў чымсьці месц, праводзіцца вусны экзамен з ведаў праграмы пачатковай школы.

**Адрасы:**

**BIAŁYSTOK, ul. Słonimska 47/1**
**SZKOŁA RZEMIOSŁ BUDOWLANYCH**
**(internat)**
**— betoniarz — zbrojarz**
**— murarz**
**— monter wewnętrznych instalacji budowlanych.**



**BIAŁYSTOK, ul. Sosnowa 64a**
**ZASADNICZA SZKOŁA ZAWODOWA Nr 1**
**(internat)**
**— frezer**
**— ślusarz**
**— tokarz**
**— stolarz**

**BIAŁYSTOK, ul. M. Nowotki Nr 1**
**ZASADNICZA SZKOŁA ZAWODOWA CZSP**
**(internat)**
**— murarz**
**— fryzjer**
**— optyk okularowy**
**— elektromechanik**

**BIAŁYSTOK, ul. A. Grottgera 9**
**ZASADNICZA SZKOŁA ELEKTRYCZNA**
**— elektromonter**
**— monter urządzeń telekomunikacyjnych**

**BIAŁYSTOK — STAROSIELCE, ul. Szkolna 28**
**ZASADNICZA SZKOŁA ZAWODOWA**
**— spawacz**

**BIAŁYSTOK, ul. H. Sienkiewicza 57**
**ZASADNICZA SZKOŁA ODZIEŻOWA**
**(internat)**
**— krawiec odzieży damskiej lekkiej**
**— krawiec odzieży damskiej ciężkiej**
**— krawiec odzieży męskiej**

**BIAŁYSTOK, ul. A. Mickiewicza 43**
**ZASADNICZA SZKOŁA WŁÓKIENNICZA**
**(internat)**
**— tkacz**
**— przędzarz wełny**

**BIAŁYSTOK, ul. Manifestu Lipcowego Nr 29**
**ZASADNICZA SZKOŁA ZAWODOWA**
**— kucharz żywienia zbiorowego**

**BIAŁYSTOK, ul. Warszawska 63**
**ZASADNICZA SZKOŁA HANDLOWA**
**— sprzedawca**
**— pracownik administracyjno-biurowy**

**BIELSK - PODLASKI, ul. Szkolna 12**
**ZASADNICZA SZKOŁA ZAWODOWA**
**— mechanik maszyn rolniczych**

**HAJNÓWKA, ul. 1-go Maja 17/19**
**ZASADNICZA SZKOŁA ZAWODOWA**
**(internat)**
**— stolarz**
**— ślusarz - mechanik**
**— tokarz**

**MICHAŁOWO**, ul. Gródecka 21
pow. Białystok
**ZASADNICZA SZKOŁA MECHANIZACJI ROLNICTWA**
(internat)
— mechanik maszyn rolniczych
— ślusarz — mechanik

**SIEMIATYCZE**, ul. K. Świerczewskiego 10
**ZASADNICZA SZKOŁA HANDLOWA**
— sprzedawca

**SOKÓŁKA**, ul. Kryńska 39
**SZKOŁA RZEMIOSŁ BUDOWLANYCH**
(internat)
— murarz
— betoniarz - zbrojarz

Па сканчэнні «засаднічых» прафесіянальных школ можна далей вучыцца ў прафесіянальных тэхнікумах (зразумела, у той самай спецыяльнасці, у якой вучыўся ў «засаднічай» школе).

Адрасы:

**BIAŁYSTOK**, ul. M. Nowotki 1
**TECHNIKUM BUDOWLANE (CZSP)**
(internat)
— instalacje i urządzenia sanitarne

**BIAŁYSTOK**, ul. Słonimska 47
**TECHNIKUM BUDOWLANO - DROGOWE**
(internat)
— budownictwo ogólne

**BIAŁYSTOK**, ul. Wł. Broniewskiego 14
**TECHNIKUM MECHANICZNE**
(internat)
— obróbka skrawaniem

### Прафесіянальныя тэхнікумы

Навука працягваецца 4—5 год. Па сканчэнні атрымоўваецца дыплом тэхніка данай спецыяльнасці. Тэхнікумы даюць поўную сярэднюю адукацыю. Прыймаецца кандыдатаў ва ўзросце 15—17 год, па заканчэнні пачатковай школы. Абавязваюць уступныя экзамены пісьмовыя і вусныя з польскай мовы і арыфметыкі, а таксама іншых прадметаў, у залежнасці ад спецыяльнасці.

Цяпер сталі моднымі такія тэхнікумы як: будаўлянае, электрычнае, геадэзійнае, эканамічнае, механічнае і т. п. дзе пры ўступе вялікая канкурэнцыя (на адно месца прыпадае шмат кандыдатаў).



Іншыя зноў, як: млечарскае, лясного промыслу, сельскагаспадарчае, «влукеннічае» і т. п. — гэта тэхнікумы з будучыняй, так як ўсё шырэй і шпарчэй у нашай краіне развіваюцца галіны гэтай гаспадаркі.

Адрасы:

**BIAŁYSTOK**, ul. Mickiewicza 43
**TECHNIKUM WŁÓKIENNICZE**
(internat)
— przędzalnictwo bawełny
— tkactwo
— chemiczna obróbka włókien

**BIAŁYSTOK**, ul. Sz. Żółtkowska 28
**TECHNIKUM MLECZARSKIE**
(internat)
— przetwórstwo mleczarskie

**BIAŁYSTOK**, ul. Sz. Żółtkowska 39
**TECHNIKUM PRZEMYSŁU MIĘSNEGO**
— przetwórstwo mięsne
— piekarstwo

**BIAŁYSTOK**, ul. 1-go Maja 11/4
**TECHNIKUM GOSPODARCZE**
(internat)
— żywienie zbiorowe

**BIAŁYSTOK — Antoniuk**, ul. Fabryczna 1
**TECHNIKUM WODNO - MELIORACYJNE**
(internat)
— melioracje wodne

**BIAŁYSTOK — Dojlidy**, ul. Fabryczna 2
**TECHNIKUM ROLNICZE**
(internat)
— uprawa roślin i hodowla zwierząt w gospodarstwach rolnych.

**BIAŁYSTOK**, ul. M. Nowotki 1
**TECHNIKUM BUDOWLANE**
(internat)
— dokumentacja budowlana

**BIAŁYSTOK**, ul. Słonimska 47/1
**TECHNIKUM BUDOWLANO - DROGOWE**
(internat)
— drogi i mosty kołowe
— dokumentacja budowlana

**BIAŁYSTOK**, ul. Lipowa 41d
**TECHNIKUM GEODEZYJNE**
(internat)
— geodezja

**BIAŁYSTOK, ul. A. Grottgera 9**
**TECHNIKUM ELEKTRYCZNE**
— maszyny i aparaty elektryczne
— elektroenergetyka
— radiotechnika i telewizja

**BIAŁYSTOK, ul. Warszawska 63**
**TECHNIKUM EKONOMICZNE im. M. Kopernika**
(internat)
— ekonomika i organizacja przedsiębiorstw handlowych
— ekonomika i organizacja przedsiębiorstw przemysłowych
— ekonomika i organizacja transportu samochodowego

**BIAŁYSTOK, ul. Wł. Broniewskiego 14**
**TECHNIKUM MECHANICZNE**
(internat)
— obróbka skrawaniem
— budowa maszyn
— naprawa i eksploatacja samochodów

**BIAŁOWIEŻA, pow. Hajnówka**
**TECHNIKUM LEŚNE**
(internat)
— gospodarka leśna

**BIELSK - PODLASKI, ul. Widowska 3**
**TECHNIKUM EKONOMICZNE im. L. Waryńskiego**
(internat)
— finanse i rachunkowość
— organizacja i technika prac administracyjnych

**BIELSK - PODLASKI, ul. Hołowieska 18**
**TECHNIKUM RACHUNKOWOŚCI ROLNEJ**
(internat)
— ekonomika i rachunkowość gospodarstw rolnych

**CZARTAJEW, pow. i st. kol. Siemiatycze**
**TECHNIKUM ROLNICZE**
(internat)
— uprawa roślin i hodowla zwierząt w gospodarstwach rolnych.

**HAJNÓWKA, ul. 1-go Maja 17/19**
**TECHNIKUM PRZEMYSŁU DRZEWNEGO**
— tartacznictwo i wyroby drzewne

**RÓŻANYSTOK, pow. Dąbrowa Białostocka st. kol. Dąbrowa**
**TECHNIKUM ROLNICZE**
(internat)
— uprawa roślin i hodowla zwierząt w gospodarstwach rolnych.

**SUPRAŚL, ul. St. Konarskiego, pow. Białystok**
**TECHNIKUM MECHANIZACJI ROLNICTWA**
(internat)
— mechanizacja rolnictwa



## Ліцэі

**BIAŁYSTOK, ul. Złota 4**
**LICEUM PEDAGOGICZNE DLA WYCHOWAWCZYN PRZEDSZKOLI**
(internat)

**BIAŁYSTOK, ul. Warszawska 29**
**LICEUM MEDYCZNE PIELĘGNIARSTWA**
(internat)
— ochrona zdrowia i pielęgnowanie chorych

**BIELSK - PODLASKI, ul. Nowotki 6**
**LICEUM MEDYCZNE PIELĘGNIARSTWA**
(internat)
— ochrona zdrowia i pielęgnowanie chorych

## Завочныя прафесіянальныя школы

Па заканчэнні «засаднічай» прафесіянальнай школы (zasadniczej szkoły zawodowej) можна працаваць і прадаўжаць навуку ў наступных 3-хгадовых тэхнікумах аб той самай спецыяльнасці:

**BIAŁYSTOK, ul. A. Mickiewicza 43**
**Wydział zaoczny TECHNIKUM WŁÓKIENNICZEGO**
— krawiectwo lekkie
— krawiectwo ciężkie

**BIAŁYSTOK, ul. Sz. Żółtkowska 39**
**Wydział zaoczny TECHNIKUM MIĘSNEGO**
— przetwórstwo mięsne
— technologia żywienia zbiorowego

**BIAŁYSTOK, ul. Warszawska 63**
**Wydział zaoczny TECHNIKUM EKONOMICZNEGO**
— handel

Па заканчэнні «засаднічай» сельскагаспадарчай школы і СПР — можна вучыцца ў:

**RÓŻANYSTOK, pow. Dąbrowa Białostocka**
**KORESPONDENCYJNE TECHNIKUM ROLNICZE**
— rolnictwo

## Завочныя школы па пачатковай школе:

**BIAŁYSTOK, ul. Marchlewskiego 2/1**
**KORESPONDENCYJNE LICEUM OGÓLNOKSZTAŁCĄCE**

BIAŁYSTOK, Dojlidy Fabryczne 26
TECHNIKUM ROLNICZE
Wydział korespondencyjnego kształcenia rolniczego.

* ✲ *

(Мы не падалі адрасоў усіх школ з цэлага Беластоцкага ваяводства, а толькі з паветаў, у якіх пражывае беларускае насельніцтва).

* ✲ *

Прашэнне трэба кіраваць у выбраную школу з наступнымі дакументамі:
1) пасведчанне заканчэння пачатковай школы, якое кандыдат далучае па заканчэнні школьнага года
2) метрыку
3) пасведчанне аб маёмасці бацькоў (ці апякуноў)
4) уласнаручна напісаная біяграфія з асабовай анкетай,
5) лекарскае пасведчанне
6) апінія школы
7) абавязанне бацькоў аб згодзе на аплату за харчаванне (толькі тым, якія стараюцца аб інтэрнат).

* ✲ *

Кандыдаты ў СПР-ы кіруюць прашэнні да кіраўнікоў тых школ з далучэннем:
1) пасведчання заканчэння пачатковай школы, якое далучае па заканчэнні школьнага года,
2) пасведчання аб нараджэнні (метрыка).

**Сэрцайка**



Не вер ветру. У любую хвілю ён можа павярнуцца і пачаць дзьмуць зусім з другога боку.

Чужое шчасце заўсёды большае, а гора наадварот — меншае.

Выйшаў у людзі. А ці стаў чалавекам?

Ёсць людзі, якія прызвычаіліся заўсёды другім рабіць на злосць, і таму самі ніколі не навучыліся шчыра і па-людску смяяцца.

(З думак Яські Апалоніка)







## УСЁ АБ ПЧОЛАХ

— У Польшчы ёсць каля 160 тысяч пасек, у якіх жыве 1 мільён 200 тысяч пчаліных раёў. На адзін квадратовы кіламетр выпадае ў нас па 4 вуллі, тым часам у Чэхаславакіі — па 5 вуляёў, а ў Швейцарыі — па 6 вуляёў.
— Малюнкі знойдзеныя ў святынях і магільнях фараонаў сведчаць, што гадоўля пчолаў была ўжо вядомай у Егіпце 5 тысяч год таму назад.
— У пчаліным раі ёсць 20 да 30 тысяч работніц, з якіх палова займаецца збіраннем мёду. Ёсць каля 300 трутняў. У большых раях ёсць нават да 70 або і 90 тысяч пчол.
— Штогод родзяцца маладыя маткі. Яшчэ перад з'яўленнем першай з іх, старая матка пакідае вулей разам з часткай работніц, і шукае новага месца.
— У сонечны дзень кожная пчала, якая займаецца збіраннем мёду, вылятае з вулея каля 10 разоў. За кожным разам прыносіць у вулей 0,05 грама нектару. Такія пчолы з аднаго вулея наведваюць за дзень каля 250 тысяч кветак. Каб сабраць адзін кілаграм мёду, пчолы ў пошуках кветак пралятаюць усе разам каля 200 тысяч кіламетраў.
— Калі ў аколіцы няма кветак з нектарам, пчолы збіраюць салодкую вадкасць на лісцях дуба, бука і ліпы.
— Сярэдняя вага аднаго рая 3 кілаграмы.

— Найбольш мёду ў Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі, другое месца займае Савецкі Саюз, трэцяе Аўстралія. У Польшчы заўважана, што зусім не выкарыстоўваецца лясоў. Гэта заўвага ў значнай меры датычыць Беласточчыны. Слынны Анонім пісаў у сваіх хроніках аб Польшчы, як аб «айчыне мёданосных лясоў».

— Мёд мае розныя адценні колераў у залежнасці ад гатунку кветак, з якіх ён сабраны. Мёд з белай канюшыны будзе бурштынавага колеру, мёд з верасу — чырвонабронзавага колеру. Найлепшы попыт мае мёд з акацый.

— Калісьці ў Амерыцы не было пчол. Завезена іх туды з Галандыі ў 1621 годзе.

— У Польшчы існуе Пчалярскі тэхнікум у мясцовасці Pszczela Wola, woj. Lublin. Заахвочваем паступіць у гэты тэхнікум. Кажуць, што пчаляры найбольш здаровыя і даўгавечныя людзі. І не дзіва: мёд робіць вельмі добры ўплыў на працу сэрца і ён вельмі сытны для арганізма.

## ЖЫВАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

Яшчэ ў старажытныя часы было вядома, што ў многіх марскіх рыб шмат электрычнасці. Электрычнага **ската** — рымляне называлі яго «тарпеда» — рымскія медыкі часоў Нерана выкарыстоўвалі пры электрашокавым лячэнні. Вядома, старажытныя медыкі не мелі паняцця аб прыродзе электрычнасці і лічылі, што рыба б'е чалавека хвастом настолькі моцна і хутка, што немагчыма ўбачыць яе рухаў але толькі адчуць рэзультаты такога біцця. Лекары таго часу ўводзілі хворых у глыбокі ручай, у якім плывала «тарпеда». Лічылася, што ўдары гэтай рыбы добра лечаць ад падагры, мігрэні і псіхічных хвароб.

Ёсць каля пяцісот розных відаў «электрычных» рыб. З іх вывучаны вучонымі ўсяго каля дваццаці. Для электрычных вугроў, скатаў і падобных даныя ім прыродаю электрастанцыі служаць магутнай зброяй, пры дапамозе якой ловяць і забіваюць яны другія рыбы. У барацьбе за жыццёвую прастору ці за самку самцы многіх відаў электрычнага вугра праводзяць неміласерныя высокавольтавыя бітвы. Тыя рыбы, у якіх «электрастанцыі» слабейшыя, выкарыстоўваюць іх для арыентацыі ў водных прасторах, для напалохання агрэсара або да вышукоўвання здабычы.

Найбольшыя рачныя электрычныя вугры дасягаюць даўжыні двух з паловай метраў. Яго электрычная моц такая, што даволі было б яе, каб запаліць дванаццаць саракаватавых лямпачак.





Вельмі цікава разгледзець, як электрычны вугор выпрацоўвае электрычны ток у сваім целе. Электрычнасць мае кожны жывы арганізм. У мускулах і ў нервах узнікаюць электрычныя патэнцыялы, пераважна, вельмі малыя. Лекар, пры дапамозе электракардыяграфа, адзначае патэнцыялы, што ўзнікаюць у чалавечым сэрцы. Моц такой электрычнасці дасягае ўсяго адной тысячнай долі вольта. Пры розных хваробах сэрца ўзнікаюць розныя патэнцыялы і таму можна выкрываць хваробы сэрца з даволі вялікай дакладнасцю. Варта зазначыць, што пры даследванні сэрца пры дапамозе электракардыяграфа хворы павінен ляжаць на кушэтцы ці ў пасцелі зусім нерухома і вольна. Найменшы нават рух мускулаў вытварае пабочныя электрычныя токі, якія перашкаджаюць правільна запісаць электрычны ток, што вытварае нашае сэрца.

Цела вугра, прыкладна, у сорак працэнтаў складаецца з мускулаў, якія няздольныя скарачацца, але вельмі добра прыстасаваны да «прадукцыі» электрычнай энергіі. Даследванне гэтых мускулаў пад мікраскопам дало магчымасць выясніць, што ў адной тканцы знаходзіцца каля 1—2 мільёнаў малюсенькіх «электрычных батарэяк». Прырода злучыла гэтыя мільёны клетак - батарэяк дакладна гэтаксама, як электратэхнік злучае мноства батарэй у акумулятары. Прыкладна, восем тысяч электрычных клетак стварае адзін элемент такой жывой электрастанцыі. Гэтыя элементы знаходзяцца адзін за другім уздоўж хрыбта электрычнага вугра. Кожны элемент дае электрычны ток да 500 вольтаў. Лік ланцужкоў элементаў у вугра будзе каля 140. Такім чынам сіла электрычнага току дасягае нават аднаго ампера.

Ну, але як сам вугор забяспечаны ад пагібельнага ўплыву сваёй электрычнай бліскавіцы?

У электрычных клетках вугра ўсё ўладжана так, што электрычнасць не пранікае ў іншыя часткі цела, якія не вытвараюць электрычнасці і маглі б быць знішчаны электрычнасцю. Гэта раз. А па-другое, цела вугра бяспечна схаванае пад тоўстай скурай, якая мае ізаляцыйныя ўласцівасці. Таму вугор не гіне ад уласных бліскавіц.

Як вядома, вугор жыве ў кожнай большай рэчцы, а перад усім, шмат яго ў азёрах.

Што ты схаваеш, то прапала; што ты аддаў, то тваё.

**Шота Руставелі**

(XII ст.) — геніяльны грузінскі паэт.





## ХАТНІЯ ГУЛЬНІ

* ✲ *

Бярэм пустое пудэлка ад запалак, вымаем скрыначку асобна, каробачку асобна. Скрыначку стаўляем на каробачку і прапануем знаёмаму моцна ўдарыць кулаком па гэтай устаноўцы так, каб аж разляцелася ўсё на трэскі.

Каробачка і скрыначка разляцяцца ўбокі ад такога ўдару але застануцца цэлымі.

* ✲ *

Пастаўце на стол тры слоікі, у тым ліку адзін слой павінен быць утрая большы.

У два малыя слоікі трэба наліць вады, а вялікі слоік пакідаем пустым. У адзін слоік з вадою апускаем адно яйка, якое адразу патане да дна. Яйка, якое ўкінем у другі слоік, будзе плываць на паверхні, нават, калі і будзем старацца патапіць яго. Затым кладзем яйка (адно) у вялікі слоік, у які потым наліваем вады раз з аднаго слоіка, раз з другога слоіка. Яйка ў вялікім слоіку будзе то выплываць пад верх, то апускацца на дно. Калі ўся вада будзе пераліта ў вялікі слоік з двух малых слоікаў, яйка затрымаецца больш-менш на палавіне вышыні вялікага слоіка. У чым тут справа?

Справа ў тым, што ў адзін меншы слоік налівалі мы чыстую ваду і таму яйка ў ім адразу патанула аж да дна — а ваду ў другі слоік налівалі вельмі моцна пасоленай і таму яйка ў ім плывала па паверхні. А ў вялікім слоіку была ўжо мешаніна гэтых вод.

Людзі даўно заўважылі, што карабель, выплываючы з вялікай ракі ў мора, робіцца як бы лягчэйшы — бо марская вада мае ў сабе шмат солі.

* ✲ *

Поўную шклянку вады пастаўце на стол. Вазьміце тонкую іголку, пацісніце яе пальцамі і пакладзіце на малую палоску папяросавай бібулкі. Бібулку з іголкай пакладзіце на ваду ў шклянцы і пачакайце, аж бібулка намокне, потым асцярожна адштурхніце яе ўглыб вады. Найляпей зрабіць гэта пры дапамозе дзвюх запалкаў. Бібулка памалу патоне, але іголка застанецца, так сказаць, ляжаць на паверхні вады.



* ✲ *

Як зрабіць мароз у цёплым пакоі? Бярэм даволі вялікую каструлю, якую напаўняем да паловы снегам або тоўчаным лёдам.

На столік трэба наліць крыху вады і на гэту калюжыну паставіць каструлю. Калі будзем хутка мяшаць палачкай у каструлі і глядзець, каб яна не зварухнулася з месца, каструля прымерзне да стала. Але, каб прымерзла яна, трэба спачатку ўсыпаць у каструлю жменю солі. Можна ўсыпаць яе так, каб ніхто гэтага не заўважыў — і, калі каструля прымерзне, будзе вялікае дзіва сярод вашых знаёмых.

* ✲ *

Гульня, званая, «інтэлігентам». Хто за дзесяць мінут напіша найбольш паэтаў, артыстаў, музыкаў, палітыкаў і т. д., прозвішчы якіх пачынаюцца ад нейкай адной літары сказанай кіраўніком гульні. Нпр. на літару «К» — Купала, Каліноўскі, Колас і т. д.

Такім самым спосабам можа быць і іншая гульня. Напрыклад, хто хутчэй напіша 10 слоў на літару «К», абазначаючых: краіну, горад, раку, возера, мора, пісьменніка, артыста, машыну, птушку, расліну. Вось прыкладная развязка: Канада, Кракаў, Кжна, Куніс, Каралевае мора, Кандрат Крапіва, Куніцкая, капалка, крук, каліна.

Словы (назвы), якія паўтараюцца ў іншых ігракоў, выкрэсліваем потым і выйграе гульню той, у каго застанецца найбольш слоў.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...ў кожнай тоне марской вады знаходзіцца каля 50 міліграмаў золата? Калі б падзяліць усё золата, якое знаходзіцца ў марах ды акіянах, паміж людзей Зямлі дык кожны з нас атрымаў бы каля 35 тон гэтага дарагога металу.

...за суткі на барадзе мужчыны вырастае амаль 15 метраў валасоў? Ад 20 да 40 года жыцця мужчына зголівае каля 210 тысяч метраў валасоў.

...большасць бураў адбываецца ў другой палове дня, паміж 13 і 24 гадзінай, а найбольш паміж 15 і 18 гадз.? Найбольш бур на свеце мае месца на інданезійскім востраве Ява, бо па 220 у год.





...адна з найбольш старых кітайскіх энцыклапедый складаецца аж з 5 020 тамоў?

...першы раз аб шкоднасці фабрычнага дыму людскому арганізму пісалася ўжо ў Нямеччыне ў 1473 годзе?

...у зямлі аднаго гектара нашых агародаў жыве каля 100 тыс. розных чарвякоў? За год перамяшчаюць яны з месца на месца каля 30 тон зямлі.

...хуткасць удару баксёрскай рукавіцы перавышае 50 км/гадз.?

...сэрца чалавека важыць няцэлых 500 грамаў, але выконвае яно такую працу, якой даволі было б, каб падняць 65-цікілаграмавага чалавека на вышыню 10 метраў?

...найбольш глыбокім месцам на акіяне з'яўляецца, так званы, Філіпінскі роў, дзе ў 1964 годзе англійскі параход «Кук» вымяраў глыбіню да 11 200 метраў?

...у Карлетанвіль у Паўднёвай Афрыцы ўрухомлена надаўна найбольш глыбокую капальню ў свеце? Здабываецца там золата з глыбіні 4 300 метраў.

...у арабскай мове ёсць аж 850 слоў для назвы мяча (меч)?

...барсук, гэта адзіны звер, які спіць на хрыбце?

...у Еўропе апошні раз стралялі з лукаў у 1813 годзе, у час вялікай «бітвы народаў» каля Лейпцыга ў Нямеччыне? Гэта англічане сфармавалі супроць Напалеона атрад узброены лукамі. Кожны такі стралок мог выпусціць у мінуту 12 стрэл, на адлегласць да 200 метраў.

...алфавіт гавайскай мовы складаецца ўсяго з 13 літар?

...вучоныя адрозніваюць каля 100 тысяч розных запахаў?

...у жанчын лепшы нюх чым у мужчын?

...ляпей адчуваем пах левай часткай носа?

...у японскіх школах дзяцей вучаць пісаць не толькі праваю але і леваю рукою?

...егіпцяне пяклі пшанічны хлеб ужо 7 тысяч год таму назад?

...за адну мінуту на Зямлі родзіцца 114 дзяцей — у тым ліку 6 пар блізнят; жэніцца 68 асоб, вырабляецца 68 новых аўтамашын, людзі скурваюць 280 тысяч папяросаў, купляюць 110 тысяч газет, з'ядаюць 4 тысячы тон прадуктаў, выпіваюць каля 3 мільёнаў літраў розных напояў? Усё за адну мінуту.

...большасць звяроў умее плываць? Толькі вярблюд адразу топіцца.

...у кожную секунду над Зямлёю загараецца каля 100 бліскавіц? Сярэдняя даўжыня бліскавіцы 2—3 кіламетры, бываюць і па 10 км.

...усё яшчэ невядома дакладна, колькі моў існуе на свеце? Налічана ўжо каля шасці тысяч. Лічба, так званых, мёртвых моў, якімі ўжо ніхто не гаворыць, ацэнена на лік 4 тысяч.

...на цэлым свеце ёсць каля 2 мільёнаў вучоных? А 50 год таму назад было іх усяго 15 тысяч асоб.

...старажытныя грэкі падчас марскіх бітваў перакідалі на варожыя караблі цэлыя кашы ядавітых вужоў? Гэта не раз дапамагала ім выйграць бітву.



...да 1860 года не было ў Амерыцы вераб'ёў? Прывязлі іх з Англіі для барацьбы з вусеніцамі.

...звычайная хатняя муха бачыць на адлегласць 40 да 70 см?

...чалавек робіць у дзень у сярэднім каля 20 тысяч крокаў? За 70 год свайго жыцця чалавек мог бы не спяшаючы дзевяць разоў абыйсці вакол Зямлі.



...японцы адкрылі амерыканскі кантынент шэсць з паловінаю тысяч год таму назад? На берагах Эквадара знойдзена сляды старажытнай японскай культуры. Ёсць некаторыя падставы меркаваць, што старажытныя фінікіяне заплывалі ў аколіцы цяперашняй Амерыкі.

А ваяўнічыя вікінгі наогул добра ведалі берагі Паўночнай Амерыкі — ад Атлантычнага акіяна.

...самым багатым чалавекам свету быў валадар старажытнай Асірыі, які памёр у 628 годзе да нашай эры? Пасля яго смерці скарб складаўся з 5 мільёнаў талентаў золата. У пералічэнні на нашу вартасць гэта 1 556 мільярдаў долараў.

...найбольш устойлівымі на мароз звярамі з'яўляюцца гусі і качкі? Могуць яны вытрымаць 110 градусаў марозу.

...штогод у Польшчы нішчаць каля 170 мільёнаў банкнотаў?

...штучныя вочы выраблялі ўжо ў XVI ст.? Малявалі іх на керамічных плітках, якія трымалі ў пустым воку пры дапамозе спружынкі. Штучнае вока мог купіць толькі багаты чалавек, каштавалі яны надта дорага.

...пчолы апыляюць каля 100 тысяч гатункаў раслін.



Скандаліст бойка трэпле языком, але гэта яшчэ не значыць, што ён ведае родную мову.

Не крычы «гоп» пакуль табе не пакажуць, цераз што маеш пераскокваць.

Людзі, якія не вераць у слёзы, ніколі ў жыцці не плакалі.

Унікаў людзей і яго пераехала машына.

Ён гэтага не разумеў, але мог правільна растлумачыць.

(З думак Яські Апалоніка)



**Ён не цягне**

Бацька: — Пецька, не цягні ката за хвост!

Пецька: — Я не цягну... Я толькі трымаю, а ён сам цягне.



## ЗМЕСТ





ЦІ ТЫ ЎЖО ВЫПІСАЎ „НІВУ"?
Ніва
**Чытайце, распаўсюджвайце і падтрымлівайце «Ніву». Яна ваш прыяцель і дарадчык.**
Найбольшую падтрымку акажаце сваёй газеце, калі падпішацеся на яе і заахвоціце да гэтага сваіх суседзяў.
Падпіску на «Ніву» прыймаюць усе паштовыя ўстановы і пісьманосцы ў Польшчы. Падпісная цана «Нівы»:
на год — 28,80; на паўгода — 14,40 зл; на квартал — 7,20 зл; на месяц — 2,40 зл;
Можна таксама выпісаць «Ніву» непасрэдна ў Беластоцкім «Руху». У гэтым выпадку трэба ўплаціць адпаведную суму грошай на
Konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski.
«Ніву» можна выпісаць таксама за граніцу (для сваякоў, знаёмых, сяброў і г.д.). Такую падпіску прымае Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024.
Гадавая падпісная цана з высылкай за граніцу 40,40 зл.
Хай кожны беларус будзе падпісчыкам сваёй роднай «Нівы».

# KSIĘGARNIE „DOMU KSIĄŻKI"

- w Białymstoku ul. Kilińskiego 10
- w Bielsku Podlaskim ul. Mickiewicza 51/1
- w Hajnówce Aleja 1 Maja 34

polecają:

książki białoruskie
oraz literaturę radziecką
w języku białoruskim i rosyjskim.

Książki białoruskie i radzieckie, szczególnie dla dzieci i młodzieży, można też nabyć w księgarniach: w SIEMIATYCZACH, SOKÓŁCE, DĄBROWIE BIAŁOSTOCKIEJ i w innych miejscowościach województwa białostockiego.




ODWIEDZAJCIE
KSIĘGARNIE „DOMU KSIĄŻKI"!